ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

24 чэрвеня 1994 г. № 25 (3747) Кошт 150 руб.

## «ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНЫ — БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ...»

***Мікалай КРУКОЎСКІ: «Сталін вельмі насцярожана адносіўся да партызанскага руху на Беларусі і яўна яму не давяраў. Яшчэ будучы ў складзе брыгады, мне здавалася, напрыклад, дзіўным, чаму нас так дрэнна забяспечвалі зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі. Тол прыходзілася са страшэннай рызыкай выплаўляць з кінутых Чырвонай Арміяй артылерыйскіх снарадаў, зброя была пераважна знойдзеная дзе-небудзь у лесе на месцы колішніх баёў».***

**5,12**

## АХ, ІВАН ПЯТРОВІЧ...

***Васіль СОКАЛ: «Народны пісьменнік скептычна ставіцца да руху нацыянальнага адраджэння: «Думаю, што зараз менш робяць, чым мы рабілі». Робяць, шаноўны! Ды яшчэ як робяць шчырыя прыхільнікі беларушчыны, нягледзячы на патокі бруду і дэзінфармацыі, што льюцца на іх са старонак бальшавіцкай, неабальшавіцкай і зубатаўскай перыёдыкі, да якой часам далучаюцца кішэннае саўмінаўскае радыё і тэлебачанне».***

**6**

## ШЧАСЦЕ

***Апавяданне Ніны МАЕЎСКАЙ***

**8—9**

## У АРТЫСТАХ

***Андрэй ДУШАЧКІН: «Для таго, каб не сканаць у роспачы, трэба прывучыць сябе разумець гэты свет. Не любіць або ненавідзець, а — разумець».***

**10**



## СЕМ ЗАПАВЕТНЫХ ЖАДАННЯЎ МАЙСТРА

У нядзелю 19 чэрвеня, на дзень Святой Тройцы, беларуская грамадскасць ушанавала 70-я ўгодкі з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Пісьменнік, як вядома, адмовіўся ад якіх-небудзь афіцыйных (дзяржаўных) урачыстасцей, засведчыўшы тым самым адпаведнае стаўленне да пануючай улады. Ды затое свайго Пісьменніка не забылася шырокая грамадскасць краіны — вялізная армія чытачоў-прыхільнікаў яго творчасці, пабрацімы-літаратары, майстры сцэны, грамадскія дзеячы... У нядзелю ў менскі парк Янкі Купалы, не зважаючы на спорны дождж, сышліся сотні людзей, каб аддаць даніну павагі таленту пісьменніка і мужнасці змагара. Ва ўрачыстай праграме свята са словамі віншавання выступілі Зянон Пазняк, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, паказалі сваё майстэрства артысты тэатраў, музычныя калектывы. Сам юбіляр у кароткай прамове выказаў удзячнасць людзям, што прыйшлі на яго свята, а таксама падзяліўся сямю запаветнымі жаданнямі, якія загадаў на астатак веку: сярод іх галоўныя — каб Беларусь стала сапраўды незалежнай і суверэннай краінай, а беларускі народ нарэшце ўсвядоміў сябе нацыяй; каб інтэлігенцыя наша перастала служыць збанкрутаванай палітыцы і інтарэсам ваенна-прамысловага комплексу і стала сапраўды народнай, нацыянальнай; каб мова беларуская сапраўды стала моваю дзяржаўнай... нарэшце, каб першым Прэзідэнтам Беларусі стаў лідэр дэмакратычнай апазіцыі Зянон Пазняк...

*(Працяг на стар. 2)*



## ПОЗІРК У БУДУЧЫНЮ

У Нацыянальнай мастацкай галерэі (Палац мастацтваў) на працягу тыдня будзе працаваць выстава-абарона дыпломных работ студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў. Аматары мастацтва маюць магчымасць прысутнічаць пры адкрытых абмеркаваннях работ, сустрэцца не толькі з творамі, але і з творцамі.

Экспазіцыя, досыць шчыльная, прыцягвае сваёй разнастайнасцю. Скульптуры і фантазіі манументалістаў удала спалучаюцца з камерным жывапісам і графікай. Дызайнерскія і інтэр'ерныя знаходкі варты ўвагі спецыялістаў. Мяркуйце самі: праекты новых дзяржаўных узнагарод Беларусі, медыцынскага абсталявання, перспектыўнага цягніка метрапалітэна, сельскагаспадарчых прылад, фірменных знакаў, інтэр'ераў — тое, што фармуе навакольны свет і вобраз гэтага свету. Гэта сённяшні і заўтрашні дзень нашага мастацтва.

**Н. Ш.**

*На здымку: на адкрыцці выставы-абароны рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў В. ШАРАНГОВІЧ і прарэктар па навуковай рабоце Л. ДЗЯГІЛЕЎ.*

*Фота А. МАЦЮША*

***22 чэрвеня — трагічны дзень у гісторыі Беларусі. І сёння, праз столькі год, балюча глядзець кадры кінахронікі лета 1941 года... Праз некалькі дзён мы адсвяткуем 50-годдзе Вызвалення. Будзем жа памятаць і тых, чый авантурызм і беспрынцыпнасць фактычна абяззброілі нас напярэдадні фашысцкага нашэсця, і найперш подзвіг народа, які цаною велізарных ахвяр здабыў у 1945 годзе Перамогу...***

## ВЫКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У цэнтральных газетах (падпарадкаваных, дарэчы, Саўміну) «Знамя юности», «Рэспубліка», «Беларуская ніва» і «Советская Белоруссия» быў надрукаваны артыкул «Беларусь цяжарная першым прэзідэнтам». Людзі дасведчаныя былі вельмі здзіўлены тым, што артыкул, які падаваўся як перадрук з галандскай газеты «Amsterdammgufiere» і пад якім стаяў подпіс нібыта галандскага журналіста, вельмі нагадваў стыль Івана Антановіча і Уладзіміра Замяталіна. Як потым высветлілася, няма ў Галандыі такога выдання і не з'яўлялася ў галандскім друку такой публікацыі. Нагадаем, што артыкул абразлівы па форме і змесце, накіраваны супраць кандыдата ў Прэзідэнты Беларусі Станіслава Шушкевіча.

## СВЯТА ТЫДНЯ

19 чэрвеня — Дзень медыцынскага работніка. Для нашай краіны, якая яшчэ не адзін год, а мо і не адно пакаленне будзе змагацца з чарнобыльскай бядой, гэтая прафесія — ці не з найважнейшых. З нагоды свята медыкаў павіншаваў і падзякаваў ім прэм'ер-міністр Кебіч, пажадаў «поспехаў у высакароднай працы, шчасця, людской павагі». Цікава, што напярэдадні свята Саўмін спыніў фінансаванне навуковых доследаў у шэрагу галін медыцынскай навукі ў Беларусі. У дзяржавы няма грошай на зарплату, а Кебічава «дзякуй» у краме замест грошай не бяруць.

## «ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ» ТЫДНЯ

Расія павышае цэны на энергарэсурсы, што пастаўляюцца на Беларусь, практычна да сусветнага ўзроўню. Пра гэта гаворыцца ў тэлеграме кіраўніка дэпартамента цэн Міністэрства эканомікі Расіі і намесніка міністра паліва і энергетыкі, накіраванай арганізацыям паліўна-энергетычнага комплексу і мясцовым органам цэнаўтварэння Расіі. У тэлеграме падкрэслена, што «рэалізацыя энерганосьбітаў па цэнах ніжэй вызначаных у адпаведнасці з парадкам, прадугледжаным гэтай пастановай, з'яўляецца парушэннем дзяржаўнай палітыкі цэн». А хто гэта абяцаў нам рэкі таннай расійскай нафты, а па берагах — горы расійскіх рублёў?

## ТАЯМНІЦА ТЫДНЯ

Як сцвярджае сп. А. Лукашэнка, па дарозе з Віцебска ў Лёзна ягоную машыну абстралялі, на яго асобу быў здзейснены замах. А вось сп. Кебіч і прэс-сакратар КДБ П. Снапок у сваіх выступленнях далі зразумець слухачам, што гэта была кепская інсцэніроўка, прычым, ці не самога сп. Лукашэнкі. Як было на самай справе — таямніца.

## АБРАЗА ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Кебіч заявіў, што спадары Д. Булахаў і В. Ганчар прасілі ў яго высокія пасады ва ўрадзе і, атрымаўшы адмоўны адказ, быццам паабяцалі зрабіць нешта гучнае. Прэм'ер мяркуе, што ґаворка ішла пра правакацыю — інсцэніроўку замаху на А. Лукашэнку. Д. Булахаў і В. Ганчар збіраюцца падаць у суд іскі аб абароне гонару і годнасці.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Калі цяперашняе кіраўніцтва захавае ўладу, зімой мы будзем мець малако па рацэптах у аптэках».

(«Народная газета», 21 чэрвеня).

## ДЭМАНТАЖ ТЫДНЯ

У Германіі распачаліся работы па знішчэнні моста над Эльбай, у Таргау, на якім 25 красавіка 1945 года сустрэліся савецкія і амерыканскія салдаты. Каб захаваць мост, была неабходна рэканструкцыя, якая каштавала б у два разы даражэй за знішчэнне. У мінулым годзе непадалёк быў пабудаваны новы мост.

## ДЭМАГОГІЯ ТЫДНЯ

У «Народнай газеце» за 18—20 чэрвеня надрукаваны артыкул В. Кебіча «Беларусь: проблемы модернизации (ответ оппонентам)», у якім прэм'ер-міністр не дае ніводнага адказу ні на адно з пытанняў, якія ставяць перад ім апаненты. Мяркуючы па артыкуле, любімы паэт прэм'ера (пасля Якуба Коласа) — Алесь Ставер. Асабліва яго радкі: «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць». Не іначай гэту песню напяваў сп. Кебіч, калі 12 красавіка падпісваў са сп. Чарнамырдзіным у Маскве дагавор... аб скасаванні беларускай дзяржаўнасці.

## РЭТРА-ЦЫТАТА ТЫДНЯ

У чэрвеньскім нумары часопіса «Беларусь» пад рубрыкай «Цэнтр Еўропы» надрукавана прамова Прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Акадэміі навук Беларусі 15 студзеня мінулага года. Там ёсць, у прыватнасці, такія словы:

«Сёння вы апынуліся сам-насам з праблемай, якая вымагае поўнай самаахвярнасці, — ажыццяўленне палітычнага і эканамічнага пераходу. Ён на гэтулькі выпрабоўвае вашы сілы, што можа нават дэзарыентаваць. І калі вы прыйдзеце да выбараў, на што я маю спадзеў і аб чым я малюся, вы ўбачыце, што калі людзям цяжка, разам з іхнімі надзеямі часам галасуе і іхняе расчараванне... Але другой альтэрнатывы няма: за рулём павінен быць народ той ці іншай дзяржавы...»

# АДНА ПЕРАМОГА НА ЎСІХ

***Якія б падзеі ні адбываліся, як бы ні ламаліся звыклыя стэрэатыпы і колішнія ідэалы, — ёсць тое, што не раз'ядноўвае, а аб'ядноўвае людзей. Гэта памяць аб мінулай вайне, аб сумеснай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Учарашнія абаронцы Радзімы сёння належаць да розных партый, рухаў, прытрымліваюцца супрацьлеглых поглядаў, але ўсе яны — салдаты Айчыны. І няма ім патрэбы дзяліць Перамогу. Яна, як пяецца ў знакамітай песні, «адна на ўсіх...»***

А што гэта і на самай справе так, пераканаў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праведзены ў Доме літаратара па ініцыятыве Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў.

Адкрыў урачыстасць народны хор ветэранаў Палаца прафсаюзаў сталіцы Рэспублікі Беларусь.

Была ўшанавана памяць тых, хто загінуў на фронце, партызан і падпольшчыкаў. Прагучалі імёны ўсіх пісьменнікаў, якія не вярнуліся дахаты і ўжо не змаглі ўзяцца за пяро.

Вядучы вечара старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў Артур Вольскі гаварыў аб значнасці подзвіга народа ў барацьбе з фашызмам, аб тым, што гэта была барацьба і за нашу цяперашнюю незалежнасць.

Перагортваюцца старонкі вуснай анталогіі аднаго верша. На першых з іх прагучалі творы загінуўшых літаратараў. Вершы паэтаў, якія пайшлі з жыцця, «не долюбив, не докурив последней папиросы», чыталі акцёры ТЮГа Ларыса Горцава і Алесь Курловіч. Пасля выступілі ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, франтавікі і партызаны Аляксей Русецкі, Мікола Аўрамчык, Мікола Татур, а таксама Павел Пруднікаў. Ён, як вядома, на фронт не трапіў, адбываў зняволенне ў сталінскім лагеры, але і так званыя «ворагі народа» працавалі на Перамогу, набліжаючы яе сваёй падняволь-най працай.

Можна па-рознаму ставіцца да афганскіх падзей, аднак вядома адно: салдаты, часта бязвусыя юнакі — ні ў чым не вінаваты. Сярод тых, хто прайшоў праз гэтае вогненнае пекла, і сын паэта Петруся Макаля, цяпер таксама паэт Станіслаў Макаль. З цікавасцю слухалі прысутныя Пятра Міхайлавіча. Як і старшыню Мінскага гарадскога камітэта патрыятычнага руху БЗВ Алеся Станкевіча.

А пасля па просьбе і ветэранаў, і моладзі выступіў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня Беларускага народнага фронту, кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Зянон Пазняк. Зянон Станіслававіч расказаў, што ў гады вайны загінулі блізкія яму людзі, у тым ліку і бацька, які быў цяжка паранены гітлераўцамі, цудам уратаваўся, пасля пайшоў на фронт і не вярнуўся...

На вечары выступілі выхаванцы Беларускага ліцэя мастацтваў Вольга Шушлябіна і Жана Сапега, піяністка Надзея Канаваленка, і зноў — хор ветэранаў. Асабліва ўзрушыла ўсіх славутая песня «Дзень Перамогі» Давыда Тухманава, яна змусіла забыцца пра многае дробязнае і паўсядзённае перад агульнай Перамогай і агульнай Памяццю.

Для М. Аўрамчыка вечар стаў і нечаканай неспадзеўкай. Тут ён сустрэўся са сваім таварышам па фронце Мікалаем Пагарэлавым, з якім разам служыў у артылерыйскім палку і з якім не бачыўся не адзін дзесятак гадоў...

Пасля вечарыны ўсе накіраваліся да абеліска Перамогі, каб ускласці да яго жывыя кветкі.

**А. М.**

# У ЕЎРОПУ — ПРАЗ САМАКІРАВАННЕ

14 чэрвеня Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі ладзіў прэс-канферэнцыю з нагоды прэзентацыі інфармацыйна-адукацыйнага цэнтра праблем самакіравання. Гэтыя праблемы ўяўляюцца сёння вельмі актуальнымі для ўсіх посткамуністычных краін. Фонд імя Л. Сапегі мае надзейныя кантакты з аднадумцамі ў Балтыі, Польшчы, Венгрыі. Фонд плануе ўдзел у розных міжнародных канферэнцыях у такіх краінах, як Латвія, Украіна, Жамойць, Польшча, Францыя, Расія, Чэхія і іншыя. Мэта гэтых сустрэч — распаўсюджванне ведаў і вопыту сталых дэмакратый у краінах, якія сталі на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў. Сёння Беларусь яшчэ не можа скарыстаць у сваёй палітычнай рэчаіснасці прынцыпы Еўрапейскай Хартыі Тэрытарыяльнага Самакіравання. Перашкода — у нашым заканадаўстве, неадаптаваным да еўрапейскіх норм. Заканадаўчыя ініцыятывы Фонду імя Л. Сапегі накіраваны на тое, каб недзе год праз восем Беларусь мела заканадаўства, якое не аддзяляла б, а далучала б нашу краіну да цывілізаванага свету.

На прэс-канферэнцыі было абвешчана аб правядзенні конкурсу на лепшае асвятленне прэсай працэсу рэформ у галіне мясцовага самакіравання.

**Наш кар.**

*Надзённае*

Мікола ЛЯШЧУН

# БЕЛАРУС

I.

*«Усё адно Беларусі наканаваны фатальны зыход»*
*(З размовы з адукаваным беларусам)*

**Што ж ты, за Беларусь змагар,**
**Цікуеш-сыкаеш з-пад лаўкі?**
**А хто ж устане пад штандар?**
**Хапугі, трутні-абівалкі?**

**Пляваць на суверэнітэт,**
**На нас усіх яны хацелі.**
**Яны далей не бачаць свет,**
**Чым ад кішэні да пасцелі.**

**А ты стаіўся у чаканні**
**Ды ўсё баішся укусіць:**
**«А раптам злодзей той са званнем?**
**А раптам прыйдзецца прасіць?**

**А то глядзі, не дай ты Божа,**
**Ды не за тое укушу?..».**
**Двурушнік! Здрадна і нягожа**
**Гвалтуеш ты сваю душу.**

**Хаця... ў цябе ці ёсць яна?**
**Такой душы не носіць цела.**
**Яна, як злая даўніна,**
**Ушчэнт у пекле ўжо сатлела.**

II.

**Ад беларускае гаворкі,**
**Нібы ад поснае куцці,**
**Скрывіўся мой размоўца горка**
**І цыгарэтны дым пусціў.**

**Не горкі дым, а позірк горкі**
**Мяне муціў і засмуціў:**
**Да беларускае гаворкі**
**Яму расці яшчэ, расці...**

**Мне стала прыкра і няёмка**
**За суайчынніка свайго.**
**Відаць, бацькоўская старонка**
**Зусім чужая для яго.**

**Я мовіў як не дзве гадзіны**
**Пра край наш, аб яго жыцці**
**І зразумеў, што й да Радзімы**
**Размоўцу трэба дарасці.**

**Ён слухаў і не чуў нічога**
**І рваўся ўсё скарэй пайсці,**
**А я адчуў, што і да Бога**
**Размоўцу трэба дарасці.**

# СЕМ ЗАПАВЕТНЫХ ЖАДАННЯЎ МАЙСТРА

*(Пачатак на стар. 1)*

Увечары таго ж дня ў сядзібе БНФ у Менску адбылася і святочная вечарына ў гонар Васіля Быкава, на якую сышліся найбліжэйшыя сябры і паплечнікі Майстра, палітычныя аднадумцы. Некалькі гадзін запар гучалі пранікнёныя віншаванні і зычэнні асоб вядомых і не вельмі, самых простых чытачоў. Землякі Васіля Уладзіміравіча ўлагодзілі сына Ушаччыны славутай ушацкай стравай — клёцкамі «з душамі»... Але, бадай, самую важкую інфармацыю паведаміў прафесар Адам Мальдзіс: Міжнародная асацыяцыя беларусістаў у супольнасці з беларускімі культурнымі згуртаваннямі свету выступіла з ініцыятывай да Нобелеўскага камітэта аб прысуджэнні Васілю Быкаву Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

**Ю. З.**

# ШМАТВЯКОВЫ ШЛЯХ НАРОДА

Ад старажытных часоў і да падзей першай сусветнай вайны ахоплівае перыяд кніга «Нарысы гісторыі Беларусі», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь». Напісаны нарысы знакамітымі нацыянальнымі гісторыкамі, сярод якіх дырэктар Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук М. Касцюк. Яны аб'ектыўна, без ідэалагічных аспектаў разглядаюць шматвяковы шлях, пройдзены нашым народам. Па-новаму разглядаецца перыяд капіталістычнага развіцця. Шырока асвятляюцца адраджэнскія працэсы, што мелі месца ў пачатку нашага стагоддзя.

# «КУРАПАТЫ — KURAPATY»

***У панядзелак, 13 чэрвеня, у сядзібе БНФ адбылася прэзентацыя кнігі «Курапаты: артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі». Аўтары кнігі — З. Пазняк, Я. Шмыгалёў, М. Крывальцэвіч, А. Іоў.***

Гэта ўжо другое выданне. Упершыню кніга выйшла ў Нью-Йорку на сродкі беларускай дыяспары пры чынным удзеле сп. Вітаўта Кіпеля. А вось на Беларусі аўтары сутыкнуліся з шэрагам праблем матэрыяльнага, тэхнічнага, а галоўнае — палітычнага характару. Кніга была прынята да вытворчасці выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» яшчэ тады, калі галоўным рэдактарам быў М. Ткачоў. Але пасля ягонай смерці для аўтараў зборніка пачаліся непрадбачаныя цяжкасці. У выніку кніга змагла пабачыць свет не ў дзяржаўным, а ў незалежным выдавецтве «Тэхналогія». Кіраўнік «Тэхналогіі» В. Багдановіч, выступаючы на прэзентацыі, гаварыў, што ён і ягоныя калегі ганарацца, што менавіта яны надрукавалі гэтую так неабходную сёння Беларусі кнігу.

Далей слова бралі аўтары кнігі, амерыканскі выдавец зборніка В. Кіпель, М. Кляшторная (ад таварыства «Мартыралог Беларусі». З. Пазняк падкрэсліў, што факты бальшавіцкіх злачынстваў у Курапатах, іншых мясцінах Беларусі — неабвержныя. Следчыя, якія мелі ўрадавы заказ давесці, што ніякіх расстрэлаў у Курапатах не было, сутыкнуўшыся з жахлівымі матэрыяламі, адмаўляліся ісці супраць фактаў і свайго сумлення.

Навуковыя і публіцыстычныя матэрыялы дапоўнены ў зборніку вершамі З. Пазняка. Выданне двухмоўнае — беларуска-ангельскае.

**П. В.**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ І ВЫБАРЫ

Апошнім часам (і не без падстаў) з'яўляюцца папрокі, што асобныя сродкі масавай інфармацыі пачынаюць яўна падыгрываць пэўным кандыдатам у прэзідэнты. У такім разе ўзнікае заканамернае пытанне, а як наконт гэтага ў тых краінах, дзе багатыя дэмакратычныя традыцыі. У пэўнай ступені на яго можа даць адказ кніга «Тэлебачанне і выбары», выпушчаная Беларускай асацыяцыяй недзяржаўнага тэлебачання накладам 2 тысячы экземпляраў.

Аўтарамі выдання з'яўляюцца вядомыя замежныя спецыялісты па гэтых пытаннях. Элен Міцкевіч, напрыклад, дырэктар праграмы па міжнародных сродках сувязі універсітэта Эмары і член Камісіі па палітыцы тэлебачання. Чарльз Фаерстоўн — дырэктар Праграмы па сродках сувязі і грамадства Аспэнскага інстытута.

Уяўленне аб кнізе даюць яе раздзелы: «Прыярытэт грамадскасці», «Асвятленне выбараў у праграмах навін», «Платная палітычная рэклама», «Выбарчая кампанія і перадвыбарчыя дэбаты» і іншыя.

Прадмову да кнігі напісаў экспрэзідэнт ЗША Джымі Картэр.

# ЯК ВЫБІРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТА...

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла брашуру «Заканадаўчыя акты аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» (выпушчаны два варыянты, адпаведна на беларускай і рускай мовах). У ёй змешчаны тэксты самога Закона аб выбарах прэзідэнта, а таксама пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» і «Аб правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Думаецца, людзям не лішне будзе пазнаёміцца з гэтымі дакументамі падрабязней. Асабліва калі ўлічыць, як некаторыя сродкі масавай інфармацыі пачынаюць даволі свабодна тлумачыць, колькі галасоў павінен набраць кандыдат у прэзідэнты, каб стаць прэзідэнтам. Там наконт гэтага ўсё сказана пэўна, як і пра тое, калі і як праводзіцца другі тур галасавання, пры якіх умовах адбываюцца паўторныя выбары.

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ СТЫПЕНДЫІ? ЁСЦЬ І ТАКІЯ

Пастановай урада «Аб мерах па падтрымцы творчай інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь» устаноўлены тэрмінам на 1 год штомесячныя дзяржаўныя стыпендыі ў памеры 6 мінімальных заработных плат кожная для 25 выдатных дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі і штомесячныя дзяржаўныя стыпендыі ў памеры 4 мінімальных заработных плат кожная для 25 маладых таленавітых дзеячаў культуры і мастацтва.

Міністэрству культуры і друку па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў даручана распрацаваць праекты палажэнняў аб дзяржаўных стыпендыях дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі.

# НЕРАЗУМЕННЕ ЦІ ЗЛАЧЫНСТВА

Урад Рэспублікі Беларусь (прэм'ер-міністр В. Кебіч) спыніў фінансаванне навуковых даследаванняў у Навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Такім чынам славуты на ўвесь колішні Савецкі Саюз, добра вядомы і сёння ў далёкім замежжы бараўлянскі навуковы цэнтр фактычна знішчаны,ператвораны ў звычайную бальніцу. Навуковыя кадры (многія працуюць у інстытуце па 15—20 гадоў) пастаўлены перад праблемай пошуку работы. Пакуль што ім прапанаваны бестэрміновы неаплачваемы адпачынак. Вынікі гэтай злачыннай акцыі Беларусь адчуе ў хуткім часе. Спыніўшы свае доследы, наша краіна будзе вымушана плаціць, і плаціць валютай, за права карыстацца распрацоўкамі замежных навуковых цэнтраў. Як вядома, Бараўлянскі НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі працуе ў асноўным на чарнобыльскай тэматыцы. Менавіта Чарнобыль даў вялікі рост ракавых захворванняў, асабліва сярод дзяцей. Так што дарослыя і дзеці могуць падзякаваць прэм'ер-міністру, які хоча стаць прэзідэнтам, за перадвыбарчы падарунак.

Памянёны НДІ ў такой сітуацыі не адзіны. У бестэрміновым адпачынку супрацоўнікі шэрагу інстытутаў Акадэміі навук Беларусі. Прэзідэнцкая кампанія Кебіча патрабуе выдаткаў...

**П. В.**

# ДРАБЫ СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ





Беларускі ўрад заяўляе аб росце злачыннасці, аб тым, што праваахоўным органам не хапае сучасных сродкаў барацьбы з правапарушэннямі, ды і самой міліцыі не хапае, а як толькі грамадства прапаноўвае ўраду дзейсную дапамогу — уздымаецца вэрхал, што нехта там імкнецца стварыць супрацьзаконныя фарміраванні, дэстабілізаваць грамадскі спакой, збройным чынам захапіць уладу. Менавіта так адрэагавалі ўлады на прапанову Беларускага згуртавання вайскоўцаў надаць фарміраванням БЗВ статут добраахвотных народных дружын, якія каардынавалі б сваю дзейнасць з МУС, дапамагалі б міліцыі ў барацьбе са злачыннасцю. Урад пахаваў добрую ідэю, за што хуліганы і рабаўнікі, пэўна ж, удзячны сп. Кебічу.

Цяпер у юрыдычным сэнсе БЗВ нібыта няма, але сведчаннем таго, што Згуртаванне жыве і дзейнічае, стала кампанія па стварэнні Дружын рэгіянальнай аховы і бяспекі (скарочана ДРАБ). Драбамі (пастарабеларуску гэта сінонім слова «рыцар») называюць і членаў дружын. Яны маюць і ўласную форму вайсковага ўзору, на рукаве шэўрон з эмблемай БЗВ, на шэрым берэце — «Пагоня». Падраздзяленні драбаў ужо існуюць у шэрагу гарадоў Беларусі. Гэты грамадскі рух за бяспеку і парадак мае вялікія перспектывы.

У мінулыя суботу—нядзелю драбы ладзілі непадалёк ад Койданава свой першы злёт, які называўся семінарам па абмене вопытам у барацьбе са злачыннасцю. Бралі ўдзел недзе 40 чалавек з розных мясцін Беларусі.

На лекцыях семінара асвятлялася палітычная сітуацыю ў нашай краіне, прагназавалася магчымае развіццё падзей у выпадку, калі дзеля захавання сваёй улады наменклатура растопча Канстытуцыю і ўсталюе (альбо паспрабуе ўсталяваць) дыктатуру.

У нядзелю, пасля заканчэння праграмы семінара, група драбаў наведалася ў госці да дзяцей летніка «Грунвальд». Гэты летнік вядомы на ўсю Беларусь сваім пакуль што унікальным вопытам выхавання ў дзяцей беларускага патрыятызму, тым, дарэчы, што ў жніўні 1991 года тут быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Драбы ўжо сваёй прысутнасцю дэманстравалі дзецям, што Беларусь — не абстрактная ідэя, а рэальнасць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках С. ГРЫЦА — лекцыя і абедзенны перапынак.*

Пошта

# «КАРАМБОЛЬ» НАБІРАЕ СІЛУ

Прыдзірлівы чытач, патрабавальны глядач, крытычна настроены амаль да ўсяго ў нашым свеце чалавек, 15 чэрвеня атрымаў я асалоду ад кантакту праз Беларускае TV з чарговым «Карамболем». Дзякуй усім, хто наладзіў і правёў сустрэчу з дачкой былога першага сакратара ЦК КПБ-КПСС (некаторыя завуць яго нават нашым першым прэзідэнтам) П. М. Машэрава — Н. П. Машэравай. А выйшла асалода тая ад шчырасці, што вылезла на экран нечакана, нібыта шыла з мяшка.

Вядома, шчырасць часам атрымліваецца ад няшчырасці, як, скажам, нязмушанасць ад змушанасці ці непрыхаванасць ад прыхаванасці, а ненаўмыснасць ад наўмыснасці і г. д. А здараецца такое заўсёды тады, калі чалавек гаворыць і адказвае на пытанні, як яму ў той час няма чаго сказаць ці чым адказаць.

Але ўсё па парадку. І не прамінём вось які момант. Вядучы Я. Хрусталёў, як звычайна, пачаў па-беларуску, але госця-гаспадыня ток-шоу не прыняла яго рабочую, а можа, і побытавую родную мову і ўвесь час гаварыла па-расейску, што не можа не заставіць усумніцца ў тым, што яе бацька, маўляў, жыў выключна і толькі дзеля Беларусі. Паўстае пытанне, як гэта можна ахвяраваць сабой у імя бацькаўшчыны і не навучыць сваё роднае дзіця карыстацца роднай мовай.

Хто глядзеў названую перадачу, не мог не задаць сабе пытанне, навошта Н. Машэрава дала згоду з'явіцца на экране тэлевізара. Амаль ні на адно пытанне (а ўсе яны былі вельмі простыя) яна ці зусім не дала адказу, ці адказ, калі ён быў, — быў надзвычай невыразны. Скрозь штучную, а калі дакладней — вымушаную «пад бацьку», а таму і не эстэтычную, усмешку ў яе ў асноўным атрымлівалася: «Не знаю», «Не помню», «Ничего не могу сказать» і г. д. Часам адказы выходзілі з эфектам самаўзаемавыключэння. Напрыклад, на пытанне, як складваліся адносіны кіраўніка Беларусі з Крамлём, ішоў адказ на прыўзнятай дыяфрагме і пры прытворным пафасе, што не Масква дыктавала ўмовы, а, наадварот, Маскве з Мінска давалі ўказанні. На пытанне ж, чаму ў гады ўладарання Машэрава на Беларусі знішчаліся помнікі гісторыі і культуры, адказ быў прыблізна наступнага зместу, што быццам такое вырашалася не ў іх дома і таму бацька быў бездапаможны зрабіць што-небудзь супраціўнае. Ці вось яшчэ. На пытанне, чаму рэдагуемая Н. Машэравай газета называецца «Новая народная газета», паступіў адказ, што гэтае імя ім далі гатовае, навязалі. Але тут жа на пытанне, ці не адчувае «Новая народная...» якога-небудзь уціску з боку пэўных структур, рэдактарка, нібы схамянуўшыся і пераарыентаваўшыся на гуллівы выклік у нікуды, адказала, што рэдакцыя такога не пацерпіць.

А калі зайшла гаворка пра машэраўскую школу кіравання і яе паслядоўнікаў, дачка былога лідэра беларускіх камуністаў сказала, што сёння ніхто на Беларусі не жыве, як яе бацька ў свой час, будучым, так-так — будучым, але не зусім заўтрашнім днём, а днём з адлегласцю гэтак на год 50 уперад. Пра сённяшні стан краіны і розныя таму прычыны амаль не гаварылася ўвогуле. Заўважым, зыходзячы з мяркуемай бальшавікамі перспектывы вечнага існавання на Беларусі камуністычных парадкаў, наш прыродны і гістарычны дом, як нічый іншы, быў у тыя часы густа застаўлены свінакомплексамі і ракетнымі ўстаноўкамі. Назваць паіменна вучняў і духоўных нашчадкаў-практыкаў Пятра Міронавіча Наталля Пятроўна чамусьці не ўзялася, хаця такія ёсць, і нямала. Калі ёй нагадалі прозвішча Кебіча, яна як бы дыпламатычна ўхілілася ад адказу. Відаць, рэдактарка не была здольна прадказаць для сябе вынікі прэзідэнцкіх выбараў. І таму тут такое завісанне. А вось праз пытанне, з кім бы быў сёння яе бацька — з левымі ці з правымі (дзіўнае вызначэнне!) — Наталля Пятроўна, іграючы ў раскаваную глыбакадумнасць, указала ў бок блока Кебіч — Новікаў — Дубко — Лукашэнка.

У перадачы было ўзнята пытанне і аб гібелі беларускага камуніста нумар адзін. Тут таксама зробленая на твары глыбокая, што мяжуе з нібыта веданнем нейкай таямніцы, задуменнасць абярнулася простым адказам: «Нам нічога такога сёння невядома, што б магло сведчыць аб наўмысным забойстве». І тут, як кажуць, рэспандэнт на грань фолу не ўзыходзіць, але ўсё ж да яе цягнецца.

Блыталася Наталля Пятроўна і ў пытаннях барацьбы, якую вёў яе бацька ў мірны час (праўда, невядома, з кім і за што), і ў пытаннях класавасці грамадства, і ў пытаннях, што ёсць яе радзіма і г. д.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, сцвярджаю, што тэлеперадача «Карамболь» мне па-свойму вельмі спадабалася. Нельга, на мой погляд, не заўважыць, што апошнім часам паміма ўласнай волі яна паляпшаецца, набірае сілу. 30 хвілін, што зняў ток-шоу, былі для мяне не стратай, а хутчэй — набыткам: можна было ўшчыльную паназіраць правальны сеанс скарыстання жывых і мёртвых чалавечых істот; сеанс скарыстання з адваротным чаканню вынікам.

**Яўген ГУЧОК**

Беларускі Шлях

Мікалай КРУКОЎСКІ, доктар філасофскіх навук

# «ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНЫ — БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ...»



## УРОКІ БЕЛАРУСКАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ

Быццам лёс нам прадвызначыў назіраць акаляючы свет сапраўды амаль па Цютчаву «в его минуты роковые». Гісторыя, як краявід у вакне звышхуткаснага цягніка, імкліва праносіцца перад вачыма, так што разгледзець больш-менш выразна можна толькі тое, што ўжо далёка ад нас у часе: вызвольнае паўстанне Касцюшкі дзвесце гадоў таму назад, бітва пад Воршай амаль што пяцьсот гадоў... І за шалёным мільгаценнем сучаснасці цяжка разгледзець падзеі, што адбываліся ў нас не так і даўно. Значэнне ж іх для нас зараз, можа быць, больш важнае, чым тыя вялікія, але далёкія ўжо даты. Самая значная з такіх нядаўніх падзей — вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пяцідзесяцігоддзе якога адзначаецца 3 ліпеня гэтага года.

У рэспубліцы зараз разгортваецца шырокая падрыхтоўка да сустрэчы гэтай вялікай і значнай для ўсіх беларусаў даты. І вялікім, недаравальным грахом было б неяк прынізіць яе значэнне, бо занадта дарагою цаной было заплачана за тую перамогу: кожным чацвёртым нашым суайчыннікам. І кожнага з іх яшчэ памятаюць іх дзеці і ўнукі. Але да радасці перамогі і чыстага, светлага смутку па загінуўшых пачынае прымешвацца прыкрае адчуванне таго, што на гэтай вялікай даце нехта спрабуе здзейсніць нячыстыя, цёмныя палітычныя спекуляцыі. Можна тое было выразна бачыць ужо на нядаўнім святкаванні Дня Перамогі ў нас у Менску, калі на плошчы ля Вечнага агню не відно было амаль што ніводнага беларускага дзяржаўнага сцяга за мноствам зялёна-чырвоных сцягоў камуністычнай БССР, і калі перад калонай Беларускага народнага фронту, упрыгожанай менавіта нашымі бел-чырвона-белымі штандарамі, быццам з-пад зямлі, зусім як у мінулыя часы, вырас ланцуг амонаўцаў з гумовымі палкамі па-за спіной...

Зрэшты, брудная палітыканская гульня з тымі святымі для кожнага беларуса датамі праводзіцца ў нас даўно. На кожнае, напрыклад, такое святкаванне, нават з прычыны вызвалення таго ці іншага асобнага беларускага горада ці мястэчка, арганізатарамі заўсёды запрашаліся шматлікія ваенныя госці з Расіі і госці пераважна высокіх чыноў. Гасцей, зразумела, трэба запрашаць, тым болей што сапраўды ўсе мы разам ваявалі, — але ж і вызвалення дабіваліся разам. Тут жа яны трактаваліся выключна як адзіныя нашы збавіцелі і вызваляльнікі. Само нават слова «вызваленне» ўжывалася пераважна ў такім яго сэнсе, тым болей што ў расійскім яго перакладзе гэты сэнс выступае яшчэ больш выразна. У тым жа сэнсе ўвогуле падавалі нам гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, як яна афіцыйна заўсёды звалася. Згодна гэтай гісторыі, як аказваецца, мы і тады ўжо «не могли без России».

Бясспрэчна, што вялікі рускі народ адыграў вырашальную ролю ў той сапраўды вялікай і страшнай вайне. Але бясспрэчна, што й іншыя народы былога Саюза таксама прымалі ў ёй самы актыўны ўдзел, хоць ён, той удзел, меў свае асаблівасці. Справа ў тым, што ў Савецкім Саюзе як адзінай дзяржаве амаль што зусім не існавала таго ўнутранага маральна-палітычнага адзінства, пра якое пастаянна дзяўбла савецкаму народу партыйная прапаганда. Яно было, можа, толькі ў моладзі, ды й то ў кніжна-рамантычнай форме. І савецкі народ сам не быў чымсьці адзіным і цэласным. Таму як «социалистическое отечество» Савецкі Саюз разваліўся, быццам картачны домік, у першыя ж дні вайны, горкапамятныя дні страшэннага хаосу, панікі і ганебных уцёкаў ледзьве не да самае Масквы. І толькі там, пад Масквою, нямецкая армія натыкнулася на цвёрды падмурак таго картачнага доміка, падмурак, ролю якога адыграла нацыянальная руская ідэя. Салдат стаў абараняць сапраўдную сваю айчыну — Расію, і імклівае варожае наступленне было спынена, цаною, праўда, непамерна агромністых страт і ахвяр. Цікава, што Сталін зразумеў гэта ўжо ў 41-м годзе, што, дарэчы, сведчыць не столькі аб яго празарлівасці як дзяржаўнага кіраўніка, колькі аб тым, што і сам ён не верыў у сілу і моц гэтага самага «социалистического отечества» і яго маральна-палітычнага адзінства. І ўжо з канца першага года вайны ўся савецкая прапаганда засяроджваецца на ідэі абароны не «заваёў сацыялізму», а традыцыйна рускага «отечества» з усімі яго знешнімі аксесуарамі: залатымі пагонамі, генераламі, палкаводцамі ад Аляксандра Неўскага да Брусілава і нават царквою, гэтым некалі «опіумам для народа». Толькі тая ідэя і змагла мабілізаваць расійскі народ на рашучае і стойкае супраціўленне захопніку; толькі яна і прывяла яго да канчатковае перамогі над нямецкім фашызмам, не без дапамогі, праўда, «заградатрадаў» і цаною страшэнных ахвяр.

Другія ж народы СССР, перш за ўсё Украіны, Беларусі і прыбалтыйскіх рэспублік, якія прынялі на сябе першыя жахлівыя ўдары магутнай ваеннай машыны гітлераўцаў, будучы па сутнасці пакінутымі Расіяй на волю лёсу, былі змушаны весці сябе па-рознаму ў залежнасці ад сацыяльных і геапалітычных абставін і ступені развіцця ўласнай нацыянальнай самасвядомасці. Па-свойму перажывала вайну Прыбалтыка, па-свойму Украіна. Па-свойму ж удзельнічала ў барацьбе і Беларусь, хоць менавіта пра ролю Беларусі ў гэтай барацьбе аж да гэтага часу існуюць дыяметральна процілеглыя ацэнкі і меркаванні. Агульнапрынятым фактам, аднак, застаецца тое, што на Беларусі тады разгарнулася нечуванае па сваіх маштабах супраціўленне, перад якім меркне слава нават французскага Resistance. Трохсотсямідзесяцітысячная партызанская армія з чатырохсоттысячным рэзервам утрымлівала за сабою каля 60 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі. Акупанты адчувалі сябе спакойна толькі ў гарадах і ўздоўж важнейшых камунікацыйных шляхоў. Больш таго, амаль што поўная дэзарганізацыя тылу нямецкіх войск і такія, напрыклад, важныя ў стратэгічных адносінах аперацыі, як славутая рэйкавая вайна, намнога аблегчылі дзеянні Савецкай Арміі па правядзенні аперацыі «Баграціён», ды і ўвогуле расчысцілі дарогу на Германію, бо за Беларуссю гэтак жа актыўна дзейнічала польская Армія Краёва. Беларусь у многім вызваліла сябе сама і параўнаць яе ў гэтых адносінах можна было б толькі, магчыма, з Югаславіяй. Таму гаворачы пра **вызваленне** Беларусі, трэба ўкладаць у гэтае слова менавіта азначаны тут сэнс.

Тым не менш, агульная ацэнка беларускага супраціўлення афіцыйнай савецкай гістарыяграфіяй была дваістай. З аднаго боку, прызнаючы яго агромністасць і эфектыўнасць, яна ўсяляк выхваляла арганізацыйную ролю кампартыі ў справе стварэння таго супраціўлення. З другога ж боку, і пераважна ўжо ў неафіцыйных выказваннях афіцыйных партыйных асоб, сцвярджалася, што роля партызанскага руху на Беларусі была «сильно преувеличенной». Такога меркавання трымаўся, напрыклад, сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін. І ў першым і ў другім выпадку праўды тут было мала. Камуністычная партыя сапраўды прымала рашэнні аб арганізацыі партызанскага руху на акупаваных немцамі тэрыторыях і спецыяльна пакідала там сваіх людзей ужо ў 41-м годзе. Але, як прызнаюць і афіцыйныя камуністычныя крыніцы, не ўсе створаныя згодна гэтым рашэнням атрады і групы змаглі выканаць пастаўленыя перад імі задачы: многія з іх не пакінулі нават следу ў архіўных матэрыялах. Толькі з 42-га года пачынае расці партызанскі рух, дасягнуўшы вышэйшага свайго ўзроўню ў 1943 годзе і прыняўшы сапраўды ўсенародны характар.

Прычынай такой дваістасці ў ацэнцы Беларускага Супраціўлення і такога запазнення ў яго развіцці было тое, што яно ўзнікла не як абарона сацыялістычных ідэалаў і не як вайна «за Родину и за Сталина», хоць у тагачаснай моладзі і пэўнай часткі дарослага насельніцтва нейкая вера ў тыя сімвалы яшчэ была. Яно разгарнулася толькі тады, калі народ зразумеў, што прышлыя фашысцкія ўладары намнога страшней сваіх уласных, камуністычных уладароў. Тое выразна адчувалася і на асабістым вопыце. Калі я ўбачыў, напрыклад, як нямецкі салдат на аршанскім базары б'е начышчаным ботам пад зад немаладую беларускую жанчыну, якая ў маткі яму гадзілася па ўзросце, то зразумеў, што цяпер маё месца толькі ў лесе са зброяй у руках. Нават нечалавечыя пакуты палону, неаднаразовыя выспяткі, якія і самому даводзілася атрымліваць ад канваіраў, нават масавыя расстрэлы ні ў чым невінаватых людзей не ўразілі мяне тады так, як тая амаль што сімвалічная сцэна з салдатам. Гэта была рэакцыя на знявагу чалавечай годнасці майго народа, можа быць, яшчэ добра неўсвядомлены, але востры пратэст абражанай нацыянальнай самасвядомасці. І пазней, ужо будучы ў складзе славутай Заслонаўскай брыгады, прыходзілася не адзін раз чуць ад сяброў па зброі, што і яны перажылі нешта падобнае. Гэта было ўсеагульным пачуццём і таму можна ўпаўне справядліва сцвярджаць, што Беларускае Супраціўленне было сапраўды ўсенародным і менавіта нацыянальна-вызваленчым рухам, які ўзнік пераважна знізу і да якога ўжо пазней далучылася супрацоўніцтва, а пасля і агульнае ваеннае кіраўніцтва з Масквы. Што гэта было несумненна так, даказвае, зрэшты, ганебная гісторыя з партыйнай крытыкай рамана А. Фадзеева «Маладая гвардыя», які якраз пагэтаму вельмі не спадабаўся Сталіну і які пад яго прымусам быў перапісаны пісьменнікам амаль што занава, каб толькі паказаць «кіруючую ролю партыі». Менавіта ж пасля вайны гісторыю партызанскага руху на Беларусі кінуліся пісаць такія не меўшыя з ім нічога агульнага асобы, як злавеснай памяці кіраўнік МДБ БССР Цанава. Баяліся, каб не атрымаў гэты рух нявыгадную для Масквы і ЦК КПСС інтэрпрэтацыю, каб не ўздумаў хто трактаваць яго як нацыянальна-вызваленчы рух, якім ён на самай справе быў.

Характэрна, што той жа Сталін вельмі насцярожана адносіўся да партызанскага руху на Беларусі і яўна яму не давяраў. Яшчэ будучы ў складзе брыгады, мне здавалася, напрыклад, дзіўным, чаму нас так дрэнна забяспечвалі зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі. Тол прыходзілася са страшэннай рызыкай (трымаючы іх над агнём!) выплаўляць з кінутых Чырвонай Арміяй артылерыйскіх снарадаў, зброя была пераважна такога ж паходжання, знойдзеная дзе-небудзь у лесе на месцы колішніх баёў. Аўтамат ППШ, які к 43-му году быў шырока распаўсюджаны ў Савецкай Арміі, у нас да самага канца вайны быў рэдкасцю і яго трэба было яшчэ заслужыць. Не прысвойваліся сярэдняму каманднаму саставу брыгад афіцэрскія званні, так што я, напрыклад, стаўшы пасля цяжкага ранення інвалідам вайны, атрымліваў пенсію як шараговец. Абыходзілі, урэшце, і з узнагародамі, абмяжоўваючыся ў большасці выпадкаў медалём «Партызану Айчыннай вайны», хоць ваявалі мы ў цэлым нядрэнна. Усё гэта здавалася нам вельмі дзіўным, бо добра зразумела было, наколькі выгадна ў стратэгічных адносінах было для Чырвонай Арміі мець у тыле ворага вялікую і добра ўзброеную партызанскую армію. Але менавіта гэтага Сталін і асцерагаўся...

Сталін баяўся, што на тэрыторыі Беларусі ўтварылася трохсоттысячная народная армія, якая ўзнікла не па яго непасрэднаму загаду і якая ўвогуле магла выйсці з-пад яго пільнага кантролю. Ён ведаў, што далей на Захад у польскіх лясах хадзіла і актыўна дзейнічала такая ж партызанская польская Армія Краёва, падначаленая ўжо не яму, а Лондану, і настроеная зусім не на камуністычны лад. У свой час, дарэчы, ён фактычна расправіўся з ёю нямецкімі рукамі ў часе Варшаўскага паўстання. Таму не давяраў ён і беларускім партызанам, тым болей, што вялікая частка Заходняй Беларусі толькі-толькі была далучана да СССР і яшчэ не была, так бы мовіць, добра «саветызавана» органамі ЧК. Выразам такога адкрытага недавер'я было, напрыклад, увядзенне ў партызанскіх атрадах і брыгадах Інстытута камісараў, на пасады якіх прызначаліся звычайна камуністы або правераныя НКУСам людзі. Існавалі і сумна вядомыя асобыя аддзелы, якія праводзілі свае брудныя карныя аперацыі на мясцовым насельніцтве, выклікаючы ў нас глухое незадавальненне. Прыходзілася і нам, на жаль, удзельнічаць у баях са «сваімі», г. зн., паліцаямі, уласаўцамі і інш. Успрымалі мы іх тады, аднак, толькі як здраднікаў у чыста ваенным сэнсе слова, хоць і ўзнікала часам недаўменнае пытанне, чаму ж іх так многа, гэтых «здраднікаў». Не ўсведамлялася яшчэ цалкам уся трагічнасць такога ненармальнага стану рэчаў. Толькі намнога пазней, пасля публікацыі твораў Алеся Адамовіча і асабліва Васіля Быкава, стала ясна, што гэта сапраўды была і грамадзянская ў пэўным сэнсе вайна, дзе адзін бок свядома нацкоўваўся на другі. Разыгрывалася выпрабаваная ленінска-сталінская карта класавай барацьбы, абы толькі не ўзнікла ідэя барацьбы нацыянальна-вызваленчай, не выкрышталізавалася беларуская ідэя як асноўны прынцып гэтай вайны, хоць у Расіі напоўніцу ўжо выкарыстоўвалася руская ідэя, няхай яна так тады яшчэ і не называлася. Баяліся, каб не паўтарылася тое, што разгортвалася на Украіне і ў прыбалтыйскіх рэспубліках. У той жа час не хацелася прызнаваць фактычную грамадзянскую вайну ажно на трыццатым годзе пасля «перамаганоснага Кастрычніка», калі згодна сталінскай канстытуцыі к 1936 году асновы сацыялізму былі быццам бы пабудаваны. Усім гэтым і тлумачыцца тая доўгая і непрыгожая валтузня, што вялася ўвесь час вакол партызанскай тэмы ў друку і літаратуры. З аднаго боку, надта не падабалася і была небяспечнай трактоўка партызанскага руху як руху нацыянальна-вызваленчага і яго імкнуліся паказваць як «усенародную дапамогу» партыі і органам НКУС у барацьбе супраць «здраднікаў»; з другога боку, узнікала небяспечнае пытанне, адкуль і чаму ўзялося столькі «здраднікаў»...

Непрыгожая валтузня вакол ацэнкі Беларускага Супраціўлення працягваецца і зараз. Было ўжо паказана, якая палітычная спекуляцыя праводзіцца сёння пракамуністычнымі сіламі на гэтай трагічнай тэме. Але і з процілеглага боку, на вялікі жаль, можна сустрэць часам ацэнку гэтага супраціўлення, амаль поўнасцю супадаючую з ацэнкамі, што даваліся яму нямецка-фашысцкімі акупантамі. Так, напрыклад, трактуецца і ацэньваецца беларуская партызанская вайна на старонках у цэлым сур'ёзнай і вельмі цікавай кнігі Е. Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (Менск, «Беларусь», 1993). Парадаксальна, што ацэнка гэтая цалкам адпавядае таму, як хацелі б бачыць і трактаваць партызан і пракамуністычныя гісторыкі. Партызаншчына, згодна Е. Туронку, сапраўды была вынікам арганізацыйнай дзейнасці камуністычнай партыі і ў яе шэрагах былі адны толькі камуністы, камсамольцы ды яўрэі. Беларусы ж, аказваецца, толькі і рабілі, што хаваліся ад немцаў і партызан. Што й казаць, не вельмі прывабны вобраз беларускага народа атрымліваецца ў шаноўнага Е. Туронка. Такі вобраз упаўне можа задаволіць цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі, якое і хоча «вярнуць» Беларусь Расіі ў якасці павета альбо губерніі менавіта на той падставе, што беларускі народ, маўляў, вельмі ўжо мяккі, талерантны, рахманы, не мае нацыянальнай самасвядомасці і такі ўжо нікчэмны, што ўвогуле «без России не может». Задаволіў бы такі вобраз і здрадлівую нашу рускамоўную інтэлігенцыю, якая, ядучы беларускі хлеб і гаворачы пра тыя ж якасці беларускага народа, не хавае пры гэтым пагардлівай ухмылкі...

Колькі ўжо разоў пісалася і гаварылася пра тое, быццам мы, беларусы, сябе не паважаем, не ведаем і не шануем сваёй мінуўшчыны, што нас увогуле ператварылі ў цёмных, бяспамятных баязліўцаў-манкуртаў. Спатрэбіліся амаль што гераічныя высілкі сумленных беларускіх гісторыкаў, каб напомніць, што нашы продкі адбілі некалі ля цяперашняга Койданава навалу непераможных манголаў, якія паставілі перад гэтым на калені Кіеўскую Русь; што быў у нас Грунвальд, дзе нашы прашчуры канчаткова зламалі хрыбет славутаму тэўтонскаму ордэну (пра гэта з захапленнем пісаў нават вялікі англьскі гісторык А. Тойнбі ў сваёй вядомай кнізе «Спасціжэнне гісторыі»); што бывалі яны, нашы прашчуры, з Альгердам і пад самай Масквой. А цяпер вось даводзіцца нагадваць пра зусім недалёкае мінулае, калі мы не раз паказалі, што вартыя сваіх далёкіх продкаў, распачынаючы наша Беларускае Супраціўленне, якім можна было б пасапраўднаму ганарыцца. Гэта прызнана было,

(Працяг на стар. 12)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРАПАНУЕЦЦА ІНТЭЛЕКТУАЛАМ

**У Віцебску выйшаў чарговы, 4-ы нумар навуковага часопіса «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». У ім змешчаны артыкул французскага філолага Ю. Крысцевай «Бахцін, слова, дыялог і раман» і айчыннага вучонага М. Скалона «Раман Я. Замяціна «Мы» ў зоне кантакту з М. Бахціным». У рубрыцы «Архіўныя росшукі» друкуецца перапіска выдатнай рускай піяністкі М. Юдзінай з вышэйзгаданым вучоным. У шырокім коле філасофскіх праблем, што хвалявалі М. Бахціна, пэўнае месца займаў віталізм. У рубрыцы «Тэма для роздумаў» прапануецца ягоны артыкул, а таксама артыкулы М. Лоскага і А. Дзямідава па гэтай праблеме. Чытач пазнаёміцца таксама з апавяданнем А. Цвятаевай «Лясны вучоны», рэцэнзіяй віцебскіх вучоных на зборнікі навуковых прац, прысвечаных філасофскай спадчыне М. Бахціна.**

**Ю. ІВАНОЎСКІ**

## НАВЕДАЛІ ГЛЫБІНКУ



**Своеасаблівы творчы дэсант высадзілі ў Шаркоўшчынскі раён члены наваполацкага літаб'яднання «Крыніца», якім кіруе паэт Навум Гальпяровіч. Пра духоўнае адраджэнне, сучасную беларускую літаратуру яны вялі гаворку з вучнямі і настаўнікамі школ райцэнтра, вёскі Германавічы. Госці наведалі таксама музей Язэпа Драздовіча, мелі сустрэчу з членамі мясцовага літаб'яднання пры раённай газеце «Кліч Радзімы».**

**Р. ВЕЖКАВЕЦ**

*У час сустрэчы.*
*Фота Р. РУСЕЦКАГА*

## ПУШКІНСКАЕ СВЯТА

**ў каторы раз прайшло ў Магілёве. Пачалося яно з ускладання кветак да помніка вялікаму паэту. Потым выступілі мясцовыя літаратары — сакратар абласнога аддзялення СП Беларусі І. Аношкін, Г. Сайко, М. Емяльянаў, В. Вераб'ёва, Л. Марцуль, Э. Мядзведскі, А. Баль. Гучалі вершы, песні, сваё майстэрства дэманстравалі танцоры.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## «Я РОДАМ З БУДЗІШЧАЎ»

**Так называецца зборнік паэзіі Васіля Карпечанкі, які выйшаў у Магілёве. Кніга выдадзена коштам самога аўтара — былога настаўніка беларускай мовы і літаратуры Рэчкаўскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна, а цяпер пенсіянера. У кнігу ўвайшлі ваенныя замалёўкі (В. Карпечанка — удзельнік вайны), вершы пра родную Беларусь і яе чарнобыльскую бяду.**

**І. АНОШКІН**

## «ЧАСОПІС» З БЕЛАСТОКА

**У чарговым, шостым нумары «Часопіса», як звычайна, шэраг матэрыялаў, што ўзнаўляюць розныя моманты культурнага і грамадскага жыцця. Змешчана багатая інфармацыя, у тым ліку і вытрымкі з некалькіх лімаўскіх публікацый. М. Сахарэвіч («Старадаўняй Літоўскай Пагоні...») знаёміць з жыццём вернікаў Бранска, што непадалёк ад Бельска. Развагамі аб паэзіі дзеліцца Н. Артымовіч. Апублікаваны вершы для дзяцей А. Канапелькі. Ёсць падборка гумару. На апошняй вокладцы часопіса па традыцыі «Хроніка мясцовасці». Гэтым разам М. Сахарэвіч расказвае пра вёску Рогаўка, адным з самых старадаўніх населеных пунктаў Беласточчыны.**

*Адгалоскі*

# АХ, ІВАН ПЯТРОВІЧ...

У «ЛіМе» за шостае мая было апублікавана інтэрв'ю з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Шамякіным пад загалоўкам «На вастрыі часу». У разважаннях ёсць думкі, якія заслугоўваюць увагі. Напрыклад, ягоны пастулат, што «асновы сацыяльнага ладу дзесьці падгнілі...» Праўда, Іван Пятровіч назваў толькі вынік, але не крануўся прычын, чаму «падгнілі». Хай даруе шаноўны народны за пэўнае ментарства, але паспрабуем высветліць прычыны. Сацыяльны лад, які гвалтоўна ўводзіўся бальшавікамі на адной шостай частцы свету, не меў пад сабою ніякіх асноў: ён грунтаваўся на міфах. А тыя, хто ствараў міфічныя сацыяльныя праграмы, былі, па дасціпным выказванні Дастаеўскага, «або казачнікі, або фантазёры, або дзівакі, якія абсалютна нічога не разумелі ў натуральных навуках і ў той дзіўнаватай жывёле, якая называецца чалавек». Арыстоцель, заснавальнік матэрыялістычнай псіхалогіі, зрабіў выснову, што «прагавітасць людзей бязмежная, і ў задавальненні гэтай прагавітасці праходзіць жыццё большасці людзей». Калі народны пісьменнік абураецца несусветнымі праявамі карупцыі і зладзейства ў нашай рэспубліцы, то іх карані трэба шукаць менавіта ў чалавечай прыродзе. Дарэмна Іван Пятровіч імкнецца даказаць, што вытокі гэтага зла ў сучаснасці: «Ну, дапусцім, і пры камуністах кралі, але ж не ў такіх маштабах. Цяпер жа шляхам карупцыі, прысваення раскрадаюцца багацці, можа, у дзесяткі працэнтаў нацыянальнага даходу». Вядома, з гэтым нельга не пагадзіцца. Але ж карупцыя існавала і раней у дзяржаўных структурах і не ў меншых маштабах, толькі карпаратыўныя ўладныя структуры пільна сачылі за тым, каб праявы карупцыі не сталі, барані божа. вядомыя народу. Карупцыянераў «лячылі» па-свойму, па-партыйнаму: вымовамі, строгімі вымовамі, перастаноўкамі па гарызанталі, але не крымінальным кодэксам, спагадліва ўлічваючы «былыя заслугі перад партыяй». Успомнім карупцыянераў сярод крамлёўскай «эліты» і рэгіянальных партбосаў Шчолакава, Рашыдава, карумпаванасць зяця Брэжнева ды іншых прадстаўнікоў «гонару і сумлення эпохі». А крэзаўскія багацці апошняга сакратара Вярхоўнага Савета былога СССР Менташашвілі: больш за сотню кілаграмаў золата ў злітках, паўпуда брыльянтаў, замежная валюта, унікальныя карціны, залатыя рэчы, нарабаваныя ў музеях, — усё гэта ўкрадзена ў народа і знойдзена на лецішчы ў монстра-карупцыянера. Гэта толькі нязначная частка карупцыйнага айсберга.

Паняцце «карупцыя» інтэрпрэтуецца ў слоўніку замежных слоў як подкуп, прадажнасць грамадскіх і палітычных дзеячаў, службовых асоб. Скажам шчыра, што сённяшнія службовыя асобы, дзяржаўныя дзеячы набылі «навыкі» несумленнасці яшчэ пры таталітарнай сістэме і сядзяць зараз пры ўладзе, перафарбаваўшыся пад «дэмакратаў», пры гэтым дружна вінавацячы ва ўсім дэмакратыю. Каб ліквідаваць з'яву, трэба ліквідаваць вытокі: гэтыя вытокі якраз знаходзяцца ў структурах выканаўчай і заканадаўчай улады. Без замены старых чыноўнікаў вышэйшага звяна новымі, маладымі, якія не заплямілі свайго сумлення, карупцыі не выкаранім. Аднак народны пісьменнік выступае супраць замены ўладных структураў: «Я не магу падтрымаць тых, хто зараз патрабуе: Вярхоўны Савет — у адстаўку, урад — у адстаўку. А з кім застанёмся, хто будзе кіраваць дзяржавай? Якраз гэтага патрабуе апазіцыя». Паспрабуем развеяць сумненні акадэміка. У свой час генерал Макнамара, будучы вярхоўным камісарам амерыканскай адміністрацыі ў акупаванай Японіі, вызваліў ад займаемых пасад некалькі тысяч высокапастаўленых старых чыноўнікаў, замяніўшы іх маладымі. Прэзідэнт ЗША ўстрывожыўся і запытаў у Макнамары, з кім той будзе працаваць. Макнамара адказаў: новы лад павінны будаваць новыя людзі, старыя чыноўнікі будуць толькі соваць палкі ў колы новай адміністрацыі. Макнамара не памыліўся: за шэсць месяцаў была распрацавана і прынята новая канстытуцыя Японіі, за тры гады Японія дасягнула даваеннага ўзроўню ў эканоміцы, хаця ў час вайны яна страціла семдзесят працэнтаў эканамічнага патэнцыялу.

У сваіх разважаннях Іван Шамякін робіць выснову: «Я вам павінен сказаць: сапраўдных лідэраў, на вялікі жаль, у нас няма». У некатарай ступені народны пісьменнік мае рацыю: сярод сённяшніх уладных структур і парламенцкай большасці такіх лідэраў сапраўды няма. Аднак трэба зазначыць, што лідэры праяўляюць свае арганізатарскія здольнасці ва ўладных структурах. Наш заскарузлы ўрад і кансерватыўна-рэакцыйная парламенцкая большасць ствараюць штучныя бар'еры на шляху выяўлення патэнцыяльных здольнасцей маладых, перспектыўных навукоўцаў і палітыкаў. Лідэры пры спрыяльных умовах паяўляюцца нечакана і непрадбачліва: прыкладам таму Вацлаў Гавел у Чэхіі і Лех Валенса ў Польшчы.

Наконт лідэрства ў развагах Івана Шамякіна мы бачым яўныя парадоксы. Вось канкрэтны прыклад: «Вячаслаў Кебіч — палітык вопытны, ён прайшоў вялікую школу кіравання гаспадаркай, быў жа дырэктарам завода, сакратаром гаркома, доўгі час працаваў у Дзяржплане СССР і БССР. Чалавек ён дзелавы, актыўны. Такіх кіраўнікоў нямнога. Іх трэба крытыкаваць, але трэба і цаніць.

Я падтрымліваю ідэю Кебіча аб эканамічнай сувязі з Расіяй...»

«Віва ля комунэ!», як казалі ў свой час французы. Гэтыя пасажы — яскравы ўзорчык ліслівасці, падхалімажу і сервільнасці, як у «слаўныя часы» таталітарызму. Аднак тут штосьці не стыкуюцца думкі народнага пісьменніка адносна лідэрства: вышэй ён казаў, што ў нас няма лідэра, а тут гэткі лідэр, гэткі герой! Так шпарка «рухае эканоміку РБ наперад», што хутка і Захад дагонім! Праўда, па пэўных прычынах слова «лідэр» тут не ўжываецца. Чытаючы хвалебныя дыфірамбы ў адрас прэм'ера, міжволі думаеш, што акадэмік самаахвотна ці па рэкамендацыі сваіх былых цэкоўскіх «аднадумцаў» запісаўся ў хаўрус агітацыйна-прапагандысцкай каманды прэтэндэнта на пасаду будучага прэзідэнта.

Але тут трэба аддаць належнае пісьменніку за тое, што ён паказаў свой сапраўдны твар, без маскі, застаючыся верным сваім ідэалам: «навеки вместе!» Адначасова выступіў супраць «Звароту» пісьменніцкага з'езда ў якасці апазіцыянера. Мяркуйце самі: з'езд аднадушна (за выключэннем трох) галасуе супраць магчымай страты суверэнітэту і падкрэслівае, што «не можа быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і той, хто не ведае нават мовы свайго народа», а Іван Пятровіч...

Нельга згадзіцца з ім і адносна таго, што «эканамічны саюз не можа ўдарыць па суверэнітэту», у прыклад прыводзяцца краіны Заходняй Еўропы і Японіі. Напомнім, што інтэграцыя ў рамках ЕЭС і г. зв. «эканамічны саюз», за які сэрцам і душою Шамякін, — непараўнальныя. Заходнія дзяржавы ў ЕЭС ніколі не страцяць свае родныя мовы, свае культуры і свае гістарычнай спадчыны, якія ствараюць падмурак нацыянальнай дзяржавы.

Кранаючыся сучаснасці, народны пісьменнік скептычна ставіцца да руху нацыянальнага адраджэння: «Думаю, што зараз менш робяць, чым мы рабілі». Робяць, шаноўны! Ды яшчэ як робяць шчырыя прыхільнікі беларушчыны, нягледзячы на патокі бруду і дэзінфармацыі, што льюцца на іх са старонак бальшавіцкай, неабальшавіцкай і зубатаўскай перыёдыкі, да якой часам далучаюцца кішэннае саўмінаўскае радыё і тэлебачанне. Але ў нацыянальна-адраджэнскім хоры не чуваць штосьці голасу паважанага Івана Пятровіча... У чым прычына?

**Васіль СОКАЛ**

*Часопісы ў траўні*

# ЗЯМНОЕ І ЗЯМЛЯ ПАЯДНАНЫ

Цяжка чалавеку развітвацца з тым, што было калісь. Нялёгка ў горадзе, скажам, гараджаніну першага пакалення, цягне яго ў родную вёску, да зямлі, хочацца прайсціся сцяжынамі, што пачалі зарастаць быльнягом пражытых гадоў. Штосьці такое зведвае і герой апавядання А. Жука «Пах талага снегу» Мароз. Ён, як і некаторыя героі папярэдніх твораў пісьменніка, знаходзіцца на своеасаблівым «паўстанку вяртання». Праўда, Мароз у нечым і адрозніваецца ад іх. Змены, што адбыліся апошнім часам у жыцці грамадства, не маглі не крануцца і яго лёсу. Ды паказаць Мароза «сучасным героем», як бачна з апавядання, для аўтара не самамэта. Проста герой А. Жука акурат такі, як многія. Не надта вылучаецца ён сярод іншых. А, значыць, і тое, што на душы ў яго, выпадковым не назавеш. Іншая справа, што далёка не кожны здатны на самааналіз. І не ў кожнага з'яўляецца патрэба разабрацца, што і да чаго і ў гэтым тлумным свеце, і ў тваім асабістым лёсе.

Мароз жа на гэта не толькі здатны. У яго ёсць унутраная патрэба ў самааналізе. Ён, як кажуць, асоба, характар, прытым выпісаны псіхалагічна заглыблена і пераканаўча. І тое, да чаго Мароз прыходзіць (хоць і не нясе ў сабе чагосьці новага), дазваляе скарэкціраваць уласную пазіцыю і ўпэўніцца, што ў гэтым жыцці не ўсё залежыць ад цябе самога (памятаеце, чалавек — будаўнік свайго шчасця?).

Ёсць яшчэ і звыклы ход падзей, тое пастаянства, прытрымліваючыся якога, не пярэчачы якому, таксама можна многага дамагчыся. «Інжынер Анатоль Мароз нібы цыркулем начарціў свой жыццёвы круг да канца. Зямному ад зямлі няма волі, таму ўсё вярнулася на кругі свае, вярнула і яго да паўтору бацькаўскага і дзеда Аляксеева лёсу. А ад былога, ад усіх мар і памкненняў застаўся на ўспамін толькі вільготны пах талага снегу, вострая, растрывожыўшая душу пакуль што на нейкую хвіліну, памяць сэрца, бо Мароз зноў праваліўся ў глыбокі, моцны сон да ранку, калі на двары запануе марозік, малады і моцны. Раніцай не будзе часу ні азірацца, ні прыслухоўвацца, а трэба будзе толькі ўспяваць — да аўтастрады, да аўтобуса і далей, далей па абазнаным крузе...»

«Зямному ад зямлі няма волі...» У пэўнай ступені афарыстычна прамоўлена. А калі падумаць, дык і на самай справе зямное і зямля — заўсёды паяднаныя. І калі сувязь гэтая не парушаецца, тады і запануюць спакой, згода, а ў жыцці не адбываецца нічога, што само сабой пярэчыць яго зямной існасці. Пра гэтую повязь цудоўна сказаў у адным са сваіх новых вершаў В. Зуёнак:

**Калі ўжо апраўдваць сваю прысутнасць**
**На гэтым свеце не змагу нічым:**
**Ні песняй, ні каханнем, — хоць на суткі**
**Я ў Бога ўкраду ад жыцця ключы.**

**Ён не пакрыўдзіцца, ён зразумее, пэўна, —**
**Я не таму, каб ратавацца, — не:**
**Мне трэба толькі там пабыць — у спеўнай,**
**Прынацкай — не прымацкай — старане.**

**Я столькі ўзяў і з той зямлі, і з неба,**
**Што трэба мне, каб не параніць іх,**
**Вярнуць усё: аддаць назад ім трэба**
**Маё дыханне, памяць, зрок і слых...**

Паэтычная нізка В. Зуёнка і апавяданне А. Жука змешчаны ў майскай кніжцы часопіса «Полымя». І тут жа «аповесць пра Калінак ды Каласкоў, якія гаруюць і жартуюць» У. Ліпскага пад назвай «Аўцюкоўцы». Чытаючы навелы, невялікія замалёўкі, дыялогі, пабудаваныя на дакументальнай аснове, міжволі згадваеш «ніжнебайдунцаў» Я. Брыля. Не кажучы ўжо пра знакамітых габраўцаў. Хаця, дык аўцюкоўцы ў дасціпнасці часам могуць з імі і паспаборнічаць. Яны ўпэўнены: «Смех не арэх — зуб не лупіць. Пасмяяцца — не пакалечыць». Гэтак лічыць і сам аўтар, нездарма гэтую прымаўку прыводзіць у невялічкай прадмоўцы. Ну, а аўцюкоўцы... Аўцюкоўцы, як кажуць, самі за сябе гавораць. Так і хочацца прывесці хоць колькі замалёвак. Скажам, гэтую, «Запрашэнне называецца»:

«Ходзіць аўцюк па вёсцы, запрашае на вяселле. Усіх папярэджвае:

— Нічога не бярыце з сабой. Толькі бутэльку гарэлкі і сто рублёў...» (Грошай, безумоўна, яшчэ тых, што вагу мелі. — **М. А.**).

І яшчэ да прыкладу пра касца і ўдаву:

«Наняла ўдава чалавека скасіць сенажаць. Той касіў, касіў дай заначаваў у яе, бо цёмна было ісці ў сваю вёску.

Раніцой аўцюкоўка кажа:

— Мусіць, дзядзька, маніцё, што вы няжанаты... Вельмі ж добра касіцё... Можа, й заўтра прыдзіцё, калі не заняты?..»

Вось вам і аўцюкоўцы! Дальбог жа, пасля гэтага падумаеш: навошта ж нам гумар прывазны? Можа, навучымся ўсё ж свой уласны шанаваць? І ашчадна ставіцца да яго, як гэта робіць У. Ліпскі, даючы дарогу аўцюкоўцам.

У раздзеле «З літаратурнай спадчыны» «Полымя» друкуе драматызаванае апавяданне У. Дубоўкі «Salus roruli...» (падрыхтоўка да друку і публікацыя Р. Юрчанкі, артыкул «Замест пасляслоўя». Твор гэты цікавы тым, што У. Дубоўка расказвае аб стасунках украінскага Кабзара з літаратарамі Я. Баршчэўскім, Р. Друцкім-Падбярэскім, кампазітарам С. Манюшкам... Згаданыя асобы, як вядома, працавалі на сумежжы дзвюх нацыянальных культур — беларускай і польскай. Але наконт гэтага ў Дубоўкі куды больш прынцыповая пазіцыя, нездарма ў падзагалоўку значыцца «Пра сустрэчы Т. Г. (так у арыгінале. — **М. А.**) Шаўчэнкі з беларусамі». Як кажуць, хопіць нам прыбядняцца. Што да зместу «драматызаванага апавядання», дык важна, што ў ім моцная дакументальная аснова. Пра гэта, дарэчы, у прадмове згадвае і сам У. Дубоўка: «Выказванні ўсіх дзеючых асоб — не плод фантазіі аўтара. Усе яны ўзяты з адпаведных матэрыялаў таго часу». Дый варта пагадзіцца з В. Рагойшам: «Прытрымліваючыся строгай дакументальнасці, У. Дубоўка не выходзіць за межы вядомых фактаў у дачыненні да гістарычных асоб. Аднак і таго, што можна пачэрпнуць з гістарычных крыніц (мемуараў, тагачаснай перыёдыкі, спецыяльных даследаванняў і г. д.), аказалася зусім дастатковым для трох карцін драматызаванага апавядання».

Віншуем!

# ЖЫВАПІС СЛОВАМ

## Віктару КАРАМАЗАВУ — 60

У параўнанні з іншымі, на сённяшні дзень знакамітымі нашымі празаікамі, Віктар Карамазаў са сваёй першай кнігай «Падранак» крыху запазніўся. Яна выйшла, калі аўтару споўнілася трыццаць чатыры гады. Але ці так гэта важна, калі пачаць? Куды важней, што і як сказаць. А згаданая запозненасць дэбюту (хоць першае апавяданне Віктар Філімонавіч апублікаваў яшчэ за дзесяць гадоў да гэтага, у 1958 годзе) у немалой ступені тлумачыцца тым, што В. Карамазаў, у адрозненне ад многіх сваіх аднагодкаў-літаратараў, пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філфака БДУ ў сталіцы не затрымаўся. У родным Чэрыкаве працаваў адказным сакратаром мясцовай газеты, пасля — у крычаўскай раённай уласным карэспандэнтам абласной «Магілёўскай праўды». І толькі ў 1964 годзе ўладкаваўся ў рэдакцыю рэспубліканскай газеты «Звязда».

Галоўнае ж тое, што першая яго кніга прагучала, стала па сутнасці з'явай у тагачаснай маладой літаратуры. Яна ўражвала найперш багаццем жыццёвых назіранняў пісьменніка.

З жыцця прыйшлі і героі наступных кніг В. Карамазава «Па талым снезе» (1973), «Спіраль» (1974) і, вядома ж, зборніка нарысаў «Вясёлка сярод зімы» (1978). А яшчэ, на што не толькі крытыка, а і чытачы не маглі не звярнуць увагі, дык гэта ўменне пісьменніка жывапісаць словам. Яно найперш выяўляецца тады, калі В. Карамазаў раскрывае душэўны стан герояў. Найчасцей праз паяднанасць з прыродай. Яна ў творах пісьменніка таксама з'яўляецца як бы адным з герояў — жыве там, дыхае, нават, можна сказаць, перажывае, бо частка ўсяго жывога...

Найбольш яскрава знітаванасць чалавека з наваколлем, з прыродай раскрыты ў рамане «Пушча» (1979). Так і хочацца параўнаць гэты твор з «Рускім лесам» Л. Ляонава. Гэта таксама раман пра лес, беларускі лес. Але гэта і раман пра людзей, чый лёс звязаны з лесам. Пра ляснічага Валошку, дырэктара лясгаса Зімаўца. Ды і проста пра цудоўную жанчыну, але таксама чалавека нялёгкага лёсу Насцю. А нарэшце «Пушча» — сама песня Бацькаўшчыне. І сваю любоў да Беларусі пісьменнік прамаўляе нягучна, але шчыра, лірычна ды праўдзіва.

Гэтая любасць да прыроды падказала В. Карамазаву і аповесць-эсэ пра славутага жывапісца В. Бялыніцкага-Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе». У творы ажываюць пэўныя моманты біяграфіі аднаго з выдатнейшых мастакоў. Але аўтар не столькі прытрымліваецца хparty... 

Не забывае пісьменнік і пра «малую прозу», з якой пачынаў свой творчы шлях. А што В. Карамазаў адзін з самых выдатных нашых апавядальнікаў, сумнявацца не даводзіцца. Дастаткова перачытаць хоць бы яго апавяданне «Дзяльба кабанчыка». Дальбог жа, яго можна смела ўключаць у самую аўтарытэтную і патрабавальна складзеную анталогію апавядання. І не толькі беларускага...

Відочны набыткі В. Карамазава і ў галіне мемуарыстыкі. Тут найбольш вылучаюцца ўспаміны пра Аляксея Пысіна і Міхася Стральцова — сплаў дакументалістыкі і высокай мастацкасці. Па-мастацку дасканала напісаны і згадкі пра У. Караткевіча. А поруч — уваходзіны ў неабсяжны свет Максіма Гарэцкага, што пачынаюцца з вёскі Малая Багацькаўка... Усё гэта толькі частка кнігі «Проста ўспомніў я цябе...», за якую Віктар Філімонавіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.



Апошнім часам, у прыватнасці, на старонках часопіса «Нёман», В. Карамазаў плённа выступае ў галіне публіцыстыкі, спалучаючы ў сваёй асобе пісьменніка і грамадзяніна, які востра рэагуе на працэсы, што адбываюцца ў нашым грамадстве.

Урэшце, і ў кінематографе В. Карамазаў не чужы чалавек. Усё напісанае пісьменнікам і не згадаеш, бадай. Ды ёсць, аднак, патрэба сказаць яшчэ пра яго раман «Бежанцы», у якім закранаецца слаба даследаваны нашай літаратурай пласт ваеннай рэчаіснасці. Ды каб жа толькі ваеннай — ёсць жа і сучаснае бежанства, уцёкі ад чарнобыльскай радыяцыі. Ёсць над чым паразважаць, ёсць што асэнсаваць. В. Карамазаў і робіць гэта годна, сумленна і прынцыпова. Зрэшты, як і ва ўсіх сваіх кнігах.

З днём нараджэння, шаноўны Віктар Філімонавіч! Хацелася б, каб вашы душа і пяро не стамляліся, каб працавалася вам плённа і надалей!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

І ўсё ж, аддаючы належнае згаданым матэрыялам (як і апавяданням В. Віткі, вершам П. Прыходзькі і М. Башлакова, перакладам Н. Мацяш, нарысу Я. Янушкевіча «Неадменны сакратар Адраджэння, альбо Эсэ пра Вацлава Ластоўскага», артыкулам У. Дамашэвіча «Першыя крокі ў незалежнасць», К. Цвіркі «Паданне пра філаматаў», І. Чыгрына «Паміж былым і будучыняй» (змешчаны пачатак, аўтар па-новаму асэнсоўвае творчую спадчыну М. Гарэцкага), усё ж публікацыяй нумара, бадай, варта назваць успаміны Х. Мачульскага «ГУЛАГ звонку і з сярэдзіны» (пераклад з рускай мовы і падрыхтоўка да друку Л. Кудравец, уступнае слова С. Законнікава).

Безумоўна, апошнім часам неаднойчы пісалася пра жахлівае становішча, у якім знаходзіліся сталінскія ахвяры. Але то былі сведчанні саміх пакутнікаў, ці мастацкія творы, напісаныя на аснове іх успамінаў, архіўных матэрыялаў. Х. Мачульскі сам у маладосці працаваў на розных пасадах у сістэме ГУЛАГа. Перад вайной, яго, выпускніка інстытута інжынераў транспарту, накіравалі на працу ў Галоўнае ўпраўленне лагераў. Пасля давялося працаваць прарабам, а потым і начальнікам калоны вязняў, што ўзводзілі за Палярным кругам чыгунку.

Аўтара не папракнеш у прадузятасці. Не імкнецца ён і падацца чалавекам, які адразу і ва ўсім разабраўся. Шчыра прызнаецца, што хоць у інстытуце не маглі паверыць аб тым, што некаторыя сябры, якіх яны аднагалосна выключалі з камсамола, ворагі народа, тым не менш «курс партыі і праваахоўных органаў... пад сумненне не ставілі. Работа органаў НКУС была для нас сама таямніца, там было штосьці загадкавае і надзвычай важнае для бяспекі нашай Радзімы, і мы глядзелі на работнікаў гэтых органаў з вялікай павагай».

У патрэбнасці іх работы былі перакананы і тады, калі ехалі працаваць па размеркаванні: «Мы, трое маладых, нявопытных людзей, з вялікай увагай і даверам слухалі ўсё гэта (аб тым, што ўся сістэма працуе на перавыхаванне чалавека. — **М. А**). У нас тады не было сумнення ў тым, што, прыбыўшы на месца, мы сваімі вачыма ўбачым, наколькі гуманная сацыялістычная практыка абыходжання з вязнямі ў параўнанні з капіталістычнай».

І ўбачылі... Ды пра гэта — мемуарныя запісы Х. Мачульскага. Безумоўна, згадкі гэтыя далёкія ад прыгожага «штылю», ды тут гавораць самі факты. А найперш — праўда пра тое, што адбывалася ў гады таталітарызму.

Калі ж вам пасля гэтай праўды — страшнай, мужнай і патрэбнай, захочацца нечага светлага, узнёслага, вазьміце ў рукі часопіс «Маладосць». У майскім нумары яго — «лясная аповесць» (аўтарскае вызначэнне) В. Жушмы «Гарэза». Г. Далідовіч з усімі на тое падставамі прадмову да яе назваў «Глыток свежага паветра». Той, хто ўважліва пазнаёміцца з аповесцю, пераканаецца, наколькі Генрых Вацлававіч меў падставы сказаць менавіта так, а не інакш: «Гэты твор могуць чытаць усе: і самыя пажылыя людзі, і самыя юныя. Дзед можа чытаць, цешыцца хараством усходу і заходу сонца, глытком свежага паветра, жменяй крынічнай вады сам, можна кожны вечар чытаць па невялікім раздзеле аповесці свайму ўнуку, што яшчэ ходзіць у дзіцячы сад, — той таксама адчуе, што да яго далучаецца штосьці нібы казачнае, узбуджальнае, радаснае, а разам з тым і простае, звычайнае, што ёсць, жыве зусім побач, але чаго мы часам не бачым і не адчуваем...»

І зноў — вяртанне ў перажытае. А. Шлег эпіграфам да свайго рамана «Сталінскія байструкі» (змешчаны пачатак часопіснага варыянта) узяў прарочыя словы Буало: «Праўда падчас выглядае непраўдападобна». Але ад гэтага, як кажуць, нікуды не дзенешся. Што было, тое было. Былі і Зубаравы, падобныя герою твора, які на людзях сама прыязнасць, але не задумваючыся расстрэльвае ні ў чым не павінных людзей. Былі і юнакі, як Шура Карэньчык, чыя душа, неакрэплая і ранімая, не магла і не хацела мірыцца з несправядлівасцю. Твор вострасюжэтны, заінтрыгоўвае...

У «Беларусі» — гутарка галоўнага рэдактара А. Шабаліна з надзвычайным і паўнамоцным паслом Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі Ван Сіндам «Калі над Нараччу запальваюцца зоркі, над Янцзы ўжо займаецца новы дзень...», заканчэнне драмы А. Дударава «Адцуранне», чарговы разварот для дзетак «Сонейка», артыкул М. Крывальцэвіча «Баронячы сваю волю і годнасць» пра паўстанцаў 1794 года на Міншчыне, запрашэнне зрабіць вандроўку па залах музея старажытнай беларускай культуры (аўтар А. Ярашэвіч, фота М. Мельнікава), вершы П. Пруднікава, Ю. Свіркі, П. Прыходзькі...

**М. АНДРЭНКА**

---

Анкета

*1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?*

*2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?*

*3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).*

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# Я ШУКАЮ ВАС, ШЧЫРЫЯ СЛОВЫ...

Як пішацца сёння? Прызнаюся шчыра: натужліва, не так, як хочацца. Хоць я не прыхільнік тэорыі «ні дня без радка», усё ж раней пісалася неяк весялей, у ахвотку. Праўда, і тыя два дзесяткі з гакам кніжак для дзяцей і дарослых, што выйшлі ў мяне, напісаны часцей за ўсё прыхапкам. Гэтак склалася ў мяне з гадамі: я не вымучваю вершы. Спачатку абдумваю, збіраю, занатоўваю паасобныя радкі, пачаткі, канцоўкі, рыфмы, а потым, калі надараецца спрыяльная часіна (хвароба, выхадныя, адпачынак ці пуцёўка ў Дом творчасці), набіраюся цярпення і працую. Пакуль не збяру гэтыя ўсе «аскалёпкі» ў нармальныя вершы.

Чаму працуецца прыхапкамі? Ды, мабыць, ад таго, што дагэтуль не прыдбаў нармальнай кватэры, каб у ёй быў куточак, дзе б я мог працаваць, не перашкаджаючы нікому з хатніх, у любы час сутак. Хоць, кажуць, колькасць і якасць твораў не залежаць ад наяўнасці рабочага кабінета, але ж, але ж... Спытайце ў старэйшых...

Вельмі шкада, што цяпер і на тую ж «Іслач» дарога ўжо бульдозерам перабудовы перакапана, што над ім лунае не дух творчасці, а дух камерцыі. Каб набыць пуцёўку туды, трэба ўсёй сям'ёй цэлы месяц галадаць, а ганарараў — кот наплакаў. Жыццёвы настрой «дзень пражыў — і дзякуй Богу», што пануе сёння ў грамадстве, у пэўнай ступені зачапіў і нас, літаратараў. Усё гэта міжволі наводзіць на горкі роздум:

**Адраджэнне —**  
**Вятрыска вясновы.**  
**Ды ўсё меней і меней надзей...**  
**Я шукаю вас, шчырыя словы,**  
**Ды дайсці з вамі як да людзей?**

Я ўжо сказаў, што раней працавалася весялей: была надзея, што твае радкі, сабраныя ў зборнік, убачаць свет. У выдавецтве радаваліся твайму прыходу, часам званілі, нават нешта заказвалі. Сёння ж у тыя кабінеты лепш не заходзіць: адразу няўтульна становіцца супрацоўнікам выдавецтва, гэтак жа няўтульна, няёмка становіцца і табе. Можаш паглядзець у дзесяты ўжо раз на карэктуру сваёй кніжкі, а калі яна ўбачыць чытача — і Усявышні не ведае. Бо не ўгнацца за цэнамі на паперу, на друкарскія выдаткі, бо кніжкі нашы — растратныя, бяда для выдавецтва. Не аздобіш іх голымі грудастымі кабетамі, як робіць гэта «Дайджэст», каб потым злупіць за такое выданне, як цыган за бацьку. Ажно злосць разбірае: на розную парнаграфію паперы хапае, а на дзіцячую кніжачку — няма. Абыякавасць да літаратуры на дзяржаўным узроўні гнятліва адбіваецца на творчасці. Бачыш, кніжкі патрэбны дзіцячым садкам (выхавацелькі часам адна ў адной вершы ў сшыткі перапісваюць), школьнікам, а іх няма, яны ў выдавецкіх шафах, у друкарні пылам пакрываюцца (нядаўна рукапіс аднаго шаноўнага аўтара там тры дні знайсці не маглі).

Вось вам прыклад.

Напісаў я кніжку для самых маленькіх. Надрукаваная ў «Пралесцы», гэтая, арыгінальная, патрэбная, не сумная (на думку тых, хто яе чытаў) кніжачка спачатку нібыта зацікавіла сяго-таго з нашых выдавецкіх фірмаў. А потым... Як тая тэмпература ў тыфознага, падскочылі цэны на паперу. Мне сказалі: «Шукай спонсара». А знайсці спонсара таксама трэба талент мець. Ім з пісьменнікамі кантактаваць — ніякага задавальнення. Яны лепш кінуць лішнія грошы ў кацёл чарговага шоу-канцэрта, бо потым ёсць надзея атрымаць хоць нейкую аддачу — якую-небудзь малявана-безгалосую «зорку» (даруйце) за лытку памацаць.

І перакідваецца тая кніжка ў мяне на стале...

Лічу, болей пашчасціла ў «Мастацкай літаратуры». Летась, без асаблівых затрымак, убачыла свет кніжка сатыры і гумару «Лёкса ў люксе». Не так даўно адважыўся занесці новы зборнік сатыры і гумару са жменькай лірыкі «У трох соснах...» Спадзяюся, рукапіс не вернуць, а мне будзе стымул — актыўна працаваць над новым.

Ці ўзнікае жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры? Пераглядам напісанага я займаўся не адзін раз. Праўда, пераглядаў усё ў чыста творчым, мастацкім плане: скарачаў, перапісваў некаторыя мясцінкі, шліфаваў радкі, сёе-тое — зусім выкрэсліваў. Праз дваццаць гадоў перапісаў нанава дакументальную паэму «Апошні бой», тую, пра якую Р. Бярозкін у свой час напісаў у «ЛіМе» — «Інфармацыйна, без пачуцця». А вось у ідэйна-тэматычным плане — напэўна, не варта гэтага рабіць. Што напісалася, тое напісалася. Можа, калі нашчадкі за такую інфармацыю дзякуй скажуць нам. Мы былі дзецьмі свайго часу, такімі ж былі і нашы героі.

Сёння падлеткі, як мне здаецца, становяцца духоўнымі жабракамі. З'явіўся новы ідэал — пан Даляр. А дзе пануюць грошы, там шмат цёмнага, жорсткага, часам бесчалавечнага. Магчыма, што я памыляюся, мыслю стэрэатыпамі. Дай Бог, каб я памыляўся!

Цяпер галоўнае «хобі» маё — збор дзіцячай творчасці, шэфства над літаратурнымі гурткамі, над дзецьмі, што робяць першыя крокі ў літаратуры. А іх, на шчасце, шмат, у кожнай школе знайсці можна. У мяне дома — цэлыя папкі іх твораў. Сустракаюся, вяду з імі перапіску. Мне ўсё гэта найперш трэба для штомесячнай радыёперадачы «Першыя сцяжынкі», якую ўжо 20 гадоў вяду. Ганарарны прыбытак з перадачы мізэрны, але прыносяць задавальненне, грэюць душу шчырыя лісты, што прыходзяць на маё імя.

Асабліва радуе як літаратара, як чалавека, што сёння сярод тых, хто стукаецца ў «Першыя сцяжынкі», у «Вясёлку», у «Бярозку», дзе я адпрацаваў 22 гады, усё часцей сустракаюцца выхаванцы маіх былых выхаванцаў — маладых настаўнікаў, журналістаў. Жыве роднае слова, прыбіраецца ў новую квецень!

Згодны з Міколам Кусянковым: калі паглядзець, у якіх умовах мы працавалі і працуем, занятак літаратурай — таксама «хобі».

---

Віншуем!

# Івану СІНЯЎСКАМУ — 75

Каб па-сапраўднаму палюбіць літаратуру, далучыцца да беларускасці, заўсёды патрэбен пэўны штуршок. Найчасцей ён з'яўляецца ў школьныя гады, калі поруч аказваецца настаўнік, які выкладае свой прадмет з любоўю і гэтую любоў імкнецца перадаць сваім выхаванцам. Такім педагогам для І. Сіняўскага стаў Я. Гаварушка. Тады будучы пісьменнік вучыўся ў Смалявіцкай сярэдняй школе (нарадзіўся І. Сіняўскі 22 чэрвеня 1919 года ў вёсцы Жажэлка цяперашняга Смалявіцкага раёна).

Аднак па-сапраўднаму І. Сіняўскі захапіўся літаратурай падчас вучобы ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага (скончыў у 1941 годзе). Разам з І. Грамовічам, М. Лупсяковым, В. Палтаран, А. Коршакам, М. Аўрамчыкам і іншымі наведваў літаратурны гурток. У жніўні 1940 года на старонках «ЛіМа» выступіў з апавяданнем «Шафа».

У гады вайны стаў сувязным Смалявіцкага падпольнага райкома партыі. Пасля вызвалення Беларусі пайшоў на фронт, удзельнічаў у баях за вызваленне Варшавы, у Памераніі, за ўзяцце Берліна. Дэмабілізаваўшыся, працаваў дырэктарам Жажэлкаўскай сямігадовай школы, а з 1953 па 1983 год у гэтай жа школе выкладаў беларускую мову і літаратуру.

Пасля вайны І. Сіняўскі дэбютаваў як дзіцячы пісьменнік. У 1947 годзе ў часопісе «Бярозка» ён апублікаваў апавяданне «У навальніцу». Пад такой назвай неўзабаве выйшаў і зборнік апавяданняў (1949). Дзецям адрасаваны і кніжкі І. Сіняўскага — «Новая школа» (1951), «Піянерскі гальштук» (1955), «Дабрадзейка» (1960), «Марка» (1969) і іншыя.

На творчым рахунку І. Сіняўскага і некалькі кніг для



дарослых. У прыватнасці, у 1980 годзе ў яго выйшаў раман «Дарога на Замлынне», у якім расказваецца пра барацьбу беларускага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Віншуем Івана Іванавіча з 75-годдзем! Зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!

ЛіМ
ЧАСАПІС



## НА ДЗЯРЖАЎНУЮ ПРЭМІЮ

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі паведаміў спіс работ, дапушчаных да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій 1994 года. Сярод іх па раздзеле «У галіне навукі» значыцца і цыкл работ «Скарына і беларуская культура» (аўтары Г. Галенчанка, В. Дарашкевіч, А. Жураўскі, Я. Неміровіч, В. Чамярыцкі, В. Шматаў).**

**Па раздзеле «Падручнікі» названы падручнікі «Роднае слова» для другога і трэцяга класаў з беларускай мовай навучання, аўтарамі якіх з'яўляюцца В. Вітка (Крысько Ц. В.) і М. Шаўлоўская.**

## З ВЯКОЎ МІНУЛЫХ

**Апошнім часам узрастае цікавасць да гісторыка-мастацкай, краязнаўчай літаратуры. Нацыя, якая абуджаецца ад сну нігілізму, хоча лепей ведаць уласную мінуўшчыну. Гэтай высакароднай мэце служыць і новая серыя «З вякоў мінулых», якую распачало выдавецтва «Мастацкая літаратура». Толькі што ў ёй выйшла кніга Уладзіміра Арлова «Пяць мужчын у леснічоўцы». У яе ўвайшлі лепшыя творы пісьменніка: апавяданні «Пяць мужчын у леснічоўцы», «Місія папскага нунцыя», аповесці «Дзень, калі ўпала страла», «Час чужы» і іншыя творы. На падыходзе ў серыі «З вякоў мінулых» кнігі «Чорная княгіня» Вольгі Іпатавай і «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча.**

## НУ, ГЭТЫЯ АКЦЁРЫ...

**У нашым Саюзе пісьменнікаў неўзабаве можа ўзнікнуць яшчэ адна творчая секцыя ці аб'яднанне — літаратараў-акцёраў. Мяркуйце самі: акцёр па прафесіі — знакаміты драматург Аляксей Дудараў, па-ранейшаму не развітваюцца са сцэнай Пятро Ламан і Анатоль Жук... А тым часам падрастае і дастойная змена. Вось, скажам, Барыс Лагода, які толькі што дэбютаваў зборнікам аповесцей і апавяданняў «Сабака без ашыйніка» (майская кніжка «Бібліятэкі часопіса «Маладосць» за сёлетні год). Нарадзіўся Б. Лагода ў 1964 годзе ў Вялікай Бераставіцы, скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, працаваў акцёрам Гродзенскага абласнога тэатра, выконваў абавязкі галоўнага рэжысёра Крыварожскага музычнага тэатра. А цяпер вось за прозу ўзяўся...**

## УСЁ ПРА БЕЛАРУСАЎ

**У лабараторыі этнічнай і канфесійнай геаграфіі Беларускага педагагічнага універсітэта, якую ўзначальвае прафесар С. Польскі, завершана праца над унікальным атласам «Беларусы (рассяленне, дэмаграфія, этнаграфія)».**

**Беларусы на Беларусі, беларусы ў блізкім замежжы, беларусы ў дыяспары з рассяленнем па краінах свету — такі змест атласа, калі паспрабаваць вызначыць яго ў некалькіх словах.**

**У атласе намаляваны «партрэт» нацыі ў этнічнай, дэмаграфічнай дынаміцы пачынаючы з перапісу 1897 года. Усе змешчаныя тут карты, дыяграмы і графікі, расказвае прафесар, з'яўляюцца арыгінальнымі распрацоўкамі і ўпершыню фігуруюць у беларускай навуцы. «Дарэчы, — кажа Спартак Аляксандравіч, — такіх атласаў, прысвечаных аднаму этнасу, у свеце няма. Няма атласаў ні па англічанах, ні па японцах, ні па кітайцах... Расказаць мовай карт пра нацыянальныя інтарэсы беларускага народа, асаблівасці рассялення, дэмаграфіі, культуры, мне, як вучонаму, падалося вельмі цікавым і неабходным...»**

**Атлас падрыхтаваны. Застаецца яго выдаць, зрабіць здабыткам шырокага чытача, не кажучы ўжо пра спецыялістаў. І вось тут перад стваральнікамі атласа паўстала надзвычай складаная праблема — дзе знайсці для гэтага сродкі.**

**Аўтары гэтай цікавай і вельмі актуальнай для нашага часу працы звярнуліся да дзяржаўных, грамадскіх, рэлігійных і іншых арганізацый, кіраўнікоў камерцыйных структур, нарэшце, да беларусаў замежжа з заклікам дапамагчы ў выданні атласа.**

**Будзем спадзявацца, што голас іх будзе пачуты.**

**М. З.**

Паэзія

Раіса БАРАВІКОВА



# ЛІРЫКА ЧЫКАГСКІХ ВЕЧАРОЎ

•

**Дзіўлюся я, — узор які!**
**Дол восень выслала дзяружкай,**
**дзе коннік, велічны Касцюшка,**
**застыў у бронзе на вякі.**

**Краіны гэтае герой,**
**ён, можа, мне цяпер найбліжэй**
**мясцінкай той, што ад калыскі**
**была ў душы яго адной.**

**І мроіцца, — ірвуць сляды**
**высозных гмахаў агароджу...**
**Ах, гэта я яго праводжу**
**дамоў, адкуль прыйшоў сюды.**

•

**Ледзь бачных аблачын кайма —**
**цяпла жаданага прыкмета.**
**Я выпала з зімы сама,**
**ці лета даганяе лета?!**

**Душа чужая, што рака,**
**ты ў вір яе паверыць здолеў**
**з гарэзлівасцю матылька,**
**што першы раз ляціць над полем.**

**Патрэбных не знаходжу слоў,**
**калі сыходжу ў німбе ўранні**
**тваіх хвалюючых замоў, —**
**п'янлівым водары герані...**

**Каб хто схацеў падслухаць нас,**
**выказваў бы неўразуменне, —**
**не вяжацца да сказу сказ,**
**ды ў доўгіх паўзах — цвіценне!**

**Манетка рэшкаю ў руцэ**
**заціснута на нашу згоду,**
**няма ні Захаду, ні Ўсходу,**
**адно, герань паўсюль цвіце...**

•

**Між дрэў іскрыста залатых**
**плыве ледзь чутнае ігранне,**
**нібы любоўнай ночы ўздых**
**ўвабрала соннае світанне.**

**Ды той музыка з-за прысад**
**нічога ўжо не абяцае,**
**ён толькі ціхенька іграе**
**на нейкі свой журботны лад.**

**Бруяцца гукі ўверх, уніз**
**і мне тваё аблічча сніцца...**
**Прачнецца хутка Western Springs[1],**
**а сну кароткаму, ці збыцца?!**

---

*[1] Адзін з раёнаў Чыкага.*

•

**Было Еўропы выкраданне,**
**марское пены шум і рык,**
**жамчужынкай з замілаваннем**
**яе выносіў з хваляў бык.**

**Не красавацца кроне буйнай,**
**як лістапад яе кране...**
**Неонавы чыкагскі буйвал**
**глядзіць спакойна на мяне.**

**Ужо нічым не рызыкую!**
**Ліхтарыкам прылёг гарбуз.**
**А я да астры прыраўную**
**наш першы і апошні блюз.**

**Не скажаш усяго адразу,**
**што з часам разляціцца ў дым...**
**Бо любыя смяюцца разам,**
**а плачуць толькі па адным.**

•

**Лірыка чыкагскіх вечароў.**
**Дрэмле Sears Tower пад вуалем[2]**
**дымкі, што трывожыць ціхім жалем,**
**як мае настроі, зноў і зноў.**

**Запытайся сёння, я зманю,**
**што хачу, каб быў заўжды вясёлым**
**ты, што стаў ахоўнікам анёлам,**
**ля прастола нашага агню.**

**Дзе гучыць яшчэ нявінны смех,**
**дзе завеш мяне галубкай русай,**
**а ў вачах, што акіян, спакуса**
**і такі зямны, як прорва, грэх.**

---

*[2] Самы высокі будынак у свеце (за сто паверхаў).*

•

**Магнолія ўжо адцвіла,**
**як адцвітае куст шыпшыны.**
**Я тут жыла, я тут была,**
**і вось астатнія хвіліны...**

**Мяне сустрэне снегапад,**
**(люблю з маленства снегапады),**
**дзе, пэўна ж, будзе нехта рады**
**сустрэць мой сцішаны пагляд.**

**Ды гэта ўсё пасля, пасля,**
**што будзе там, як адступленне**
**ў аповесці, дзе ўсё — натхненне!**
**Але ўжо чуецца здаля...**



*Малюнак У.СКРЫГАНАВА*

Проза

Вы зноў пра гэта... Ведаеце, каб разважаць на такія тэмы, трэба быць, няйначай, філосафам, а я — проста жанчына ды і толькі. Але па-свойму, па-жаночы разважыўшы, скажу вам, што шчасце — гэта немаўлятка, такое мілае, пяшчотнае, ты яго туліш, туліш да грудзей, а рукам веры не даеш — не задушыць бы. Госці прыйшлі; хочаце вынесці, паказаць, а — боязна, каб не сурочылі. Вось і я, каб не была такая прымхлівая, каб не жыла ўва мне задаўненая неспапялёная язычніца, я, мусіць бы, сказала, што шчаслівая. Пастукаю зараз костачкамі пальцаў па дрэве. Шчасце — птушка вольная і пужлівая. Неасцярожнае слова, рух — пырх і паляцела. Не дагоніш, не вернеш. Горка і прыкра яго губляць, а яшчэ горай самой здзівіць, адпужнуць яго. Божа, як жудасна палохаецца мая душа, нешта знутры падказвае: кінь усё, хуценька выцягні з машынкі гэты, што яшчэ з некалькімі радкамі, аркуш паперы, разарві яго на дробныя кавалачкі, не пішы, не вярэдзь душу, не гавары пра гэта — ніколі. Замры і замоўкні! Пасяджу моўчкі, засяроджуся, адганю страх і скіну ўтрапенне, уздыму вочы ад белай паперы, зірну ў акно на свінцовы жолаб Свіслачы, на роўнядзь нерухомай вады, на пустэльны і голы астравок, заціснуты між двух рукавоў, гарбаты масток да будучага помніка ахвярам незразумелай, а ад таго нібы прыдуманай вайны, што як прывід, як напамінак заўсёды перад вачыма. Сюды калі-нікалі, і ўсё чамусьці ў непагадзь, завітваюць маладзёны. Вунь нявеста ў вэлюме, дрыжучы ад холаду, кладзе некалькі крывавых гваздзікоў, за руку жаніха і — хутчэй адсюль па гарбатым мастку да вясельнага эскорту машын, да свайго свята. А я ахаплю вачыма вострыя, зазелянелыя шпілі белага гмаху Свята-духава сабора, што вырваўся ў неба над абноўленай даўнінай Траецкага прадмесця, памкнуся далей, да крыжоў Чырвонага касцёла — Бог адзін — і, скрыжаваўшы на грудзях рукі, шэптам — Ён пачуе — выкажу, выпрашу патаемнае.

«Госпадзі, літасцівы і міласэрны. Даруй мне, грэшнай, што трывожу цябе, але не за сябе прашу, прашу за душу чыстую і светлую. Абарані і зберажы яго, укрый ад ліхой навалы, ад хвароб і напасцяў, ад злых людзей і звера хцівага. Зберажы ад халоднай жорсткасці любоў і прыязнасць нашу, наша ўзаемаразуменне». Прызнаюся і вам: мяне не любіў гэтак ні адзін мужчына. І я зноў жыву, я — уваскрэсла, я — радуюся, я — хвалююся, я на крылах лячу на сустрэчу з ім. Сустракаемся мы звычайна па пятніцах. І пачынаецца чароўны час, калі я забываюся пра ўсё: чэргі, цэны, палітыкі і нават прэзідэнты — гэта ўсё такая дробязь, нявартая ўвагі, галоўнае — ён, мой ненаглядны. Мы гуляем па парках і скверах, ходзім пад дажджом пад адным парасонам, смяёмся, расказваючы адзін аднаму смешныя гісторыі, і гаворым, гаворым — нам не нагаварыцца... А потым ён прапануе: пойдзем да цябе. І мы едзем у невялічкую кватэру, вокны якой пазіраюць на Свіслач, у глыбокі вячэрні час прасвечаную да дна слупамі агнёў. У поцемках ён любіць пазіраць на раку, на гэта незвычайнае, рыхтык паўночнае ззянне, перакуленае ў раку. Мая ж душа маўчыць, бо я ведаю — рэчка брудная. Я акунула ў яе рукі, калі мы гулялі на тым астраўку, яшчэ ўзяла на далонь прыбітыя хваляй да пясчанага берага пустыя круцелікі ракавінак, пакінутых куклянкай, прысела, пачала паласкаць іх у вадзе, каб потым паказаць яму. Востры смурод прымусіў адхіснуцца, і ад рукі маёй, як я яе ні шаравала ашэрхлай восеньскаю травою, ні выцірала насоўкай, патыхала брудам, нібы я чысціла свінюшнік. Гэта мне кара за жаданне ўсё на свеце памацаць, дакрануцца рукамі. Пазірай і радуйся: плыве, блішчыць на сонцы рака, што болей трэба. Але я помню, заўсёды помню — рака атручаная. І я пазіраю на яе, як на пластмасавую кветку. Дарэчы, у яго на гэты конт зайздросны імунітэт. Убачыўшы неяк у маёй руцэ рамонак, ён найперш падумаў, што кветка — штучная. А можа, гэта проста мужчынскае ўяўленне. І ім, відаць, не так цяжка расчароўвацца, як нам, жанчынам.

Не, сапраўды, мяне не любіў так ні адзін мужчына, так чыста, так пяшчотна, так аддана, таму так любы мне нашы суботнія раніцы, калі не трэба

Ніна МАЕЎСКАЯ

# ШЧАСЦЕ



АПАВЯДАННЕ

нікуды спяшацца, можна крышку папесціцца ў пасцелі. І сон і не сон, а лёгкая і салодкая, як мроі, дрымота яшчэ гайдае мяне на сваіх плаўных хвалях, а ён, жаўрук мой, прачынаецца раней, абвівае мне шыю рукою. Нашы ложкі стаяць упрытык, побач. Яго дыханне, як шорхат матыльковых далікатных крылаў, што сеў на кветку і разгойдаў яе, каля самага майго вуха.

«Каралева, — шэпча ён пяшчотна, каб разбудзіць мяне, а потым грамчэй, — Каралева».

Вочы мае не разліпаюцца, нібы баяцца святла, ці даглядаюць дзівосны сон, рукі ж мкнуцца яму насустрач, шукаюць у белай пене прасцін. Сухімі вуснамі я дакранаюся да ягонай шчакі.

«Цалуй мяне яшчэ», — просіць ён і падстаўляе другую шчаку. Абняўшыся, мы затойваемся на нейкую хвіліну, заціхаем, перадаючы адзін аднаму сваю невыказную пяшчоту, сваю радасць ад сустрэчы ў новым дні. Ён адсоўваецца і хітра зазірае ў выраз начной сарочкі: «Я ведаю, што ў цябе там, не хавай. Там два пакеты малака». І мы смяёмся, валтузімся і жартуем. «Каралева, ці не пара нам уставаць. Ідзі, калі ласка, вары кашу». Ну як ты не ўскочыш ад такіх слоў, не накінеш на сарочку халат і не паімчыш на кухню. А потым за сняданкам мы вырашаем, у які ж сёння сходзіць нам тэатр — оперны ці музкамедыі. А калі аказваецца, што ўсё мы слухалі і глядзелі не адзін раз, проста ідзём гуляць. Гуляем па набярэжнай — не важна ідзе снег ці нават дождж, ну а сонца свеціць, дык і сам Бог вялеў, — гуляем па парку, дзе ў нас ёсць свае запаветныя мясцінкі, ці проста блукаем па вузкіх вулачках і лесвічках Траецкага прадмесця, дыхаем даўніною, разглядаем узорыстыя рашоткі на вокнах, каваныя вароты, маленькія, нібы цацачныя дамкі з драўлянымі мансардамі, заходзім у карчму. О, гэта сапраўды казачнае месца! А не, дык паркам выходзім на праспект Скарыны. Ён сочыць за машынамі, цяпер яны розныя — збегліся сюды з усяго свету. «Зірні, вунь пайшла якая прыгажуня... Табе якія болей падабаюцца — белыя ці чорныя?» — «Мне? Вішнёвыя». — «Добра. Пакажы мне вішнёвую». — «Калі сустрэнецца...» — «А маркі якія — БМВ ці Мерсэдэсы?» Сказала б ды не ведаю, напэўна, «Жыгулі». «Тады я скора падару табе машыну, якую ты захочаш. І паедзем... Куды мы з табою паедзем?» — «Не ведаю». — «А я знаю — на мора. У Анапу ці Місхор». — «О, цяпер білет туды пэўна сто тысяч». — «А навошта нам самалёт, мы паедзем на машыне. І я буду за рулём...» — «Добра, любы, а цяпер вылазь з машыны, зойдзем у булачную — у нас няма дома хлеба», — гавару яму са смехам. Зайшлі у магазін, купілі хлеба і крочым далей.

«Давай яшчэ зойдзем у банк». Я вагаюся: навошта, у мяне там — ніякіх спраў: за кватэру заплаціла, грошы не кладу — іх няма, а тыя (так, я некалі была багатая), што там ляжаць, ператварыліся ў пыл. Але ён адчыняе перада мною дзверы. «Ну чаму ты не хочаш зайсці ў мой банк? Заходзь, не бойся. Мы толькі глянем, як там працуюць. І кветкі... Бачыш, растуць, як дрэвы». Сапраўды, кветак, вазонаў у банку многа. І растуць яны, як джунглі, толькі мініяцюрныя. Відаць, у некага са служачых добрая рука, якая адпачывае ад мярзотнага лічэння чужых грошай, паліваючы гэтыя кветкі. «Я і не ведала, што ў цябе свой банк». — «Тут побач у мяне яшчэ і аптэка, і пошта. Але мне трэба магазін, каб прадаваць марожанае, гумкі-жуйкі і шакалад. Я абавязкова яго пабудую». — «У мяне няма сумнення. З тваёю энергіяй». — «Дзеці будуць рады. Праўда?» — «Дзіва што». — «Захацеў марожанае ці жуйку — калі ласка».

Яму вельмі падабаецца гэтае «калі ласка». Ён некалькі разоў шчасліва і задаволена паўтарае гэтыя цудоўныя словы, разводзіць пры гэтым і працягвае рукі, нібы раздае ласункі: калі ласка, калі ласка, калі ласка...

Я так люблю, калі ён вясёлы, у добрым настроі ён такі гаваркі, я даведваюся безліч новага. Ён жа можа гаварыць з кожным сабакам, што сустракаецца нам па дарозе: «Сабака, сабака, куды ты бяжыш адзін? Нельга сабакам хадзіць па горадзе без гаспадара».

З варонаю, якая сядзіць, надзьмуўшыся, на дрэве: «Гэй, варона, трымайся мацней лапамі — заснеш і звалішся долу. Трымайся, варона!»

Варона толькі лыпне мудрым старэчым вокам, маўляў, дзівак, і зноў паглыбляецца ў ціхамірны сон.

А ён падыдзе ў парку да самага прыгожага — на яго думку — і магутнага дрэва, абдыме яго, прыслоніцца шчакою да шурпатай, абветранай кары і папросіць: «Дрэва, дрэва, дай мне сілу». Пастаіць, абняўшы яго, адхінецца, зазірне, задраўшы галаву, на вяршаліну, нібы ў твар дрэву, пагладзіць ласкава на развітанне: «Дзякуй, дрэва».

Вось такі ён, мой любы! Пры кожнай сустрэчы я адкрываю ў ім штосьці новае. І гэтыя адкрыцці — глыток радасці, ад якога цяплее мая акрыялая душа. Але адвечны прымхлівы страх не дазваляе мне радавацца шчыра і адкрыта, як ён. Іншы раз гэта выклікае ў яго трывогу, закрадаюцца сумненні. «Я так чакаў цябе, — прызнаецца ён, прыціскаючыся да маёй шчакі, цалуючы. — Я думаў, што ты не прыйдзеш». — «Ну як жа? Я ж люблю цябе». — «Я таксама цябе моцна люблю».

Нашы абдымкі і прызнанні бясконцыя. «Я сумаваў без цябе. Я думаў ты пабаішся дажджу». — «Хіба я калі-небудзь чагосьці баялася?» — «Ты такая смелая. Памятаеш, як узняўся вецер і вырваў у цябе з рук парасон». — «Так, памятаю. Пачалася такая навальніца, мы ледзьве паспелі схавацца ў маленькай краме». — «Гэта было цудоўна. Гаспадар частаваў нас кавай. І я думаў: няхай ідзе і ідзе гэты дождж, а мы будзем сядзець і глядзець тэлевізар». — «Вось ён і ідзе...»

І мы выходзім пад дождж, што зачасціў у гэтае лета. Але што нам дождж. Яго паэтычную натуру агортае радасць, і зноў з'яўляецца пяшчота да ўсяго на свеце — жывога і нежывога. А дождж шыецца за каўнер і пора як мінёр, тонкімі спіцамі газоны.

«Дожджык, дожджык, што ты тут шукаеш на градцы? Можа, моркаўку?»

Я ўспамінаю мінулую восень, дачу, пахіленыя кусты цвітучых хрызантэм, пустыя грады, толькі на адной — мусіць, вымытая дажджом, — як перліна ў цёмнай вадзе, моркаўка. Мы пазіраем у акно, па шыбінах, як па шчоках, цякуць няўцешныя слёзы, што засцяць пазіраць на мокры сад, пацямнелы і ніцы, як апошні жабрак у атрэп'і некалі багатых і шыкоўных убораў. Мы моўчкі развітваемся з ім да будучай вясны, чакаем машыну, якая павязе нас, здранцвелых ля акна і маркотных, у горад, у крышку забытае, але звыклае жыццё. «Давай нікуды адсюль не паедзем. Будзем з табою тут жыць». Голас яго набрынялы сумам, вочы — дажджом. «Восень... А там — зіма, холад...» — «Ну і няхай. Я буду паліць грубку, саграваць цябе». — «Нам будзе сумна...» — «Мне ніколі не сумна з табою. — Рукі яго абвіваюць маю шыю. — А калі... — Вочы яго засвяціліся новай ідэяй. — А калі стане сумна, мы возьмем да сябе суседскага сабаку. Яны, можа, яго пакінуць тут...»— «І ўсё ж давай хуценька збірацца. Бачыш, якія ў цябе рукі халодныя. У горадзе ўжо ўключылі ацяпленне». — «Тады я паеду да цябе».

Ён бярэ ў рукі гітару, старую разладжаную гітару, якую, як іншыя непатрэбныя, але дарагія сэрцу рэчы, звезлі на дачу. Ён тузае аслабелыя струны, што не хочуць падаваць нават гукі, напінае іх.

«Давай спяваць, — і пачынае першы. — У саду гуляла, цвяты збірала, каго любіла, прычаравала...»

«Прычаравала сэрца і душу. Каго любіла, любіці мушу...» — Зліваюцца нашы галасы, ціхія, крышку сумныя і зладжаныя. Мы часта спяваем гэтую песню, то задзірыста і азартна, нібы весела танцуем польку, то цягуча, як два стомленыя вандроўнікі, што падтрымліваюць адзін аднаго ў нялёгкай дарозе. А цяпер — нібы перад намі гарыць свечачка, і мы ледзьве дыхаем, каб не зляцеў мігатлівы пялёстак і не патануў у цемнаце ночы. І ўсё ж дапяваем да канца. Бывае, хто-ніхто, калі чуе нас, дзівіцца, што мы ведаем да канца такую даўжэзную песню. Так, песня, як жыццё, яе трэба спяваць да канца.

Мы хвіліну маўчым. Ён абдымае мяне, зазірае ў вочы. «Якія ў цябе вочы». Не ведаю: пытае ён ці дзівіцца. «Пэўна, зялёныя». — «Так, зялёныя-зялёныя. Я ніколі не бачыў такіх вачэй. Такія бываюць толькі салюты». — «Гэта і ёсць салюты. Мая душа салютуе, што ты са мною». Я прыціскаю яго да грудзей. Ён выслабаняецца, зноў пазірае мне ў вочы. «А ты не разлюбіш мяне? Ніколі-ніколі?» — «Так. Ніколі-ніколі. Абяцаю. — Цалую яго ў гарачую шчаку. — А ты?» — «І я таксама. Клянуся. Давай ніколі адзін аднаго не разлюбліваць. І ніколі-ніколі не ўміраць». — «Давай». Мы абдымаемся і цалуемся.

«Ты — маё шчасце» — шапчу я. «А ты — маё», — таксама шэптам гаворыць ён.

А пад вакном вуркоча машына — прыехаў Пятровіч. Мы апранутыя, выходзім на ганак, замыкаем дзверы.

«Дзякуй табе, добры наш дом», — гаворыць ён. А я пад парывамі перамешанага з дажджом ветру падымаю з зямлі бэзавы куст хрызантэм. Дзіўныя кветкі — дождж і слата, а яны цвітуць. Хочацца сказаць: як і я — але пра сябе гаварыць так не сціпла.

Зноў я чакаю вячэрніх званкоў і нашых сустрэч па пятніцах.

А сёння ён вельмі сур'ёзны і нечым незадаволены: «Усё, пачынаем працаваць. Мне трэба крыху папісаць. І ты садзіся пішы свае казы-пераказы. Можа, падорыш мне матацыкл».

Так, я абяцала яму купіць матацыкл, калі атрымаю ганарар. Але вось бяда, жыццё паварочваецца так, што матацыклы на хуткіх скарасцях цэн імчаць ад нас усё далей і далей, а ганарары толькі пазіраюць ім услед. Але, адчуваю, што справа зусім не ў матацыкле, турбуе яго нешта іншае. Але што? Мы моўчкі сядзім кожны над сваімі паперамі. І раптам ён не вытрымлівае маўчання.

«Ты зусім не займаешся выхаваннем свайго сына». — «Ён нечым цябе пакрыўдзіў? Чым?» — «Я не хачу гаварыць». Ён адводзіць позірк. Так паводзіць сябе чалавек горды, які ведае сабе цану, ведае, чаго ён варты. Потым зноў звяртаецца да мяне: «Ты ведаеш — ён зноў пачаў курыць. І курыць раніцай, калі ідзе на работу. Я назіраў...» — «Гаворыш, ён курыць? Сядзіць дзень ля камп'ютэра, ды яшчэ і курыць!» — абураюся я. — Губіць здароўе...» — «Я яму таксама гэта гаварыў: курыць — шкодна! А яшчэ ён купляе самыя дарагія цыгарэты, з вярблюдам на пачцы. Лепш бы гумку жаваў...» — «Ну гэта таксама не вельмі карысна — набіваць слінаю страўнік». — «Купляў бы «Орбіт» без цукру. Гэта карысна для зубоў». — «Ты таксама верыш рознай рэкламе. А гэта добра, што ты мне сказаў — я з ім пагавару». — «Так, табе трэба болей займацца яго выхаваннем. Ён апошнім часам наогул стаў невыносны...» — «Паслухай, можа, у яго непрыемнасці на рабоце? Ён нічога не гаварыў?» — «Не... — ён задумваецца. Потым прапануе, — можа, мне пазваніць яго начальніку?» — «Думаю, што не трэба, я спачатку пагавару з сынам, а ты адразу званіць начальніку...» — «Учора нават хацеў пазваніць Кебічу». — «З якой нагоды?» — «Што ён там сабе думае. Цэны проста здурэлі. За «зайца» нічога не купіш... Скора наогул будзе калапс». — «Мы ж з табою дамовіліся не гаварыць пра палітыку». — «Але ж усе наўкола гавораць». — «Ну і няхай. Што нам да таго. Нам да гэтага няма справы, таму што... — я чакаю яго адгадку, — таму што...» — «...мы адзін аднаго любім» — радасна дадае ён, абдымае мяне, прыціскаецца сваёю шчакою да мае.

І сапраўды для мяне нічога не існуе. Ні здзічэлых цэнаў, ні палітычных інтрыг і разборак, ні магазіннай і транспартнай мітусні. Усё гэта такое мізэрнае, што нявартa пра яго ў такія часы і думаць. Як не думаюць, мусіць, і тыя, што едуць па вуліцы ва ўбраных стужкамі машынах. Едзе вяселле...

Ён праводзіць позіркам эскорт машын. «Як бы ты хацела, каб мы ўпрыгожылі сваю машыну — шарамі ці стужкамі?» — пытаецца ён. «Навошта?» — «Мы ж будзем з табою жаніцца...» — «Але ж я замужам...» — «Значыць, Пятровіч твой муж? Вы з ім жаніліся і ехалі на ўбранай машыне. Потым у вас нарадзіўся сын?» — «Так. Толькі мы ішлі пешшу, бо ў нас не было машыны». Доўгае маўчанне. Тут ёсць над чым падумаць. «Але я ўсё роўна хачу на табе жаніцца і ты пагавары з Пятровічам. — І, памаўчаўшы, дадае. — Можа, я сам з ім пагавару».

Увечары я чую іх размову: ён усё-такі адважыўся.

«Але ж яна мая жонка. Я ведаў яе яшчэ дзяўчынкай. Яна і цяпер мне падабаецца», — даводзіць яму Пятровіч. У голасе яго шчырасць, якой я таксама заўсёды веру. Але вось ён не вытрымлівае сур'ёзнасці гаворкі. «Навошта табе гэтая старая?» — зусім з іншымі ноткамі ў голасе пытаецца Пятровіч. «Але ж калі я на ёй жанюся, яна будзе маладзець і маладзець і зноў ператворыцца ў кучаравую дзевачку, пра якую ты расказваў». Пятровіч толькі цяжка ўздыхае: «Мой хлопчык, каб гэта было так, я аддаў бы табе яе назаўсёды. Каб гэта было так!»

І мяне таксама кранае той невыказны сум, што гучыць у яго голасе.

Калі я заходжу ў спальню, яны ўжо ціхамірна спяць і, пэўна, бачаць у сне кучаравую беленькую дзяўчынку. А тая дзяўчынка садзіцца перад люстэркам і ціхенька, каб не патрывожыць іх сон, разглядае свае зморшчынкі, прычэсвае белыя — няўжо гэта сівізна? — валасы і здзіўляецца: як жа так хутка прабег час, што яна нават не заўважыла.

Пэўна, вы здагадаліся, хто ён, мой любімы, маё шчасце. Але я прымхлівая і імя яго ўсё роўна не назаву. Калі ён быў зусім маленькі, і мы жылі разам з сям'ёю сына на старой кватэры, кожнай раніцы чула — тэп, тэп, тэп — ідзе да нас у спальню раненька (дзеці прачынаюцца з сонцам), лезе на ложак. «Хто ты?» — пытаюся. «Шчасце». — «Чыё?» — «Маміна». — «Дык чаго ты лезеш да мяне, ідзі да яе». — «Хачу быць тваім шчасцем». І дамогся-такі, стаў.

Гэта сапраўднае шчасце... І буду прасіць у дрэў і птушак, у мора і ветру, буду непакоіць сваім маленнем самога недаступнага мне, язычніцы, усемагутнага Бога: «Святы Госпадзі, Госпадзі міласэрны, заступнік наш, зберажы маё шчасце, распраў яго крылы на поўны ўзмах, дай яму розум і сілы прайсці жыццёвымі дарогамі смела і ўпэўнена, зрабіць вялікае дабро, што не змагла, не сумела я. Госпадзі, гэта не проста шчасце — гэта працяг роду майго. І не толькі за сваё прашу, госпадзі, зберажы кожную атожылку чалавечую на нашай пакутнай «зямлі».

## АГЛЕДЗІНЫ «ВЕЖЫ»

«Вежа» — берасцейская бардаўская суполка, якая гуртуецца вакол свайго нефармальнага лідэра Вінцэся Вашэкі. Паспрабаваўшы свае сілы ў публічным выступленні на студэнцкай аўдыторыі, «вежаўцы» вырашылі выйсці на больш разнастайную публіку ды наладзілі з гэтай нагоды 6 чэрвеня свой выступ у тэатры лялек.

Увесь вечар на сцэне паасобку і разам былі сам Вінцэсь Вашэка, а таксама ягоныя паплечнікі па гітарных акордах Ніна Загарэўская, Вольга Сідарук, Алесь Паплаўскі і Сяргей Храмаў. Мяркуючы па рэакцыі залы, падобная «вылазка ў вялікі свет» мела поспех. А таму, што мае поспех, наканаваны працяг...

І. Х.

## ІЗНОЎ «РАДАВЫЯ»

Народны тэатр Талачынскага раённага Дома культуры (рэжысёр — Святлана Мікалаеўна Васільева) за час свайго існавання ажыццявіў шэраг пастановак па творах беларускіх аўтараў. Работы мясцовых самадзейных артыстаў, як правіла, знаходзяць шчырую ўдзячнасць у гледачоў.

Днямі народны тэатр запрасіў сваіх землякоў на прэм'еру — спектакль па п'есе А. Дударава «Радавыя». Падзяку ад гледачоў выказаў намеснік старшыні раённага Савета народных дэпутатаў М. Завадскі.

Сваю чарговую работу калектыў тэатра прысвячае 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Алесь МАЗУР

## СВОЙ ДРАМАТУРГ?..



Слонімец Аляксей Якімовіч вядомы рэспубліканскаму чытачу як празаік, які напісаў і выдаў кнігі «Гордзіеў вузел», «Эльдарада просіць дапамогі» і «Сакрэт Тунгускага метэарыта».

У апошні час празаік стаў плённа працаваць над драматургічнымі творамі для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту. Дзве невялікія п'ескі «Хто ж вінаваты?» і «Вялікае зацьменне» ўвайшлі ў зборнік «Казкі для сцэны», які выдадзены ў Мінску ў 1992 годзе. А натхніў пісьменніка, мабыць, Слонімскі беларускі драматычны тэатр, які яшчэ летась па п'есе Аляксея Якімовіча ажыццявіў пастаноўку «Чарадзейныя суніцы».

Літаральна на днях у тэатры адбылася новая прэм'ера па п'есе А. Якімовіча «Хітрыкі бабы Ягі» ў рэжысуры М. Варвашэвіча. Ролі выканалі Т. Натарава, Н. Жукоўская, У. Навумік, І. Ёрш, В. Сявец, В. Шчарбакоў.

С. ЧЫГРЫН

*На здымку: сцэна са спектакля «Хітрыкі бабы Ягі».*

*Фота М. СУПРУНА*

## ПАЛАНЕЗ ДЛЯ МУЖНЫХ

З'явілася яшчэ адна кніга, прысвечаная 200-годдзю паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, — «Паланез для касінераў» Уладзіміра Емяльянчыка. Гэтае выданне, што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь», цікавае тым, што ўзнаўляе малавядомыя эпізоды збройнага чыну далёкіх гадоў, калі вялася барацьба «за нашу і вашу свабоду». Безумоўна, асноўная ўвага ўдзяляецца самому кіраўніку паўстання, але разам з тым у полі зроку даследчыка знаходзяцца і яго выдатныя паплечнікі. У прыватнасці, расказваецца пра партызанскія рэйды паўстанцаў на чале з М. Агінскім, С. Грабоўскім і іншымі.

# У АРТЫСТАХ...

***«...Няма такога — «акцёрскай прафесіі», — сцвердзіў нядаўна акцёр Андрэй Душачкін на нашых старонках. — Няма. Я ніякім чынам не грэбую такімі вызначэннямі, як тэхніка, умельства, дадзеныя, адметнасці псіхафізічнага апарата, — усяго, што вызначае здатнасць асобы да мастацтва. Але такой «работы» — акцёрам — няма. Ёсць — асабістыя праявы, схільнасці, прадвызначанасць...» Каму ж, як не артысту, які штовечар (і, надараецца, штораніцы) выходзіць на сцэну аднаго з буйнейшых тэатраў рэспублікі, меркаваць пра сваю... работу? прафесію? Дый на самай справе: за рэцэнзіямі, аглядамі, крэскамі да творчых партрэтаў не часта можна пачуць галасы тых, хто дае падставу для бясконцых размоў пра тэатр. Тым больш, што апошняе слова — усё адно за імі...***



— Які ў нашай краіне галоўны заканадаўчы орган? — перапытвае мяне настаўнік на выпускным іспыце ў школе: рыхтуючыся да адказу, я чытаў газету, чым выклікаў шокавае недаўменне камісіі.

— С-савет народных камісараў?.. — адказваю я.

— Ідзі, Клімаў. Можа, хоць артыстам зробішся... Тады фатаграфію на памяць прынясі, не забудзься.

— Абавязкова, — абяцаю я...

«Ну што ж, рыхтуйся ў артысты», — мовіў бацька, зазірнуўшы ў мой атэстат. «А гэта цяжка?» — «Ды не. Вывучыш вершы, я скажу якія...» — «А з сябрам можна?!»

Ёсць... Асабістыя праявы, схільнасці, прадвызначанасць...

Ёсць цуд — тэатральна-мастацкі інстытут (гэта цяпер ён ганараваны акадэміяй). Які цуд гэтыя хлопцы-аднакурснікі, гэтыя педагогі, гэтае жыццё! Цуд — першая бульба, пах віна, закаханасць, — у студэнтаў-артыстаў усё як у ... людзей: гарэлка па начах ля вогнішча! Ну не цуд — ачуцца пасля яе на руках у таварышаў ды заснуць, каб пракінуцца раніцай і зноўку збіраць бульбу? І спяваць пад гітару ля вогнішча... А наперадзе — вучоба, інстытут, тэатр! Тэатр.

Ён быў паўсюдна. Ён быў усім і ва ўсім. Ён быў маім домам раней (акцёрскі сын), ён зрабіўся домам цяпер, ён будзе домам надалей, а пакуль... эцюдам: я — дрэва, я — галінка, лісцік, жук, заяц, а вось ужо і чалавек, а вось ужо і першае слова можна сказаць на пляцоўцы... А кіраўнік курса В. Раеўскі ды куратар А. Душачкін-Карсакоўскі так уважліва глядзяць і строга, і такое шчасце мовіць гэтае першае слова! Яно нараджаецца проста ў аўдыторыі, проста ва ўрыўку само зрываецца з вуснаў так шчыра, так натуральна: «Маць вашу!..», бо сам урывак, які доўга і старанна рыхтавалі да паказу, не атрымаўся, блага прайшоў, і вось... Аўдыторыя сцішаная, студэнты-калегі моўчкі ўзіраюцца ў выкладчыкаў, выкладчыкі — у мяне, я толькі што не трачу свядомасці... «Малайчына, — кажа Раеўскі. — Добра мовіў. Арганічна».

Вокны аўдыторыі выходзяць на праспект. Позні вечар. Амаль ноч. Выпалена процьма цыгарэт, паспытана бездань спробаў, мы ўсе любім адно аднаго, да заўтрага засталося зусім нядоўга, хутчэй бы... Жыццё спынілася. Жывём толькі мы, студэнты-акцёры, жывём тэатрам, трызнім тэатрам, размаўляем пра тэатр, думаем, мяркуем, спрачаемся, маўчым... Кожны расце на вачах, кожны разумее сябе штодня так, як астатнія не зразумеюць за ўсё жыццё. Мы — задзіночаныя, нас — няшмат. Мы сябруем-працуем удзень і ўначы, іншага сэнсу няма, мэты, шляху, пуцявіны — няма і быць не можа. Толькі тэатр. Нас так вучаць, так гадуюць, такімі мы самі хочам быць... Якімі? Якімі яшчэ?

Рэпетыцыя — адчуванне цуду пошуку і пакуты, радасці ды паздрослівасці засталося ў мяне з інстытуцкіх часоў назаўжды. Я не мардаваўся — я шукаў. І гэтым быў шчаслівы. У мяне былі добрыя педагогі — пажыццёвая мая ім удзячнасць. «Ну што? Усё зразумеў? Усё ведаеш?» — пытаўся ў мяне бацька перад выхадам на сцэну ў Навучальным інстытуцкім тэатры. «Усё ведаю...» — адказваў я. «Тады забудзься на ўсё, а то нічога не сыграеш», — перапыняў мяне бацька. Не забудуся, як на спектаклі нашага курса «Зыкавы» паводле Горкага ў мяне сапраўды... пайшло. Кожнае слова нараджалася... як мелася быць ды нараджацца ў ролі Міхала Зыкава. Тым днём былі шчаслівыя ўсе: педагог Андрэй Валянцінавіч Душачкін-Карсакоўскі, мой бацька, я сам, мае аднакурснікі. Убег за кулісы таварыш: «Малайчына, дзякуй табе, значыць, можам усё-такі!»

... Сон. Ідзе спектакль, я мушу выйсці на сцэну. У мяне роля. Я выходжу, а тэксту... Не памятаю ні слова, а глядач чакае... У жаху пракідаюся. Гэта — акцёрскі сон. Яго акцёры сняць усё жыццё.

Выпускны іспыт па акцёрскім майстэрстве ў мяне прымаў Андрэй Макаёнак. Тут ужо з адзнакамі ўсё было як мае быць.

... «Спазнай сябе і ты спазнаеш свет». Але заблытацца ў гушчэчы дабра і зла, праўды і маны, сэнсу і мітусні так лёгка звычайнаму жывому і грэшнаму чалавеку. Ды што там звычайнаму... Праз шлях спазнання вар'яцелі, пускалі сабе кулю ў лоб, спальваліся на вогнішчах, хаваліся ў пячоры, выракаліся ўсіх зямных даброт, грашылі, каяліся, мардаваліся... Лепшыя, разумнейшыя, найталенавітыя. На іхніх ахвярных ды пакутніцкіх жыццях, на іхняй духоўнай энергіі ўсё яшчэ трымаецца гэты свет, і трымаецца праз іхні прыклад яшчэ вера ў душах людзей. Але як цяжка прыйсці да светлых слёз пакаяння і да веры ў душы... І ці не нараджае вера ў Бога бязвер'е ў людзей? І тады на змену спадзяванню прыходзіць адзінота. Яна, адзінота, заўжды побач, заўжды з сабой — ад нараджэння да скону ў пакутах. Адзінота робіцца для цябе ўсім і замяняе ўсіх, яна паглынае самога цябе, як вада паглынае тапельца. Гэтаксама, як нам хочацца жыць, хочацца й памерці, бо гэта дзве пэўныя, вартыя адна адной, сілы, што жывуць у чалавеку, — прага жыцця й прага смерці. Радасць стварэння й асалода разбурэння...

Ніколі не забудуся, як патануў. Менавіта патануў. Гэта было даўно, я быў маленькі, плаваць не ўмеў, і так надарылася, што я, загуляўшыся з дзяцьмі, апынуўся на глыбокім месцы і проста пайшоў на дно. Апошняе, памятаю, што ўбачыў, — гэта паветраныя бурбалкі, якія падымаліся на паверхню...

Ачуўся я на беразе, — відаць, мяне такі хутка паднялі. Так вось і адзінота. Спачатку — мардуе-мардуе, а потым прызвычайваешся да яе срэбных паветраных бурбалак. І ўжо добра. І нічога іншага ўжо не трэба. Мне знаёмае гэтае пачуццё, хоць я веру, што адзінота — усяго толькі пераход ад спазнання сябе да спазнання свету. Але надта ўжо пакутлівы бывае гэты пераход. І... не ўсе пераходзяць...

...Дык вось ён які — сапраўдны тэатр! Не той, дзе я нарадзіўся ды ўзгадаваўся, дзе мяне песцілі і ласкава гладзілі па галоўцы, пакуль быў маленькі. Тэатр — іншы. Такі вялікі, такі абыякавы, такі каменны. Ён ажывае толькі тады, калі ў ім з'яўляюцца людзі. Гледачы. Каб глядзець... на цябе і толькі! І больш — ні на каго! Бо тэатр — гэта ты, а ты — гэта тэатр, і адно без аднаго, хоць сабе і праклінаючы Шэкспіра, вы існаваць не здольныя. І ўвесь ты — у промні святла на сцэне, у дрыготкім маўчанні залы, гэтае чорнае яміны, гэтае бездані, што зеўрае перад табою ды высмоктвае з цябе ўсё тваё жыццё і пачуцці, думкі, каханне... А ты ўвесь шчаслівы праз гэта, жывеш гэтым і дзеля гэтага. І хай у рэальным жыцці засталіся адны страты ды адзінота, нязнойдзеныя каханыя ды згубленыя сябры, пусты дом, а твой тэатральны палацззяючых агнёў вось-вось ператорыцца ў пашчапаныя ночвы, усё рэальнае — нішто. Нішто ў параўнанні з імгненным шчасцем сцэны.

Дык вось ён які, праўдзівы тэатр!.. Ну, а непраўдзівы? Ён жа ёсць! Але ці варта пра яго? Не варта, даючы нырца ў мора, думаць пра падводныя камяні. Альбо ныраць, альбо... Я — нырнуў. І ўвайшоў у тэатральны свет ужо свядома. Як акцёр, а не як акцёрскі сын.

Мой першы выхад у галоўнай ролі. Гэта быў увод, акцёр, што выконваў ролю да мяне, карыстаўся поспехам. Я выйшаў на сцэну і памятаю, як сцішыўся свет вакол мяне, — выйшаў з дрыжачымі вуснамі ды каленьмі. І неперадавальнае пачуццё жаху, ад якога я здранцвеў напачатку, паступова стала расставаць — як кавалачак люду: гледачы ўзіраліся надзіва ўважліва... І да фіналу спектакля яно ператварылася ў цёплае і шчаслівае адчуванне перамогі... А на прэм'еры іншага спектакля я, як выйшаў на сцэну, дык і ўсвядоміў: нічога сыграць не магу. Проста не магу і ўсё! І што трэба спыняць дзею і хавацца за кулісамі. Напэўна, я б такое і ўчыніў, але нешта пакрыёмае, глыбока схаванае мовіла: калі я гэткае ўчыню, дык акцёрам магу сябе больш не лічыць. І я... застаўся.

Адчуванне ірэальнасці свету, вобразнае бачанне рэчаіснасці, унутранае пачуццё падвоенасці цябе самога і свету, а, па кантрасце — жорсткасць рэальнага жыцця, прымусілі выпрацаваць свой пагляд на рэчы, такое бачанне й разуменне сябе, — яны маюць на ўвазе вялікі канфлікт з жыццём: абсалютную неадпаведнасць рэчаіснасці і жаданняў. Нават жаданняў духу. Перадусім гэтая неадпаведнасць спаквала, але, дзякуй Богу, пэўна, разбурыла, знішчыла мае ілюзіі наконт акцёрскай кар'еры. Нічога няможна зрабіць як мае быць, калі робіш гэта дзеля нейкіх дабротаў-выгодаў. Толькі цяжкая праца сярод такіх самых, як ты, вызначае кар'еру тэатральнага артыста. Другой страчанай ілюзіяй сталася глядацкая любоў да тваёй справы. Як правіла, гэтая любоў знікае амаль адразу пасля заканчэння спектакля. А вось нялюбасць, калі нешта не ўпадабаў, можа цягнуцца й доўжыцца. І трэцяя, самая высокая, самая прыгожая ілюзія — абрынула і пабілася на друзачкі: ілюзія абранасці творчых людзей. Я — не вялікіх ды геніяў. Іх судзіць можа хіба Бог. Я — пра ўсіх астатніх, хай сабе і таленавітых. Пастаяннае, свядомае ўмяшанне ў сваю псіхафізічную прыроду, у сваю душу (а гэта — падстава авалодання акцёрствам) вядзе да непазбежнага дэградавання ў самых розных абліччах. Ад звычайнай шызафрэніі да цяжкіх захворванняў сумлення. Акцёр часам як наркаман, які прызвычаіўся да сваёй дозы мройнага замест сапраўднага. І крый Божа не даць яму гэтую дозу: дзеля яе ён здрадзіць, звыродзіць, заб'е. Акцёрава доза — роля. След недаатрыманай дозы-ролі ёсць і маёй душы, але, воляю лёсу, я з акцёрствам асвойтаўся з маленства, — прынамсі пачуццё гумару як імунітэт супраць хваробы душы давялося і выпрацаваць, і развіць. Інакш у тэатры можна проста звар'яцець. А так... Вось рушыў геній у адной артыстычнай асобе, а вось — буйны талент у другой. Ну няхай яны самі пра сябе так думаюць: мо ім так жыць лягчэй? А вунь шнырыць, няйначай, кардынал Рышэльe (яму так падабаецца пра сябе думаць), а вось — Напалеон, а там — Юда, а вунь пабегла кабеціна з вялізным языком праз плячук, а вось яе сяброўка з вырачаным агромністым вокам, а побач — яшчэ адна — з вухам на ўвесь тэатр. Усё як мае быць... У апраметнай.

Кожны чалавек з чаго-небудзь зроблены. Я не маю на ўвазе тую тканіну, пра якую ведаюць усе. Я — пра тую сутнасць, якая вызначае чалавечае аблічча. Або пысу. Я мяркую — для таго, каб не сканаць у роспачы, трэба прывучыць сябе разумець гэты свет. Не любіць або ненавідзець, а — разумець. Памятаеце карціну Далі «Метамарфоза Нарцыса»? Калі я наважваюся разумецца, я проста суадношу свет (які ёсць) і свае ўяўленні пра яго. І разумею, як усё звязана, злучана ды залежна, а мы падобныя, як двайняты. Проста рэальнасць час-почас надакучвае і хочацца зазірнуць глыбей...

**Андрэй ДУШАЧКІН**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

Музыка

# ЁСЦЬ І ПЛАНЫ...

***Аматары сімфанічнага жанру атрымалі сапраўдную асалоду ад праграмы з удзелам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра, які граў музыку Бетховена і Брамса. Сола на скрыпцы выконваў студэнт Маскоўскай кансерваторыі Драго Алехандро (Аргенціна), дырыжыраваў мінчанін, выпускнік Акадэміі музыкі з Санкт-Пецярбурга Міхаіл Сінькевіч. Гэтыя новыя імёны, магчыма, неўзабаве заззяюць на музычным небасхіле... З Міхаілам Сінькевічам нам давялося сустрэцца і пагутарыць.***

**— Міхаіл, гэта ваш першы канцэрт у сябе на радзіме...**

— Так, сапраўды. Яшчэ летась увосень у Міністэрстве культуры Беларусі было дамоўлена наконт супрацоўніцтва, і выпадак надарыўся: мне давялося замяніць захварэўшага іспанскага дырыжора. Я ўдзячны калектыву аркестра, у якім шмат таленавітых музыкантаў, за падтрымку і крэдыт даверу. Гэты ўдзел і ўзаемаразуменне дапамаглі мне, маладому дырыжору, дасягнуць пэўнага выніку, хоць, прызнаюся, не ўсё атрымалася, як было задумана. Не зусім задаволены выступленнем і Драго. Некаторыя, ды і ён сам, лічаць, што на рэпетыцыях гучанне чарадзейнай скрыпкі было больш тонкім. Аднак у цэлым Драго Алехандро зрабіў на слухачоў добрае ўражанне.

**— А з чаго пачынаўся ваш шлях у прафесію?**

— 70-я гады былі музычнымі: тады яшчэ не развучыліся спяваць, было шмат цікавых запісаў, пласцінак. У гэтым сэнсе наша сям'я — не выключэнне. Відаць, таму я спачатку палюбіў песню. І мама, заўважыўшы гэта, адвяла мяне, шасцігадовага, у Сярэднюю спецыяльную музычную школу пры кансерваторыі. Атрымаў сур'ёзную базавую падрыхтоўку, потым прадоўжыў навучанне ў Пецярбурзе. Карысныя былі і армейскія гады, праведзеныя ў ансамблі песні і танца: самадысцыпліна і адказнасць за кожны пражыты дзень.

**— Вы вучань вялікага маэстра, дырыжора з сусветнай вядомасцю Іллі Мусіна...**

— Вучоба ў класе Іллі Аляксандравіча сталася ў нейкім сэнсе шчасцем у маім жыцці. Нядаўна мы адзначалі яго 90-гадовы юбілей. У вялікім канцэрце ўдзельнічалі яго славутыя вучні Юры Цемірканаў, Васіль Сінайскі, Валеры Гергіеў, а ў заключэнне прадырыжыраваў сам Ілля Аляксандравіч ва ўласцівай яму асаблівай рамантычнай манеры. Як пра педагога магу сказаць, што ён жыве дзеля сваіх вучняў, аддае ўсяго сябе, любіць іх фанатычна і аддана. На ўласным прыкладзе вучыць страснаму служэнню Музе. Пры ўсім гэтым Ілля Аляксандравіч застаецца адным з нямногіх сапраўдных інтэлігентаў, надзеленых рэдкім дарам сціпласці, пачуцця ўласнай годнасці і павагі да людзей. Відаць, усё гэта ў спалучэнні з высокім прафесіяналізмам, незвычайнай працаздольнасцю Маэстра і прынесла яму сусветную вядомасць.



**— Цяпер складаць планы цяжка. Але і без іх заўтрашні дзень губляе сваю прывабнасць. Магчыма, вы атрымалі цікавыя прапановы?**

— Вельмі хацелася б прадоўжыць супрацоўніцтва з мінскім філарманічным аркестрам, сыграць з ім некалькі розных па змесце праграм. Паступілі і іншыя прапановы, у якіх я зацікаўлены. Хочацца спадзявацца, што гэты сезон падорыць мне сустрэчу з творчым калектывам тэатра оперы і балета. У Санкт-Пецярбурзе, як, прынамсі, і тут, катастрафічна бракуе вольнага часу. Працую ў музычным тэатры пры кансерваторыі, выкладаю. Месца маёй асноўнай працы — дзіцячы музычны тэатр «Зазеркалье». Заканчваю сёлета 5-ы курс оперна-сімфанічнага аддзялення...

**Р. КУЗНЯЦОВА**

*На здымку: М. Сінькевіч з маэстра І. Мусіным.*

Тэлебачанне

# «...ГОДНАСЦЬ У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАШТАБЕ»

***Цыкл «Край» рэдакцыі грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных праграм Беларускага тэлебачання не адзін раз рабіўся аб'ектам увагі «ЛіМа». С просьбаю акрэсліць задачы і бліжэйшую будучыню перадачы наш карэспандэнт звярнуўся да мастацкага кіраўніка «Краю» Ігара АЛЕКСАНДРОВІЧА.***

**— Ігар Аляксандравіч, як бы вы самі сябе вызначылі на тэлебачанні, сыходзячы з таго, што «Край» — гэта тое, да чаго вы прыйшлі праз шэраг іншых перадач?.. Якою дарогаю вы ішлі да яго?**

— Надта доўгаю. Пачатак яе — у Варонежы, дзе напрыканцы пяцідзесятых я вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце і спецыялізаваўся на славістыцы (паўднёвыя славяне). Я ўсур'ёз займаўся навукаю. А тэлебачанне ўзнікла ў маім жыцці як з'ява тагачаснага прагрэсу і, адначасова, феномен сацыяльны, бо менавіта на тэлебачанні робіцца відавочным адразу, здатны ці няздатны ты да хаўрусавання вакол сябе аднадумцаў. Без хаўрусу й свядомага падпарадкавання не здымеш нават замалёўкі. У нашай рэдакцыі сацыяльна-палітычных праграм я не так даўно назіраў станаўленне Юрыя Хашчавацкага (працавалі разам), — для мяне гэта ў нейкім сэнсе паказальна па мэтанакіраванасці ды засяроджанасці на справе. А што да «Краю», дык гэтая перадача не тая навука, якую я абагаўляў. Не толькі розумам, але і сэрцам трэба было папрацаваць, каб агораць задуманае (дазволю сабе такое параўнанне, каб было зразумела, якіх высілкаў каштуе нам кожны сюжэт!). Я зусім не прэтэндую і нават супраць таго, каб паўтараць сваёю перадачаю, мовім так, урокі гісторыі Беларусі. Я стаўлю хітрэйшую задачу: уразіць гледача гістарычнымі постацямі, «краёвых» персанажаў, — любымі сродкамі. Уразіць — значыць, зацікавіць!.. У дваццаць з невялічкім гадкоў Сапега ехаў паслом да Івана Жахлівага. Іосіф Гашкевіч вынікова разумеўся з японцамі, — так, што праз стагоддзе гэтае паразуменне тлумачыць цэлую эпоху ў дачыненнях-паразуменнях між народамі. Саламея Пільштынова ў самым, здаецца, непадыходзячым — барочным стагоддзі адстойвае незалежнасць кабеты на самым шляхетным узроўні. Наша задача — падаць гэтыя факты так, каб яны надоўга засталіся ў свядомасці гледача...

**— Мяне вы «зачапілі» тым, што намагаецеся не проста прачытаць каментар за кадрам, даючы па-свойму адметны відэашэраг, але спрабуеце вышарыць прагматычна-выхавацельскія задачы праз мастацтва, ладзячы свайго роду тэлетэатр, дзе акцёры ўвасабляюць гістарычных асоб. Часам работы акцёраў выдаюць на заяўкі вялікіх, буйных роляў. Вы абжываеце гісторыю, як уласны новазбудаваны дом...**

— Дзесяткі пытанняў узнікаюць у людзей, калі яны спазнаюць сваё мінулае: чаму мы? Хто мы? Адкуль мы? Колькі важым мы для сусветнай супольнасці? Ці ёсць у нас асобы планетарнага маштабу? Што сталася з моваю? І да таго падобнае... Кожнае пытанне вымагае адказу яркага, запамінальнага, пераканаўчага. Кожнае пытанне вымагае абавязковага вяртання да сябе, да каранёў, да вытокаў, да тлумачэнняў і да т.п., магчыма, не адзін раз, не ў адной перадачы. Ёсць магчымасць ад перадачы да перадачы паглыбляцца ў адказы. Праз тэатралізаванне, праз гульню, праз асобу акцёра, папулярнага на сцэне, — каб зрабіць нашы адказы агульназразумелымі, так бы мовіць, агульнадаступнымі. Нядаўна з'явілася магчымасць звяртацца да высокакваліфікаваных гісторыкаў, журналістаў, даследчыкаў. Па форме мы дамагаемся відэафільма, — робячы яго так, каб у далёкім мінулым глядач пазнаваў сучаснасць. І — папулярызаваць гэтае мінулае як мага. Зліквідоўваць, перапрашаю, гістарычную непісьменнасць, — апошні выпадак з пошукамі відэашэрагу для перадачы пра Ігната Дамейку зрабіўся красамоўным пацвярджэннем гэтай агульнанароднай гістарычнай непісьменнасці... А тэм у перадачы багата. Ёсць ідэя прайсціся па таямніцах беларускіх замкаў. Праехацца дарогамі Купрына, завітаўшы ў Столінскі раён, дзе, паводле старажылаў, памятаюць кабету, чыя прабабка наштурхнула пісьменніка на задуму «Алесі». Ёсць, ёсць ідэі...

**— Ігар Аляксандравіч, мы пачалі з размовы пра тое, што перадачу вы робіце, так бы мовіць, сэрцам. Гісторыя Беларусі — гэта ваша крэўная зацікаўленасць?**

— Ведаеце, гэта сталася ўжо крэўнаю зацікаўленасцю, — абудзіць пачуццё годнасці ў нацыянальным маштабе. Праўда, мы адна з нешматлікіх праграм на БТ, якая яшчэ не мае ніякіх дапаможных сродкаў для існавання (і спонсараў). Але скардзіцца на гэта праз газету неяк несур'ёзна. Мне б хацелася толькі зважыць на тое, што наша праграма — адзіная ў сваім родзе на тэлебачанні, і яна вартая падтрымкі.

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

Спадчына

# З ПІЦЕРСКАЙ СКАРБОНКІ — У «БЕЛАРУСКУЮ КАПЭЛУ»

Тыдзень папрацаваўшы ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, што ў Пецярбурзе, дырэктар аб'яднання «Беларуская Капэла» Яўген Паплаўскі вярнуўся на радзіму з не абы-якім набыткам. Прывезеныя ім нотныя копіі — проста скарб! Цяпер у архіве «Беларускай Капэлы» ёсць сімфанічна-харавое палатно Восіпа Казлоўскага на кананічныя лацінскія тэксты «Te Deum laudamus». Цікава, што твор існуе ў так званым падносным асобніку, прысвечаным імператару Аляксандру І (каталіцкі твор — у дарунак праваслаўнаму цару!). Знойдзены і марш Кастуся Галкоўскага для духавога аркестра «Наш полк». З Давыдкаўскага ірмалою скапіраваныя песняспевы пачатку 18 ст., у якіх старажытнаславянская мова спалучана з лацінскімі тэкстамі, што сведчыць пра уніяцкае паходжанне гэтай музыкі.

Сапраўдным набыткам нашай музычнай культуры робіцца творчасць Напалеона Орды — бліскучага графіка, пра чыю кампазітарскую творчасць да нядаўняга часу мы зусім нічога не ведалі. Шляхціц з Піншчыны, удзельнік паўстання 1831 г., ён з'ехаў у Францыю. Сябраваў з Шапэнам, Лістам. Быў дырэктарам італьянскай оперы ў Парыжы. На радзіму вярнуўся пасля амністыі... У піцерскай бібліятэцы Я. Паплаўскім ужо знойдзена каля 30 фартэпіянных твораў Н. Орды, прычым гэта не плод аматарскіх вопытаў, а канцэртная музыка, напісаная на добрым прафесійным узроўні. Тут і «Паланез», выдадзены ў Гродне Езафам Загаеўскім; тут і «Серэнада», і «Полька», і яшчэ 14 паланезаў, кожны з якіх мае прысвячэнне: Казіміру Скірмунту, Адаму Плугу, Шапэну, Юзафу Крашэўскаму ды інш. Дарэчы, Крашэўскі таксама пісаў музыку: знойдзены выданні яго фартэпіянных твораў («Фантазія», «Песні пастухоў»). Ёсць у Н. Орды фартэпіянная мазурка, прысвечаная Ганне Патоцкай ды «Паланез з прыстукам», прысвечаны Марыі Браніцкай з Сапегаў.

Пашанцавала Я. Паплаўскаму і ў пошуках нотаў Антона Абрамовіча: у невялікі й нескладаны цыкл, хутчэй за ўсё разлічаны на дзяцей, уваходзяць п'есы, прысвечаныя... шасці порам года: «Вясна», «Дзявочае лета», «Лета», «Бабіна лета», «Восень», «Зіма». І ўсё гэта завецца «Кадрыля для фартэпіяна». Яшчэ 6 твораў А. Абрамовіча аб'яднаны пад назваю «Падзенне Карса» і выдадзены на карысць параненых пры абароне Севастопаля. Знойдзены таксама «Фантазія для фартэпіяна», «Сігнальная кадрыля», «Канцэртны вальс».

А вось твораў Фларыяна Міладоўскага, аказваецца, нямала выдавалася ў Мінску, у выдавецтве Аляксандра Валіцкага, а таксама ў Вільні: вакальны цыкл на вершы Я. Прусіноўскага ды У. Вольскага, «Кантрадансы для фартэпіяна», «Нотка» для голасу і фартэпіяна, «Паланез» для фартэпіяна ў чатыры рукі...

У гісторыі нашай культуры вядомыя імёны братоў Ельскіх. Міхал Ельскі — кампазітар ды скрыпач, чыя скрыпічная музыка ўжо вяртаецца ў рэпертуар беларускіх выканаўцаў. «Танец духаў», «Танец смерці», напрыклад, напісаныя для скрыпкі і фартэпіяна. Набыты і клавір Другога скрыпічнага канцэрта: так што цяпер праблема ў тым, каб знайсці кампазітара, які зрабіў бы годны аркестравы варыянт гэтага твора М. Ельскага.

Аляксандр Ельскі вядомы як літаратар. Але і ён, аказваецца, не цураўся кампазіцыі: знойдзены два фартэпіянныя творы для выканання ў чатыры рукі, «Мазурка» для такога ж дуэта. Давялося Я. Паплаўскаму знайсці яшчэ двух Ельскіх: Канстанціна ды некага «В. Ельскага». Магчыма, далейшыя пошукі ў кнігасховішчах прывядуць да нейкіх адкрыццяў у нашай музычнай гісторыі?

Ну, а пакуль кіраўніцтва «Беларускай Капэлы» заклапочана тым, каб паказаць хаця б частку сваіх нотных набыткаў на чарговым фестывалі «Адраджэнне беларускай капэлы». З 3 па 6 лістапада (вось гэта перспектыўнае планаванне!) мяркуецца правесці чатыры канцэрты. Тры з іх — камерныя: «Фартэпіянная музыка Н. Орды»; «Мінскае музычнае асяроддзе: Ф. Міладоўскі, А. Концкі, браты Ельскія» (праграму дапоўняць таксама вакальная музыка Н. Орды, С. Манюшкі ды фартэпіянныя п'есы для выканання ў чатыры рукі); і яшчэ адзін канцэрт прадставіць музычны Пецярбург сіламі, так бы мовіць, кампазітараў, звязаных з Беларуссю: А. Абрамовіча, С. Манюшкі, М. Шымапоўскай, вучня С. Манюшкі Ц. Кюі і інш. А на заключным фестывальным канцэрце яго арганізатары хацелі б паказаць балет: «Беларуская Капэла» мяркуе падрыхтаваць разам з Камерным аркестрам ліцэя пры Акадэміі музыкі ды Беларускім харэаграфічным вучылішчам «Паланез» на музыку М. К. Агінскага (1-я дзея). А ў 2-й дзеі ажыццявіць поўнае выкананне музыкі В. Казлоўскага да трагедыі Озерава «Фінгал» (а гэта 10 нумароў з удзелам хору, сімфанічнага аркестра, салістаў).

Тым часам у планах дырэктара «Беларускай Капэлы» — чарговая вандроўка ў Піцер, пошук і капіраванне нотных матэрыялаў, дзякуючы якім да нас «вяртаецца музычная памяць», вяртаецца ў канцэртны ўжытак цэлы пласт самабытнай, супярэчлівай і такой прывабнай культуры.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**









*На фотарэпрадукцыях В. СТРАЛКОЎСКАГА: вокладка «Паланеза» Ф. Міладоўскага, выдадзенага ў Мінску; партрэт Міхала Ельскага; вокладка «Паланеза» Н. Орды — гродзенскае выданне.*

## СНЫ І ЯВА БЫЦЦЯ



**Нярэдка сон аказваецца адзіным станам, у якім чалавеку не ўдаецца заглушыць сваё сумленне. Менавіта гэта і здарылася з героямі камедыі Славаміра Мрожака «Чароўная ноч», якую паставіў у Брэсцкім тэатры драмы студэнт-дыпломнік Беларускай акадэміі мастацтваў Мікола Ходзька.**

**Героі спектакля — Калега і Дарагі Калега, абжываюць сумесны гасцінічны пакой, імкнуцца выглядаць чулымі і выхаванымі, але ўсе іхнія ўчынкі супярэчаць словам. Відавочна й неабвержна пасля таго, як раптам у пакоі з'яўляецца Трэцяя Асоба — цудоўная жанчына...**

**У спектаклі заняты Кастусь Перапяліца, Яўген Макурын, Алена Дабышук, Людміла Рабая, Віктар Міхайлаў, Сямён Церайкоўскі.**

**З. Д.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Чароўная ноч». У ролях — Кастусь Перапяліца, Людміла Рабая, Яўген Макурын.*

*Фота Леаніда ВАЙТКОЎСКАГА*

## «ВАЙНА АДЛЮСТРАВАННЯЎ» НА СЦЭНЕ І...



**Спектакль з такой назваю па п'есе М. Арбатавай паставіў малады яшчэ рэжысёр Уладзімір Анікін на сцэне Брэсцкага тэатра драмы. А грамадскі прагляд адбыўся ў ... тэатры лялек. Бывае такое. Асабліва калі пачынаецца пошук агульнай мовы: адны яе так і не знаходзяць іншыя разумеюць з паўслова...**

**А жанр свайго «дзіцяці», ад якога практычна адмовіліся «бацькі», затое прытулілі «айчымы», ствральнікі вызначылі як пластычна-эксцэнтрычную дзею. Заняты ў ім сам рэжысёр-пастаноўшчык У. Анікін і актрыса Таццяна Куцэвіч. Пісаў музыку да спектакля і дапамагаў даводзіць яго да ладу Васіль Кандрасюк, тым часам як рэжысёр браў удзел у пісанні песень; шчыраваў над мастацкай аздобаю Мікола Паўтарака. Дарэчы, усе дэкарацыі ды аксесуары былі ашчадна сабраны або выраблены самімі стваральнікамі «Вайны адлюстраванняў». На сцэне тэатра лялек яна скончылася працяглымі воплескамі прыхільных ды ўдзячных гледачоў і морам мірных, жывых кветак.**

**І. Х.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Вайна адлюстраванняў»*

Віншуем!

# «НЕ ШКАДУЮ ДАБРЫНІ...»

## Пятру ГАРЭЦКАМУ — 75

**Уся яго творчасць прасякнута дабрынёй, чуласцю да чалавека працы і воіна. У пагранічных войсках ён з першых дзён Вялікай Айчыннай прайшоў як армейскі карэспандэнт ад Закаўказзя да Закарпацця. Невыпадкова ў яго паэтычных творах выразна гучыць тэма вайны, салдацкай долі, вернасці і адданасці сваёй радзіме.**

**На яго рахунку зборнікі вершаў, што выходзілі ў Кіеве, Маскве, Баку і Мінску: «Крыніца», «Мая любоў», «Вечнае цяпло», «З дарог жыцця», «Асеннія пракосы», «Зачараванасць», «З дняпроўскіх круч». Даўняя дружба звязвае паэта з нашай літаратурай. Беларусі ён прысвяціў нямала сваіх вершаў і плённа перакладаў на мову Кабзара творы Я. Купалы, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, А. Бялевіча, А. Астрэйкі, П. Прыходзькі і многіх іншых беларускіх аўтараў. Зараз Пятро Ігнатавіч пастаянна жыве ў Мінску. Віншуем яго з юбілеем, жадаем моцнага здароўя, здзяйсненняў на творчай ніве.**

**Змяшчаем некалькі яго твораў у перакладзе на беларускую мову.**

**Юрась СВІРКА**

Пятро ГАРЭЦКІ

### РОДНАЕ СЯЛО

**Спрадвек нідзе на мапах<br>
Украіны<br>
Маё не пазначалася сяло.<br>
Яно ляжыць на далані даліны,<br>
Яно і ў нашай даўнасці жыло.<br>
Яно арала,<br>
сеяла,<br>
спявала,<br>
А як ступала восень у двары,<br>
Пыхцелі ў хатах каганцы,<br>
бывала,<br>
Зшарэлыя, як нашы вечары.<br>
А ўчас, калі зіма нашле мяцеліц<br>
І замуруе вокны ўсе за ноч,<br>
Трапала лён, расчэсвала<br>
кудзелю,<br>
Круціла у сувоі палатно.<br>
...Хоць тупкай не была<br>
ў сяло дарога,<br>
Ды не міналі беды ўсе яго.<br>
Трывога выспявала<br>
за трывогай,<br>
Адна бяда масціла шлях<br>
другой.<br>
Таптаў Батый, таптаці<br>
янычары,<br>
Капыт напалеонаўскі малоў.<br>
І як не бушавалі ў ім пажары,<br>
Зноў да жыцця<br>
ўзвышалася сяло.<br>
Мы выжылі і ў той,<br>
другой Айчыннай.<br>
Сяло маё, шумяць сады твае.<br>
Ты зноў перад<br>
сыноўнімі вачыма<br>
У маладой раскошы паўстаеш.<br>
Твой цвет мне проста<br>
ў сэрца ападае<br>
І свет здаецца гожым,<br>
нібы сад.<br>
А за сялом пшаніца маладая<br>
Зялёнай хваляй цешыць<br>
далягляд.<br>
Вішнёвым цветам тут<br>
палаюць зоры...<br>
Пакінуў тут сваю я маладосць.<br>
Сяло маё,<br>
Баліць тваё мне гора,<br>
Але твая ратуе прыгажосць.**

Пераклаў Казімір КАМЕЙША

### ЖУРАЎЛІ

**Штоwith разу меней жураўлі,<br>
Ці восенню а ці вясною,<br>
Вітанні шлюць маёй зямлі,<br>
Дымамі укрытай і смугою.**

**Звяліся мокрыя лугі,<br>
Зацішкі пахкія азёраў.<br>
І не пазбавіцца тугі<br>
Па ўлонні, знішчаным учора.**

**Хоць раны страт не зажылі,<br>
Хай птаства хлыне<br>
ў свет вялікі.<br>
Баюся я, каб жураўлі<br>
Яшчэ пры мне зусім не зніклі.**

Пераклаў Уладзімір ПАЎЛАЎ

### ВЕРНАСЦЬ

*Жонцы*

**Нягод заўжды ў жыцці багата,<br>
Дыхне бядой, то цішынёй...<br>
А ў нас вось так:<br>
ты выйдзеш з хаты<br>
І ўжо здаецца — пуста ў ёй.**

**І повязь слоў, як нежывая,<br>
Натхнення верша не кране,<br>
І зноў тады я адчуваю,<br>
Што не стае чагосьці мне.**

**Пагляду, што ажно праймае,<br>
Ці цеплыні, ці гаркаты...<br>
Адчую ў час такі да краю,<br>
Якую ж сілу маеш ты.**

Пераклаў Юрась СВІРКА

# «ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНЫ — БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ...» —

*(Пачатак на стар. 5)*

дарэчы, усім прагрэсіўным светам, бо менавіта за стойкае партызанскае супраціўленне фашысцкім акупантам і была Беларусь, не будучы нават суверэннай дзяржавай, прынята ў якасці правадзейнага сябра ў склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Так ці інакш садзейнічае азначанай блытаніне вакол праблемы партызанскай вайны на Беларусі адсутнасць пэўнага погляду на мінулую вайну ўвогуле. Ужо ў агульнапрынятай яе назве — «Вялікая Айчынная вайна» — выразна адчуваецца дух партыйнай прапаганды, якая хацела трактаваць яе як вайну за «социалистическое отечество», г. зн. за СССР, хоць фактычна яна і для Расіі была вайной нацыянальнай, чаму адразу і ўзнікла падабенства з антынапалеонаўскай вайной 1812 года. Але ў тую далёкую вайну сімпатыі беларусаў, толькі што гвалтоўна захопленых Расійскай імперыяй, былі на баку Напалеона. Напалеон быў зусім не тое, што Гітлер. Яго арміі неслі з сабою не толькі перамогі французскай зброі, але і славуты Кодэкс Напалеона, які дагэтуль ляжыць у падмурку многіх еўрапейскіх прававых дзяржаў і які ў многім садзейнічаў узнікненню і развіццю сучаснай еўрапейскай рыначнай эканомікі. Напалеон збіраўся адрадзіць Вялікае княства Літоўскае і нават, будучы ў Вільні, цікавіўся мовай, на якой гаварыла яго насельніцтва. Хто ведае, як бы пайшла тады гісторыя, але з імперска-феадальным дэспатызмам на гэтай тэрыторыі напэўна было б пакончана. Думаў ён, зрэшты, і пра Расію, але адмяняць там прыгоннае права не стаў, пазнаёміўшыся больш грунтоўна з гісторыяй Расіі й ментальнасцю яе народа (вядома, напрыклад, што, знаходзячыся ў Маскоўскім Крамлі, ён загадаў даставіць усе кнігі па гісторыі паўстанняў Разіна і Пугачова). Напалеон пагэтаму ўспрымаўся на Беларусі хутчэй як вызваліцель, як змагар супраць расійскай акупацыі, і таму яго падтрымлівалі вярхі тагачаснага літоўска-беларускага грамадства, хоць сялянства, напрыклад, адносілася да французаў, як да чужынцаў, стрымана: выявіўся ўсё ж такі нацыянальны фактар. Гэтага, зрэшты, нягледзячы на сваю выключную таленавітасць палітыка і палкаводца, і не ўлічваў Напалеон, як не ўлічыў і атрыманы ім у свой час у Іспаніі ўрок, калі натыкнуўся на шалёнае супраціўленне іспанскіх сялян-герыльерас. Гэты ж самы нацыянальны фактар загубіў канчаткова яго армію на бясконцых заснежаных прасторах Расіі...

Зусім іншаю з'яваю быў Гітлер. Хоць і ён спрабаваў прыдаць сабе імідж «вызваліцеля» (на акупаваных тэрыторыях быў распаўсюджаны нават партрэт яго з надпісам «Гитлер-освободитель»), людзі, аднак, хутка разабраліся, што гэта быў за «освободитель». Ніякага параўнання яго з Напалеонам не магло быць у прынцыпе, бо ён з самага пачатку адкрыта выступіў як вораг свабоды і незалежнасці іншых народаў і нацый, абапіраючыся на філасофію расізму і крайняга нацыяналізму, г. зн. фашызму. Гэта раней за беларусаў зразумелі нашы суседзі з Захаду — палякі, уступіўшыя з гітлерызмам у зацятую, гераічную партызанскую барацьбу (хоць да савецкай Расіі яны таксама адносіліся з вялікай і, скажам прама, законнай нелюбоўю). Разумелі тое многія немцы, у тым ліку, магчыма, і сам Кубэ, калі прапаноўваў Гітлеру больш талерантную палітыку ў адносінах да беларусаў, пра што піша Е. Туронак. Нешта падобнае можна было назіраць у акупаванай Оршы ў 42-м годзе. Нямецкія ўлады спрабавалі арганізаваць там штосьці накшталт Беларускага народнага дому, дзе быў створаны драматычны калектыў, які рэпеціраваў купалаўскіх «Прымакоў», хор з рэпертуарам беларускіх народных песень і аркестр народных інструментаў (падобнае апісвае і А. Фадзееў у «Маладой гвардыі»). Усё гэта ўспрымалася тады як палітыка перніка і бізуна, звычайная для акупантаў-захопнікаў, бо па-за сценамі гэтага «дому» па-ранейшаму панаваў страшэнны эсэсаўскі тэрор і амаль штодзённа на яўрэйскіх могілках, недалёка ад хаты, дзе я жыў, у ранішнім прыцемку гучалі кароткія чэргі расстрэлаў. Партрэт з подпісам «Гитлер-освободитель» успрымаўся пагэтаму як нядобрая, страшная іронія.

Гэтак жа ацэньваў Гітлера і гітлерызм увесь прагрэсіўны тадышні свет. 22 чэрвеня 41 года, помніцца, усе мы напружана чакалі, што скажа радыё пра рэакцыю другіх краін на распачатую супраць СССР вайну. І ўздыхнулі з вялікай палёгкай, калі ўвечары пачулі па радыё пра выступленне ў англійскім парламенце прэм'ера У. Чэрчыля, які катэгарычна заявіў аб падтрымцы Расіі, назваўшы пры гэтым Гітлера абсалютна амаральнай істотай. Чэрчыля ніяк нельга было западозрыць у якіх там ні было сімпатыях да Савецкай Расіі і Сталіна. Пасля вайны ён і сам пра тое скажа ў славутай прамове ў Фултане.

Рэзка адмоўная ацэнка гітлерызму захоўваецца ў дэмакратычным заходнім свеце і ў нашы дні. Нездарма краіны, удзельніцы антыгітлераўскай кааліцыі, нядаўна шырока адзначылі пяцідзесяцігоддзе высадкі саюзнікаў у Нармандыі як дату агромністай гістарычнай значнасці. Было б, улічваючы сказанае, недаравальным грэхам кідаць найменшы цень на Беларускае антыгітлераўскае Супраціўленне. Брыдкія ж інцыдэнты з забойствамі і рабаўніцтвам, на якія часам спасылаюцца тыя, хто сумняваецца ў правамернасці беларускага партызанскага руху, у сваёй пераважнай большасці інспіраваліся і выконваліся менавіта НКУСаўскай агентурай, што актыўна ўкараняліся ў партызанскія шэрагі. А то і звычайнымі рабаўнікамі: не забудзем, што ў часе панічных уцёкаў сорак першага года савецкія ўлады расстрэльвалі палітычных вязняў і выпускалі на волю крымінальнікаў...

Партызанскі рух 1941—1944 гадоў быў самым яскравым сведчаннем на карысць таго, што беларусы не згубілі сваёй нацыянальнай самасвядомасці і пачуцця чалавечай годнасці. Пачуцці тыя былі толькі прыглушаны і не заўсёды выразна ўсведамляліся. Але калі трэба было, яны, гэтыя пачуцці, праяўляліся моцна і ў належнай меры. Нездарма ж некалі Колас напісаў пра беларуса вядомыя радкі: «я маўчу, маўчу, трываю...». А другі вялікі паэт Купала свой славуты верш распачаў гарачым і страсным поклічам: «Партызаны, партызаны — беларускія сыны!». Хочацца верыць, што гісторыкі нашы разбяруцца, нарэшце, з праблемай беларускага партызанскага руху, ён заслугоўвае таго. Гэта быў сапраўды ўсенародны, дарэчы, пераважна маладзёжны рух, і ён мог бы служыць выдатным узорам для сапраўды патрыятычнага выхавання нашай моладзі, а яго ваенны вопыт — для належнай падрыхтоўкі беларускага войска. Гэты вопыт, як і вопыт Грунвальда і Оршы, Касцюшкі і Каліноўскага, пераканаўча паказвае, што беларускі народ, калі спатрэбіцца, можа бараніць сваю незалежнасць. Як бы імкліва ні імчаўся цягнік гісторыі, суверэнная Рэспубліка Беларусь ужо ніколі, будзем спадзявацца, не страціць у ім законнага, заслужанага пакутамі і крывёй народа ганаровага месца.

**Мікалай КРУКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар, былы начальнік штаба атрада 2-й Заслонаўскай брыгады**

Гімн

# У СПРЭЧКАХ НАРОДЗІЦЦА МУЗЫКА?

***Якім будзе Дзяржаўны гімн Беларусі? Пытанне застаецца адкрытым. Кампетэнтнае журы праслухала конкурсныя варыянты мелодый, створаных сучаснымі кампазітарамі на рэкамендаваны ў якасці тэксту гімна верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь». Адабраны тры творы А. Багатырова, В. Войціка, У. Дарохіна, якія будуць запісаныя ў выкананні прафесійных артыстаў і прапанаваны на суд шматтысячнай аўдыторыі беларускіх радыёслухачоў. (Да ведама: ёсць і ўзнёслая рамантычная песня на гэты верш, напісаная К. Галкоўскім, яе запіс у выкананні М. Забэйды-Суміцкага гучаў па радыё). Тым часам рэдакцыйная пошта прыносіць нам усё новыя лісты, якія так ці інакш закранаюць праблему першай песні краіны...***

## «НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЗДЗЕК...»

Хоць да мяне даходзяць толькі асобныя звесткі аб жыцці Беларусі, але і з іх вельмі добра відаць, што «вожди» беларускага народа душаць усё, што хоць трошку пахне беларускім, асабліва тое, чым і адрозніваецца беларус ад іншых еўрапейскіх народаў, — мову. Летась я быў удзельнікам І з'езда беларусаў свету. Цудоўная казка: там панавала мова, якую рэдка пачуеш на вуліцах Менска. Пад уплывам гэтай казкі я напісаў верш пра родную мову. Напісаў і музыку. А вось даслаць гэты верш-песню ў «ЛіМ» ніяк не мог сабрацца, бо страціў ужо ўсялякую веру, што рабы змогуць «людзьмі звацца». А гэта ж наш апошні шанц стаць народам.

Я пачынаю ўжо шкадаваць, што разбурыўся Савецкі Саюз, бо ў ім Беларусь была сапраўды раўнапраўнай з Расіяй у камуністычным рабстве, бо метраполіяй у той імперыі быў камуністычны рэжым. У новай жа, Расійскай, імперыі метраполіяй будзе ўжо краіна, а беларускія кіраўнікі-здраднікі вельмі стараюцца ператварыць Беларусь у калонію Расіі, небаракі — аж са скуры вылузваюцца, каб хутчэй аб'яднаць і грашовыя сістэмы, і гаспадарчыя, і палітычныя, і ваенныя, і асабліва — мову рускую зрабіць дзяржаўнай для беларусаў. Пра адзіную рулёвую зону мой рускі сябра сказаў: «Белорусы думают, что Россия будет их кормить. Нет, она, конечно, даст, чтоб не сдохли с голоду, а может даже и больше — чтоб хватило сил плясать под российскую дудку».

### А МОВА ЎСЁ Ж ЖЫВЕ

**О, родная зямля!**
**Даўно ў чужых краях**
**Не чуў, не ведаў я**
**Пра твой гаротны шлях.**
**Схіляюся ў журбе**
**І не хаваю слёз**
**Ад болю за цябе,**
**За роднай мовы лёс.**

**Свісталі бізуны**
**Над ёй стагоддзяў шмат —**
**То польскія паны,**
**То «старший русский брат»,**
**А мова ўсё ж жыве**
**Сярод тваіх дуброў,**
**Надзею падае**
**Стаць роўнай паміж моў.**

**Нягледзячы на здзек,**
**На крыўду і на кпін,**
**Надыдзе яе век,**
**Вярнуся я, твой сын!**
**Не краем нематы**
**І безлічы пакут**
**Мяне сустрэнеш ты,**
**Мой мілы, родны кут.**

**Антось САДЛУЦКІ,**
**беларус з Расіі, дзе жыву 40 гадоў, інжынер-канструктар**
*г. Сергіеў Пасад*

## ЁСЦЬ АЎТАР НОВАГА ГІМНА!

Другі год «ЛіМ» (NN 45, 46, 48 1993 г., NN 5, 10, 1994 г.) тарпедуе (? — **Рэд.**) новы варыянт Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, тэкст якога — «Маладая Беларусь» Янкі Купалы — быў прапанаваны журы конкурсу пад старшынствам Ніла Гілевіча. Газета творчай інтэлігенцыі ў сваіх публікацыях ставіць пад сумненне (хоча яна таго ці не) інтэлігентнасць бессмяротнага паэта і кампетэнтнасць членаў журы. Маўляў, эталонам з'яўляюцца М. К. Агінскі, Наталля Арсеннева, Пранчак—Раінчык, дасюль невядомы беларусам загадкавы Даніла Оўнуч ці хто іншы, толькі не Купала. Безапеляцыйна сцвярджаецца, што новы варыянт гімна «... няўдалы, добрага тут не атрымаецца і не стане сённяшні беларус-ліцвін укладаць у прапанаваны «апошні варыянт» гімна свой уздым душы і палёт пачуццяў»...

Смакуецца думка наконт абвяшчэння новым гімнам рэспублікі верша Наталлі Арсеннеевай «Магутны Божа». Толькі як тут ушчаміць у пракрустава ложа інтэлігентнасці і прыстойнасці паведамленне біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (Мінск, 1992 г., т. І, стар. 103) пра тое, што паэтка ў свой час «была ўзнагароджана **гітлераўскім** медалём (?!)» Няўжо паверылі б у шчырасць **такога** гімна 2 мільёны 200 тысяч забітых і закатаваных тымі ж гітлераўцамі беларусаў, няўжо яшчэ жывыя ветэраны вайны пры яго выкананні стануць «во фрунт» ды ўкладуць у яго «ўздым душы і палёт пачуццяў»? А «... Зямлі яшчэ баліць. І мне баліць», — як піша ў «Святочных салютах» выдатны паэт і смелы салдат той вайны Пімен Панчанка. Можа, для рэлігійных канфесій (там адмысловая мараль) верш «Магутны Божа» і прыдатны ў якасці гімна, але на першую ўсенародную беларускую Песню, лічу, ён непрымальны.

Прапанаваны верш Данілы Оўнуча па мастацкіх вартасцях далёка ўступае купалаўскаму. А славуты і любімы намі паланез Агінскага хай назаўсёды застаецца «Развітаннем з радзімай». Для гімна ж лепш прыдатная купалаўская сустрэча з вечна маладой Беларуссю. Цалкам згодны з выкладкамі журы, што верш Янкі Купалы — гэта «... незвычайна ёмісты згустак вобразаў, у якіх увасоблена ідэя Адраджэння і дзяржаўнага станаўлення Беларусі... Тут і сэнсоўна значныя заклікі, і любасна-пяшчотныя, прыгожыя вобразы народа і яго зямлі, і скандэнсаваная ў скупых радках сурова-драматычная гісторыя Беларусі, і высокі голас права на «пачэсны пасад між народамі»...

Не хочацца верыць, што аўтары допісаў не адчулі **такой прыгажосці і аптымізму** ў купалаўскім вершы. Ды і точыць чарвяк сумнення, што ў «ЛіМ» дасылаюцца допісы **толькі** антыкупалаўскага варыянта гімна.

Мяркую, размову пра беларускі гімн па-інтэлігенцку час канчаць. Дык супакойся, шаноўнае лімаўскае спадарства, бо час абмеркавання варыянтаў гімна даўно мінуў. У беларусаў ёсць аўтар новага Дзяржаўнага гімна, імя яго — бессмяротны сын Беларусі ЯНКА КУПАЛА. Памажы толькі, Божа, кампазітарам стварыць цудоўную ўрачыста-ўзнёслую і мілагучную музыку на цудоўныя ж словы галоўнай ПЕСНІ КРАІНЫ!

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Рамельскай СШ**
**Столінскага раёна**

## НАМ БРАКУЕ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ ПЕСЕНЬ

На працягу свайго жыцця я чуў па радыё і ў канцэртах усё новыя і новыя песні пра нашу слаўную Беларусь. Час ідзе, адбываюцца змены, і большасць песень на грамадскую тэму забыта, іншыя спяваюцца зрэдку. Але іх так мала, што можна пералічыць. А новыя не з'яўляюцца. Паэты і кампазітары захапіліся эстрадай, бытавой і любоўнай лірыкай і патрыятычную тэматыку чамусьці амаль забылі. З новых патрыятычных песень за апошнія чатыры-пяць гадоў мне запомнілася толькі адна — «Шлях да Беларусі» (словы Н. Гілевіча) у выкананні А. Ярмоленкі.

Рэспубліка Беларусь знаходзіцца на пераломным этапе свайго развіцця. Зараз вельмі неабходныя песні пра векапомныя моманты ў нашай гісторыі, пра нацыянальную годнасць беларусаў, пераўтварэнні ў грамадстве. І адной з крыніц з'яўлення новых патрыятычных песень стаўся конкурс на стварэнне гімна Рэспублікі Беларусь. Справа складаная, і ёсць адлаведная камісія. Але, як мне вядома, у Міністэрстве культуры сабраліся дзесяткі, можа, ужо сотні новых патрыятычных твораў. Па конкурсе яны не прайшлі на гімн, хаця многія з іх маюць актуальнае гучанне. Ім трэба даць ход. Я чуў, што лепшыя песні будуць выдадзены. Але калі? Ужо цяпер, я ведаю, прафесійныя і самадзейныя калектывы і спевакі прагнуць новых патрыятычных песень. На маю думку, конкурсныя творы трэба друкаваць у перыядычных выданнях. Для выканаўцаў будзе неацэнная паслуга ў папаўненні рэпертуару песнямі на патрыятычную тэму. У звязку з вышэйсказаным я прапаную сваю новую песню.

### ДРУЖНЕЙ, БЕЛАРУСЫ!

**Вякамі ствралася наша дзяржава,**
**Пакуль прычакала світання зару.**
**І геній Скарыны, і Грунвальда слава**
**Нам шлях вызначалі: жыві Беларусь!**

**Дружней, беларусы! Гучней, беларусы!**
**Гукайма: Жыве Беларусь!**

**У дружбе з усімі жыць будзем заўсёды,**
**Працоўную славу узвысім да зор.**
**У муках здабытае сонца свабоды**
**Для нас азарае Радзімы прастор.**

**Дружней, беларусы! Смялей, беларусы!**
**Шырокі прад намі прастор!**

**Пад сцягам Радзімы, пад гербам Пагоні**
**Мы выйшлі ў вялікі, славуты паход.**
**Каб гора не знялі бацькоўскія гоні,**
**Гуртуйся мацней, беларускі народ!**

**Дружней, беларусы! Мужней, беларусы!**
**Жыве беларуская мова!**
**Жыве беларускі народ!**

**Алесь СТАВЕР**

## «ПОШУКІ ШЧАСЦЯ» ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Ад самага пачатку абвяшчэння конкурсу на новы гімн Беларусі многія, у тым ліку й я, адчувалі, што нічога з гэтага не атрымаецца. Прапаноўваліся розныя варыянты як вядомых даўнейшых твораў, так і новыя, напісаныя адмыслова для конкурсу. Але журы ўсё адмятала і слушна рабіла. Бо сапраўды, ці можа народ спяваць найвыдатнейшы гімн М. Равенскага «Магутны Божа», звяртацца да Бога, калі ён атэіст? Або гімн часоў БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»? Не і не. Гэта было б хлуснёй. Не выйдуць «шчыльнымі радамі» беларусы. Гэта ўжо не тыя беларусы, што былі раней. Усё цячэ, усё змяняецца. Так і народ. Хіба што выйдуць «шчыльнымі радамі» па каўбасу, як гэта было ў 91-м, або неўзабаве да ашчадных касаў у чэргі, каб памяняць беларускіх «зайцоў» на расейскія рублі 1:1.

Прапаноўваўся таксама верш Я. Купалы «Маладая Беларусь», дзе заклікаецца «заняць пачэсны пасад між народамі». Але гэта ўжо было, БССР займала пачэсны пасад між народаў СССР.

Нехта прапаноўваў паланез Агінскага «Развітанне з радзімай». Добры быў бы гімн, ён сапраўды адлавядаў бы цяперашняму перыяду гісторыі Беларусі, асабліва для тых людзей, якія лічаць сваёй Радзімай Беларусь, а не СССР...

А як на маю думку, дык мы маем цудоўны гімн, лепшага й не прыдумаеш. Гэта Дзяржаўны гімн БССР. А якія ў ім праўдзівыя, актуальныя словы!

**«Мы — беларусы з братняю Руссю**
**Разам шукалі к шчасцю дарог...»**

Хіба ж не так? На жаль, не знайшлі... Гісторыя дала нам шанц самім пашукаць шчасця, але дзе там! Будзем шукаць зноў разам. Можа, цяпер і знойдзем. Вось ужо і «единая рублевая зона» чакае. Трэба толькі ў гімне замяніць слова «шукалі» (мінулага часу) на «шукаем» (цяперашняга часу). А калі «шчасце» знойдзем, дык можна будзе зноў вярнуцца да «шукалі», бо шукаць ужо не будзе чаго.

Ёсць там і словы «Нас аб'яднала Леніна імя». Тут не трэба нічога мяняць, бо гэтак жа і было, а гісторыю не перапішаш.

Далей трэба спяваць: «Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход». У БССР-скім гімне не гаворыцца, якая партыя. Гэта таксама не трэба мяняць, бо хто ведае, як будзе называцца тая партыя, што павядзе нас да шчасця...

А вось апошні радок гімна: «Слава табе, наш савецкі народ!» добра было б замяніць на больш адпаведнае рэальнасці «Слава табе, наш рускамоўны народ!»

Атрымоўваецца цудоўны гімн! Дык ці не настаў час, як казалі некалі таварышы, «подвести черту» пад конкурсам на новы гімн Рэспублікі Беларусь? Упэўнены, што тая фраза, якую пакуль што ніхто не расшыфроўвае, — «политическое волеизлияние белорусского народа», — цалкам будзе адлавядаць новаму старому гімну:

**«Мы — беларусы з братняю Руссю**
**Разам шукаем к шчасцю дарог...»**

**Пятро ЛУБОЎСКІ**

Рукапісы не гараць

# ШТО СПЯВАЛІ Ў БЯРЭСЦІ?..

Сярод шматлікіх «белых плям», якімі літаральна стракаціць карта гісторыі музычнага мастацтва Беларусі, ёсць фрагмент, асабліва прыцягальны для даследчыкаў. Гэта славуты канцыянал (песеннік) Яна Зарэмбы, што быў выдадзены ў Бярэсці ў 1558 г. у кальвініскай друкарні Мікалая Радзівіла Чорнага і з'яўляецца першым нотным друкам на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

На вялікі жаль, да нашых часоў не дайшоў ніводны асобнік гэтага старадруку (хутчэй за ўсё, ён быў страчаны падчас апошняй вайны), і меркаваць пра яго можна толькі паводле досыць падрабязных апісанняў, якія захаваліся ў замежных бібліяграфічных крыніцах. Паводле іх берасцейскі канцыянал (а ён называўся «Piesni Chwal Boskich») складаўся з 2-х частак, у першай з якіх было прадстаўлена 100—140 песень рэлігійнага і свецкага зместу на лацінскія ды польскія тэксты. Аўтарамі музыкі, мяркуюць даследчыкі, былі вядомыя кампазітары, якія працавалі ў тыя часы пры двары Чорнага: Вацлаў з Шаматул і Цыпрыян Базылік, тэксты ж стварылі А. Тшыцэскі, С. Зацыус, С. Семідаліус і інш. Якасць выдання была надзвычай высокай. На карысць гэтага меркавання сведчаць не толькі звесткі, прыведзеныя даследчыкамі, якім удалося азнаёміцца з канцыяналам перад вайной, але і некаторыя іншыя нотныя друкі, зробленыя ў Бярэсці прыкладна ў тыя ж часы, што і канцыянал. Да іх можна аднесці чатырохгалосыя песні Марцыяна Хелмскага, якія захоўваюцца ў Оксфардскай бібліятэцы і ўражваюць нашых замежных калег сваёй прыгажосцю.

Вопыт выдання берасцейскага канцыянала адразу ж быў выкарыстаны ў іншых нотадруках. Так, у 1559 г. выйшаў крулявецкі песеннік Яна Секлюцыяна «Pieśni Chrześciańskie, dawniejsze i nowe, których chrzesciani (tak w kosciele iako i doma) używać maja...», які ўтрымліваў шмат узятых з берасцейскага нотных і паэтычных тэкстаў. Секлюцыянаў канцыянал быў зроблены ў друкарні Яна Даўбмана — вядомага майстра, які прыехаў у Крулявец з Нюрнберга. Крулявецкі канцыянал захаваўся да нашых дзён у Бібліятэцы Чартарыскіх у Кракаве. Фактычна ён з'яўляецца адзіным помнікам, які дае ўяўленне пра музыку берасцейскага канцыянала і таму выклікае ў нас адмысловую навуковую цікавасць.

Нядаўна мне ўдалося дзякуючы дапамозе польскіх калег атрымаць ксеракопію гэтага друка, якую мяркую перадаць нашым даследчыкам музыкі XVI стагоддзя. Відавочна, грунтоўнае вывучэнне помніка і яго параўнанне з падобнымі выданнямі (скажам, з Кракаўскімі нотадрукамі 1505—1540-х гадоў ці славутым Нясвіжскім песеннікам 1563—1564 гг., ксеракопію якога ўдалося атрымаць з Швецыі, а таксама з раннім віленскім канцыяналам 1581 г., выдадзеным коштам лідскага старасты Яна Абрамовіча і нядаўна знойдзеным замежнымі вучонымі ў Швейцарыі) магло б прынесці цікавыя навуковыя вынікі. Але для таго, каб праца гэтая была плённай, а знаўцы і аматары айчыннага мастацтва маглі б атрымаць уяўленне пра новыя старонкі яго гісторыі, было б добра, каб нашы даследчыкі мелі магчымасць шукаць старажытныя нотныя крыніцы ва ўсіх бібліятэках і архівах, дзе яны яшчэ захаваліся. Пакуль жа будзем спадзявацца, што тыя рукапісы і друкі сапраўды «не гараць», а чакаюць лепшых часоў і нашых больш шчаслівых нашчадкаў.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

## МАНАЛОГ... УЧАТЫРОХ



«Вузкі шлях (вопыт музычна-пластычнага псіхааналізу)» — такую назву далі спектаклю, прэм'ера якога адбылася нядаўна ў старым будынку мінскага Палаца піянераў, яго аўтары — рэжысёр Лявон Андрэйчыкаў, кампазітар Алег Залётнеў, мастак Валеры Рачкоўскі ды акцёр Валеры Шушкевіч. «Вузкі шлях» — гэта спектакль-маналог, самасповедзь чалавека, які застаўся сам-насам з уласным болем ды адчаем і балансуе на мяжы розуму і вар'яцтва, жыцця і самагубства.

Марны занятак — пераказваць, што адбываецца на сцэне. Бо спектакль трэба ўбачыць і пачуць: у аздабленні лаканічных дэкарацый В. Рачкоўскага і асацыятыўнай музыкі А. Залётнева ігра В. Шушкевіча прымушае гледача суперажываць герою ўсутыч да фізічных адчуванняў. Пэўна ж, гэтага і дамагаўся рэжысёр Л. Андрэйчыкаў разам з усёй творчай групай.

Прэм'ера адбылася і дзякуючы прадпрымальніку Л. Лайкіну, які фінансаваў пастаноўку. А частка сродкаў ад паказу спектакля (дарэчы, фіксаванага кошту білета не было, гледачы давалі хто колькі можа) пайшла на дапамогу ахвярам Чарнобыля.

*На здымку: стваральнікі спектакля «Вузкі шлях».*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

## А ЯШЧЭ І ПРАЗАІК...

Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага філосафа Сямёна Вальфсона, які з 1931 года працаваў дырэктарам Інстытута філасофіі і права нашай Акадэміі навук. Безумоўна, падзеі, што адбываліся ў трыццатыя гады, не маглі не паўплываць на яго ацэнкі як грамадскага жыцця, творчых стасункаў, так і на самую філасофскую канцэпцыю. Разам з тым, многае з таго, у чым колісь папракалі Сямёна Якаўлевіча, сёння ўспрымаецца інакш. Вальфсон, прынамсі, недаацэньваў значэнне эстэтычнай спадчыны Маркса, Энгельса і Леніна, лічыў першым марксісцкім тэарэтыкам... Пляханава. А ў першым нумары часопіса «Полымя» за 1941 год ён змясціў артыкул «35-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы», у якім асмеліўся крытыкаваць вульгарна-сацыялагічныя ацэнкі творчасці народнага песняра.

Увогуле, спадчына С. Вальфсона багатая. І ў гэтым пераконваешся, калі знаёмішся з кніжнай выстаўкай, адкрытай у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Не грэшна прачытаць такія кнігі С. Вальфсона, як «Дыялектычны матэрыялізм», «Г. В. Пляханаў», «Пляханаў», «Сацыялогія шлюбу і сям'і», іншыя.

С. Вальфсон спрабаваў свае сілы і ў прозе. Яго пяру належыць аповесць «У матрацкай магіле», яна друкавалася ў часопісе «Полымя». На стэндзе выстаўлены 9-10 нумар за 1940 год, у якім змешчаны пачатак гэтага твора. А героем аповесці з'яўляецца Генрых Гейне.

## І ЗАПОЗНЕНАЯ КВЕТАЧКА — ЖАДАНАЯ...

Чацвёрты нумар часопіса «Пралеска» адкрываецца словам галоўнага рэдактара А. Сачанкі «Хлусня-манюка». А. Марціновіч («Ля берага вечнасці») прасочвае жыццёвы і творчы шлях М. Хведаровіча. Л. Саламаха («Зона суму») разважае над паслячарнобыльскімі праблемамі. А. Сачанка («Радыяцыя: псіхалагічны эфект») гутарыць з вядомым псіхолагам, старшынёй рэспубліканскага навукова-экспертнага савета «Дзеці Чарнобыля» Я. Каламінскім. В. Філіпчык («Каб не страціць святое...») узяў інтэрв'ю ў Р. Гарэцкага.

У «Бібліятэчцы «Пралескі» — чарговая кніжачка. Дастаткова выразаць укладку і атрымаецца зборнік В. Лукшы «Мядзведзь і камар». В. Скідан («Сватанне») вяртае да народных традыцый. З чарговай гутаркай выступае ў раздзеле «Маленькі чалавек у вялікім свеце» А. Бадак («На казачнай зямлі»).

Алесь МАХНАЧ

# РАССТРАЛЯНЫ «ДУМ ЗАКІЛЗАНЫЯ КОНІ»

## ПРА КРУГІ ПЕКЛА, ЯКІ ПРАЙШОЎ ПАЭТ ВІКТАР КАЗЛОЎСКІ

У першыя пасляваенныя гады я працаваў сельскім бібліятэкарам, спрабаваў пісаць сцэнкі для свайго драматычнага гуртка, вершы. Іх заўважыла камісія па рабоце з маладымі аўтарамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і прыслала мне пуцёўку ў дом творчасці «Каралішчавічы». Пуцёўка выпала на снежань 1949 года. У той час там былі Іван Шамякін, Аркадзь Куляшоў, Васіль Вітка, Андрэй Макаёнак, Мікола Аўрамчык, Якаў Герцовіч, Ніна Тарас... Штовечар усе збіраліся ва ўтульным холе другога паверха, вялі гаворку пра літаратуру, новыя кнігі, іх аўтараў, расказвалі розныя гісторыі.

Аднойчы хтосьці ўспомніў даваеннага дырэктара Беллітфонду Мірона Левіна, прыгадаў, як той вазіў у Маскву на кансультацыю да прафесара-псіхіятра паэтаў Віктара Казлоўскага і Ізраіля Плаўніка, брата Змітрака Бядулі. Маўляў, у бальніцы, куды прыехалі мінчане, дырэктар пакінуў сваіх падапечных, а сам пайшоў шукаць прафесара. Тым часам прафесар сам аб'явіўся, запытаўся ў паэтаў: «Вы да каго?» — «Мінчане мы...» — пачалі было хлопцы. — «А-а! Гэта вы прывезлі на кансультацыю пісьменнікаў... Дзе яны?» — «Адзін у Маскве ўцёк...», — адказаў Віктар Казлоўскі. — «А другі толькі што па калідоры пабег, — дадаў Ізраіль Плаўнік і паказаў: — Недзе ў гэты бок». Прафесар знайшоў Левіна, запрасіў у свой кабінет. Пакуль высвятляў, хто каго прывёз, дык сапраўдных пацыентаў і след прастыў...

Я не стрымаўся, перапыніў расказчыка:

— Прабачце, вы пра паэта Віктара Казлоўскага, майго земляка? Нядаўна бачыў яго, размаўляў...

Усе на мяне глянулі са здзіўленнем: «Няўжо праўда?».

— Праўда. Жыве ў нас на Уздзеншчыне, у вёсцы Мрочкі. Тыдні два назад ездзіў я на веласіпедзе ў Камянкоўскі сельсавет. Збочыў у Мрочкі, каб убачыць паэта. Дома не заспеў — сказалі, пайшоў у лес. Дагнаў я Віктара Іванавіча ля лесу. Даў «добрай раніцы!», пахваліўся, што таксама вершы пішу. На жаль, гаворкі ў нас не атрымалася. Ён быццам не рады быў сустрэчы са мною. Пра свае кніжкі, вершы — ні слова. І пра літаратуру — таксама. Толькі на развітанне, цяжка ўздыхнуўшы, сказаў: «Раней мне за адзін радок верша плацілі больш, чым сёння за цэлы дзень... работы ў лесе».

Пісьменнікі, пачуўшы гэта, былі здзіўлены:

— Няўжо жывы Віктар Казлоўскі? Яго ж у трыццаць сёмым...

— Жывы, — адказаў я. — Хаты не мае, жыве адзінока ў зямлянцы. Галадае. Кажуць, прабіраецца на калгасную ферму, бярэ там патроху бульбы, пячэ яе ў печцы...

Пісьменнікі загаманілі навыперадкі:

— Хлопцы! Нядобра! Наш пісьменнік хворы, галадае, жыве ў зямлянцы, а мы нічога не ведаем.

— Трэба званіць Броўку! Неадкладна!

— А, можа, адгэтуль адразу ў раён?

Неўзабаве з Мінска да Віктара Казлоўскага прыехала дама ў капелюшы, а з ёю — важнага выгляду мужчына сярэдніх год. Па вёсцы пайшла пагалоска: «Напэўна, багатыя сваякі аб'явіліся. Добра, што не з пустымі рукамі. У краме з ног да галавы адзелі Вінцэся...». Былі і дакоры: «Успомнілі нарэшце! Не маглі раней!».

А праз некалькі дзён усе ведалі: прыязджалі з Саюза пісьменнікаў бухгалтарка М. Хайноўская і Алесь Якімовіч, сказалі, што на рахунак калгаса паступяць грошы, за іх пабудуюць Вінцэсю хату...

Першы свой верш Вінцэсь Казлоўскі надрукаваў у «Беларускай вёсцы» ў 1925 годзе. Падпісаў яго імем Віктар. З таго часу на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў досыць часта з'яўляліся вершы і публіцыстыка ўздзенскага хлопца з вёскі Мрочкі.

Будучы паэт нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і. У Івана Казлоўскага было восем дзяцей. Вінцэсь нарадзіўся шостым. Хлопчык рос дапытлівым, да ўсяго праяўляў цікавасць. Вершы пачаў пісаць у пачатковай школе. Пасля сямігодкі працаваў з бацькам на яго невялікім надзеле зямлі, дапамагаў мясцовым уладам станаўленню новага жыцця на вёсцы. Як сельскага актывіста, хлопца паслалі ў Слуцк на рабфак. Адтуль, пасля вучобы, падаўся ў Мінск, каб стаць студэнтам Белпедтэхнікума.

З В. Казлоўскім амаль аднначасова вучыліся ў тэхнікуме з Уздзеншчыны Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Алесь Якімовіч. Іх часта запрашалі чытаць свае творы на літаратурных вечарах, канцэртах. У харавым гуртку хораша гучалі галасы П. Труса і В. Казлоўскага.

У тэхнікуме выкладаў родную мову Якуб Колас. Народны паэт цікавіўся творамі маладых пісьменнікаў, сачыў за іх творчым ростам. Звярнуў увагу і на вершы В. Казлоўскага, акрыліў іх аўтара, падтрымаў добрым словам, параіў маладому паэту пасля заканчэння тэхнікума паступіць на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта.

Віктар Казлоўскі скончыў яго ў 1931 годзе, стаў працаваць літаратурным работнікам Белрадыёцэнтра. Вечарамі сядзеў у бібліятэках, шмат чытаў, пісаў, друкаваўся, рабіў пераклады з рускай паэзіі.

У 1932 годзе выходзяць адразу тры кніжкі В. Казлоўскага: зборнікі вершаў «Слова аб юнай краіне», «Музыка працы» і ліра-паэма «Рахіль». У перыядычным друку з'яўляюцца водгукі на гэтыя творы. Адны з крытыкаў адзначалі, што аўтар перагружае свой радок складанай метафарычнасцю, другія — ставілі гэта ў заслугу паэту, што ён ідзе ўслед за Уладзімірам Маякоўскім...

У вершы «Абвяшчаю я свой прыгавор» паэт славіць краіну «Магніта, Днепрабуда», верыць, што «будзе новы грымець Турксіб», і абвяшчае:

**Буду я да апошніх сіл**
**Ваяваць за краіну красы.**
**А калі ў змаганні памру,**
**Будзе сын вартаваць зару.**

На жаль, В. Казлоўскаму не суджана было мець ні сям'і, ні сына. У «краіне красы», за якую даў клятву «да апошніх сіл ваяваць», паэт зведаў незаслужаную крыўду. Пасля таго, як заўзятыя крытыкі знайшлі ў радках паэта нейкія «ідэалагічна-шкодныя мухі», яго выклікалі ў адну з важных дзяржаўных устаноў. Пра што там вялі гаворку з ім, можна толькі здагадвацца. Пасля гэтых «выклікаў» у Віктара Казлоўскага пачаў парушацца творчы працэс, пачала парушацца і псіхіка. Жыў і працаваў ён з нейкай аглядкай на кагосьці, іншы раз баяўся падпісаць свае творы поўным прозвішчам. Скончылася тым, што паэта звольнілі з працы, ён вымушаны быў вярнуцца ў родную вёску. Праз некаторы час зноў прыехаў у Мінск, абіваў парогі пісьменніцкай арганізацыі, рэдакцый газет і часопісаў, Белрадыёцэнтра, але замест работы апынуўся ў псіхічнай бальніцы.

Усю вайну і пасля яе В. Казлоўскі са сваёй невылечнай хваробай да канца сваіх дзён жыў на роднай яму Уздзеншчыне. Часта вяртаўся са сваёй новай хаты, якую яму збудавалі ўсё ж, у зямлянку. Яму жылося там лягчэй, смялей...

Да гэтых нататак, якія колькі год ляжалі ў маім рабочым стале, хочацца дадаць новыя звесткі пра незвычайны і складаны лёс паэта-земляка.

У Саюзе пісьменнікаў мне паказалі папку, дзе ляжаць некаторыя дакументы і фота В. Казлоўскага. Усё пажоўклае ад часу. Гэта абрыўкі вокладкі, на якой яшчэ можна прачытаць: «Членскі біл...», нейкіх іншых дакументаў. Здымак таксама амаль не збярогся, толькі на адваротным баку картачкі можна прачытаць: «На ўспамін... дарагому...». Лепш ацалела другое фота: паэт стаіць на сцэне з разгорнутай кнігай. На другім баку здымка захаваліся словы: «Прыняццё шэфства...», «выступленне...». Ёсць дата: «12 ліпеня 1934 г.» і подпіс — «В. Казлоўскі».

У папцы захоўваецца «Запрашальны білет» з тэкстам: «Тав. Казлоўскі В. Орг. камісія запрашае Вас прыняць удзел у рабоце III-га Усебеларускага з'езда рабселькораў 25.2.35 г.». Захаваліся болей-меней непашкоджанымі «Пропуск у зачыненую сталоўку пісьменнікаў» з 16-цю нявыкарыстанымі талонамі на абеды, а таксама «Даведка на атрыманне пашпарта». У ёй адказы на пытанні дае сам паэт: «Казлоўскі Віктар (Вікенцій) Іванавіч... Не працую нідзе, прымацаваны да сталоўкі Саюза пісьменнікаў БССР». У графе «Агульны працоўны стаж» запісана: «6 год (лічу сталую работу ва ўстановах)». Даведка запоўнена паэтам 3 сакавіка 1935 года. Можна меркаваць, што недзе вясной таго года В. Казлоўскі пакінуў Мінск.

Пра версію аб цяжкай хваробе В. Казлоўскага я ўжо гаварыў. Згадаю і яшчэ адну. Пра яе мне паведаў М. Аўрамчык. Ён да вайны вучыўся ў Мінскім педінстытуце. Там вёў заняткі літаратурнага аб'яднання Пятро Глебка. Аднойчы пачынаючыя пісьменнікі пацікавіліся ў яго: «Чаму не піша Віктар Казлоўскі?». І пачулі: «З ім здарылася бяда. На яго напалі хуліганы, моцна стукнулі па галаве. Па гэтай прычыне паэт пакуль што не можа творча працаваць». Адчувалася, П. Глебка ведаў больш, чым сказаў, нешта недагаворвае, але студэнты не сталі далей нічога ўдакладняць: у тыя часы было не прынята праяўляць занадтую цікаўнасць да лёсу «прапаўшых» людзей.

Пасля таго, як у В. Казлоўскага пабывала дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт акрыяў душою, бярог свой новы касцюм, насіў яго толькі ў нядзельныя і святочныя дні — чуў я пра гэта больш за сорак год назад на Уздзеншчыне.

Сёй-той з пісьменнікаў, калі заходзіла гаворка пра нялёгкую долю В. Казлоўскага, казаў, што паэт няйначай наўмысна прыняў такі вобраз жыцця-існавання, бо над ім, як і над ягонымі сябрамі, у тыя страшныя гады віселі злавесныя хмары. Як бы там ні было, а відавочна, што з псіхікай у яго было не ўсё добра.

Пра ўсё гэта я напісаў Уладзіміру Казючыцу, дырэктару сярэдняй школы вёскі Суткі, што паблізу ад Мрочак. Прасіў Уладзіміра Яўгенавіча: можа, ён ведае штосьці новае пра ўздзенскі перыяд жыцця свайго земляка. Атрымаў неўзабаве ад У. Казючыца ліст і два нумары раённай газеты «Чырвоная зорка» (ад 18 і 21 сакавіка 1993 г.) з артыкулам «Забыты паэт Уздзеншчыны». Яго аўтар, намеснік рэдактара газеты В. Сабалеўскі прыгадвае ўспаміны былога загадчыка Уздзенскага райфінаддзела У. Кашынскага. Пра тое, як аднойчы ў райвыканкам пазванілі з Саюза пісьменнікаў Беларусі, цікавіліся паэтам В. Казлоўскім. Аднак пра яго ніхто тут не чуў. Звярнуліся ў Камянкоўскі сельсавет. «Жыве такі дзядок у нашых Мрочках, — сказалі. — Але што ён паэт, не ведаем». Да «дзядка», якому тады ішоў 45-ы год, прыехалі старшыня райвыканкама М. Бахцін, старшыня планавай камісіі С. Далінчук і старшыня выканкама мясцовага сельсавета Я. Ус. У зямлянцы, дзе жыў паэт, ледзь умясціліся, успамінае У. Кашынскі, які таксама быў у складзе гэтай «дэлегацыі». Гаспадар «хаты» сустрэў гасцей спалохана, не хацеў і гаварыць пра свае вершы і кнігі, адмовіўся ад грашовай дапамогі і новага касцюма.

Раённая газета папрасіла тых, хто ведаў В. Казлоўскага, сустракаўся з ім, прысласць свае ўспаміны. Прыйшоў ліст ад Ганны Рымашэўскай з Мрочак. Яна расказвала, як будучы паэт паехаў вучыцца ў горад, як праз некалькі год ён вярнуўся ў родную вёску. «Вярнуўся, — піша жанчына, — не тое слова. Вінцэся прывезлі і пакінулі хворага без усялякіх сродкаў на жыццё. Ён адчуваў, што будзе абузай для старэйшых братоў Кастуся і Юліка, у іх саміх цесната, нішчымніца, малыя дзеці. Вінцэсь абсталяваў на прыгуменні зямлянку і жыў там, калі гэта можна назваць жыццём. Летам было лягчэй, больш часу з людзьмі праводзіў, хадзіў у калгас на сенакос, на іншыя работы. Родзічы, суседзі калі-нікалі давалі што-небудзь з'есці...»

Другі жыхар Мрочак Адам Вярбіцкі згадвае, што ў гады барацьбы з «нацдэмаўшчынай» хтосьці вычытаў у паэме «Рахіль» нейкія «варожыя» думкі. Калі прыйшлі арыштоўваць паэта, з ім здарыўся нервовы прыпадак. У такім стане забралі В. Казлоўскага ў турму.

Праўда гэта ці толькі здагадка? Не так даўно давялося пачуць такое, што развеяла сумненні.

Былы вязень ГУЛАГа П. Пруднікаў у артыкуле «Ахвяра часу», які надрукаваны ў альманаху «Дзень паэзіі — 1992», піша: «Пра ўсе свае пакуты, пра сваю жыццёвую трагедыю расказаў мне сам Віктар Казлоўскі, калі мы наведалі яго з паэтам Станіславам Шушкевічам». Аказалася, паэта неаднойчы «запрашалі» ў органы НКУС для «задушэўных гутарак», узялі ў яго падпіску аб нявыездзе з Мінска, абвінавацілі, што хавае сваё сапраўднае імя, прычапіліся і да прозвішча: нібыта шляхецка-польскае. Ставілі паэту ў віну і яго сяброўства з «ворагамі народа», а

найперш тое, чаму ён «падонкаў» не хоча выкрываць. Прымушалі «дапамагаць» выкрываць «нацдэмаў» і «шпіёнаў», якія заселі ў пісьменніцкай арганізацыі і выдавецтве. За гэта абяцалі спісаць яго «страшную віну» перад Радзімай. А ён па-ранейшаму стаяў на сваім: «Сярод маіх сяброў не было, няма і не будзе ворагаў народа. А бруднай справай займацца не ў маім характары». «Ах, абарона савецкага ладу, па-твойму, — гэта брудная справа?» — узарваўся следчы.

В. Казлоўскага папярэдзілі: гэта апошняя з ім «размова», калі праз тры дні не прынясе пэўных звестак пра «варожыя элементы», сядзе са сваімі сябрамі — «ворагамі народа».

Паэт не памятае, як апынуўся на людной вуліцы. Гудзела ў галаве, яна, здавалася, была наліта свінцом ад бяссонных начэй, допытаў, а тут яшчэ апошняя пагроза-ультыматум. З вуснаў міжволі сарваліся словы: «Я — не стукач!». Словы гэтыя ён казаў кожнаму сустрэчнаму. Паэт апынуўся ў аддзяленні міліцыі, адтуль яго забралі ў псіхічную бальніцу...

У нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваюцца ўсе тры кніжкі В. Казлоўскага. Іх не лічылі «прапаўшымі», як самога аўтара. На тытульнай старонцы зборніка «Музыка працы» стаіць «Проверено 1939 г.» — штамп тагачаснай цэнзуры.

За ўсе пасляваенныя гады ў нашым друку не было ніводнага твора В. Казлоўскага, акрамя верша «Абвяшчаю я свой прыгавор», ды і той са значным скарачэннем. Ён змешчаны ў трохтомнай «Анталогіі беларускай паэзіі», якая выйшла летась. Не кідаю папроку складальнікам — яны проста даверыліся тэксту аднайменнай трохтомнай анталогіі, якая выходзіла 33 гады назад.

З верша выпалі радкі, у якіх паэт гаворыць суровую праўду, якой цаной быў разбуран «стары свет»:

**Над зямлёй**
**Дыміўся сіні ліпень**
**І прапах крывёю**
**Ўвесь прасцяг,**
**Быццам тысячы**
**Разбітых скрыпак**
**Плакаў свет,**
**Шкадуючы жыццяя.**

**А жыццё,**
**Суровае ў змаганні,**
**Сабе дбала лепшую красу.**
**І бацькі**
**Прад краем прысягалі,**
**Што сынам**
**Свабоду прынясуць.**

**І калі**
**У паўстанні дзён вялікіх**
**Галавы злятаді**
**З дужых плеч,**
**Па бацьках**
**Спраўлялі мы памінкі,**
**Мы братоў**
**Праводзілі на смерць.**

Калі чытаеш вершы В. Казлоўскага, робіш выснову: у нашу літаратуру ішоў з Уздзеншчыны яшчэ адзін самабытны паэт.

**За вакном мяцеліца,**
**За вакном снягі.**
**Сад мой не вяселіцца**
**Ўсмешкамі вяргінь.**
**Толькі дзесьці чуецца**
**Звонкі рып саней**
**І шумуюць вуліцы**
**У музыцы завей.**

*(«Дрывасекі»)*

В. Казлоўскі браў за ўзор напеўную народную творчасць. Верш «Гаварылі сосны, гаварылі клёнам» выклікае ў памяці вядомы Ясенінскі радок:

**«Мы адшалясцелі галавой зялёнай», —**
**Гаварылі сосны, гаварылі клёнам.**
**«Ой на што, мой любы, ты мяне**
**пакінуў?..», —**
**Гаварыла маці, гаварыла сыну.**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**«Не сумуй, матуля, не сумуй, вярнуся,**
**Абніму прасторы вольнай Беларусі...»**

**Паэт любіць бацькаўшчыну і верыць:**
**Беларусь не будзе больш бадзяцца —**
**Залатым убраннем прашуміць.**

*(«Тачнік»)*

Дзе б ні быў паэт, ён думкамі хінецца да роднай зямлі, яе рэк, лугоў, лясоў, палеткаў:

**Я кожны дзень**
**Ўзнімаюся над морам,**
**Губляю сінь**
**Задумлівых вачэй.**
**І хочацца**
**Мне ў дальнія прасторы**
**Да родных хат**
**Хмурынкаю ляцець.**

«Ляцець», каб «пажоўклы звон» жытнёвых палеткаў «глытаць кілішкам жнівеньскага дня». Гэта з верша «Над Чорным морам», пад якім стаіць: «Сімеіз, жнівень 1929 г.». Там паэт бываў і раней — у 1925 годзе. З паездак пад паўднёвае сонца ў зборніку «Слова аб юнай краіне» знаходзім крымскі цыкл вершаў.

У Мрочках у студзені 1932 года В. Казлоўскі піша «Баладу пра варанога каня». Колькі пяшчоты, жалю аддае паэт сялянскаму каню! Ён жа зямлю арэ, а калі трэба, разам са сваім гаспадаром ідзе яе абараняць ад ворагаў.

Хочацца сказаць некалькі слоў і пра паэму «Рахіль» — песню чыстаму каханню лірычнага героя да той, у якой

**Цвітуць вачэй**
**Чароўныя куколі**
**Пад чорнымі**
**Завеямі брывей.**

Твор пра тое, што «часта марыцца», пра тое, што «часта, часта сніцца» паэту. З першых радкоў паэмы з вуснаў яе героя «думак лебедзі плывуць»:

**Я чуў, як часта**
**Срэбнымі ключамі**
**Званіла поўнач**
**Ля маіх акон.**
**І я ішоў...**

Непадалёк ад вёскі Мрочкі, па той бок Нёмана, раскінулася ўздоўж рэчкі мястэчка Пясочнае. З дзіцячых год будучы паэт добра ведаў туды дарогу: насіў прадаваць венікі, кашы, калатоўкі, памёлы, бываў там з бацькамі на кірмашах. Прыязджаючы дахаты студэнтам, таксама не забываў сцяжыну ў Пясочнае. Аднавяскоўцы здагадваліся: за рэчкай засталося першае каханне Вінцэся — прыгожая дачка местачковага яўрэя.

**І моўчкі я**
**З-за чорнай ваканіцы**
**Яе ўсмешкі**
**Палкія скрадаў.**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**А ноч-зладзейка**
**Чорнымі рукамі**
**Зрывала зор**
**Жывую прыгажосць.**

Прыдзірлівы крытык мог бы, вядома, знайсці ў паэме недакладныя рыфмы, збой рытму, плакатнасць некаторых радкоў і інш. Але, мне здаецца, чытача падкупляла найперш непасрэдная споведзь лірычнага героя, вобразная паэтычная мова паэмы.

Вядома, В. Казлоўскі жыў у сваім часе, славіў яго. «Я — сын рэспублікі», — заяўляе паэт у аднайменным вершы:

**Я хачу**
**сваім словам грубым**
**На франтах будаўніцтва**
**змагацца**
**За магутны**
**творчы**
**уздым,**
**За вялікія**
**тэмпы працы.**

Паэт працягваў вучыцца ў сваіх настаўнікаў, выходзіў на магістральны шлях вялікай літаратуры, але няўмольны страшны час расстраляў «дум закілзаныя коні», якія «ірваліся нястрымана ў прасцяг»...

На могілках вёскі Мрочкі за металічнай агароджай стаіць сціплы помнік. На ім словы:

Писатель
Козловский В. И.
Родился 6 сентября 1905 г.
Умер 24 февраля 1975 г.
Память брата и племянников.

Вось так, і гэты сціплы помнічак, і надпіс па-руску — дакор усім нам: забылі, выкраслілі з памяці, як быццам і не было такога паэта ў нашай творчай грамадзе...

Думаецца, варта нам парупіцца, сабраць лепшыя творы Віктара Казлоўскага і выдаць іх асобнай кніжкай. Гэта будзе лепшым помнікам самабытнаму паэту.

# ЗМЯНІЎСЯ ПОГЛЯД НА ЭПОХУ

30 траўня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася канферэнцыя «Барока ў беларускай культуры і мастацтве», арганізаваная пры дапамозе аддзела старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН. Былі закрануты шматлікія мастацкія праблемы, звязаныя з кваліфікацыяй архітэктурных помнікаў, даследаваннямі кніжнай графікі, аналізам алтарнай і надмагільнай скульптуры, рэстаўрацыяй фрэскавага жывапісу. З дакладамі выступілі даследчыкі розных канцэптуальных поглядаў — В. Шматаў, Н. Высокая, Т. Габрусь, А. Ярашэвіч, В. Гліннік, М. Ткачэнка, Ф. Янушкевіч і інш.

Як высветлілася падчас канферэнцыі, неабходна змяніць погляды на барока як на нешта прынесенае каталіцызмам, нехарактэрнае для нашай культуры. Барока — найяскравейшая праява беларускай мастацкай школы. Беларусь у эпоху барока не проста далучылася да заходняй культурнай навацыі, але стала тым асяродкам, дзе нараджаліся барочныя мастацкія і архітэктурныя формы значна раней за іншыя краіны, ахопленыя канфесійнымі канфліктамі. І гэтая роля беларускага мастацтва ў еўрапейскай культуры не можа быць выпадковая, бо і XX ст. таксама дало шмат сведчанняў, што на Беларусі — адной з першых — нарадзіўся авангард. У эпоху барока канчаткова сфарміравалася беларуская нацыя з вялікім творчым патэнцыялам, які дазволіў так хутка далучацца да вырашэння сусветных мастацкіх задач. Сотні заходнееўрапейскіх майстроў, якія працавалі тут ў эпоху барока, акрэслілі Беларусь як буйны асяродак еўрапейскай культуры.

Матэрыялы канферэнцыі будуць падрыхтаваны да друку і выйдуць асобным, добра ілюстраваным зборнікам.

**Н. К.**

# НОВЫ ЧАСОПІС

Першы нумар рэгіянальнага гісторыка-культурнага часопіса «Свіцязь» выйшаў у Гродне. Яго выдавец — Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры. Сярод аўтараў часопіса — гродзенскія навукоўцы, літаратары, дзеячы культуры.

Галоўны рэдактар «Свіцязі» прафесар Сяргей Габрусевіч так акрэслівае напрамак часопіса: «Для нас пытанні культуры не абмяжоўваюцца адно гістарычнай спадчынай, якая ў нас надзвычай багатая. Мы бачым праблему значна шырэй. Гэта і мова, і адукацыя, і экалогія, і сацыяльныя пытанні, і пытанні інфармацыі, якія ў наш час набываюць вырашальную ролю».

Цяпер рэдакцыя рыхтуе да друку другі нумар часопіса.

**А. РАМАНАЎ**

# Марына БАРСТОК

На 79 годзе жыцця памерла пісьменніца Марына Барсток.

Марыя Мікітаўна нарадзілася 15 красавіка 1916 г. ў вёсцы Наркавічы Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1935 годзе скончыла Полацкі педагагічны тэхнікум. Два гады настаўнічала ў мястэчку Ветрына. Вучылася завочна ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, з 1937 года — студэнтка Мінскага педагагічнага інстытута. У 1939 г. была прызвана ў Чырвоную Армію і накіравана працаваць загадчыкам аддзела культуры брэсцкай абласной газеты «Заря». У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны выехала ў Горкаўскую вобласць. У 1945 г. скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, потым аспірантуру пры Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі. Дваццаць гадоў яна плённа працавала ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.



Першы верш апублікавала ў 1934 годзе, з 1937 года выступала як крытык і літаратуразнавец. Напісала кнігі «Вобраз станоўчага героя ў творчасці Якуба Коласа», «Пятро Глебка», «Вывучэнне творчасці Кузьмы Чорнага ў школе», «Максім Багдановіч», «Адзінства і разнастайнасць сучаснай беларускай паэзіі», «Руплівы поўдзень. Нарыс творчасці Генадзя Бураўкіна», шэраг брашур. Адна з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», «Истории многонациональной советской литературы», «Истории белорусской советской литературы». У апошнія гады жыцця зноў выступала ў перыядычным друку з вершамі.

Марына Мікітаўна была добрым і чулым таварышам, чалавекам высакароднай бескарыслівай душы.

Светлы вобраз Марыі Мікітаўны Барсток назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яе ведаў.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**Інстытут літаратуты імя Янкі Купалы АН Беларусі**


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 23.06.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12